ПАДАРОЖЖА ЎЗДОЎЖ МЯЖЫ 1772 ГОДА

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 11(40) — 2021

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

БАТУМІ: СУБТРОПІКІ, ХАЧА І ПУРЫ

ВІТАЎТ СУПРАЦЬ УЛУГБЕКА

СУХАЯ, 28: РЭЦЭПТЫ ФІРЫ СЯМЁНАЎНЫ, ЛЕГЕНДА ПРАФЕСАРА ЛЕУСА

## ДРАМА МАКСІМА ЗА ГРАХІ ДЗЯДОЎ?

16+

## Ад рэдакцыі

*Бо як ёсць у народа такія —*
*Не загіне давеку народ.*

Гэтыя словы Уладзіміра Караткевіча — пра класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, «песняра чыстае красы», як яго назваў яшчэ пры надзвычай кароткім жыцці паэта Антон Луцкевіч. Чалавека, сама біяграфія якога сведчыць пра тое, які наймагутнейшы патэнцыял ад пачатку быў закладзены ў беларускую нацыянальную ідэю, наколькі яна, нягледзячы на вельмі неспрыяльныя ўмовы для развіцця, была прывабнай і натхняльнай. Не спыняючыся нават перад вялікімі адлегласцямі.

Толькі ўявіць: больш за 100 гадоў таму ў глыбіні Расіі, у Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі, жыве юнак, беларус паводле паходжання, які, аднак, радзіму пакінуў у раннім дзяцінстве. Вакол яго пануе руская мова і культура, а бацька, хоць сам займаецца вывучэннем беларускай этнаграфіі і фальклору, у перспектывы асобнага беларускага нацыянальнага развіцця не верыць і свядома дзяцей у гэтым духу не выхоўвае. Але адзін са шматлікіх сыноў вельмі настойліва цягнецца сам: самастойна вывучае мову, культуру, гісторыю. І піша вершы, вельмі нетыповыя для тагачаснай беларускай літаратуры, якія зразу ж кладуцца ў яе скарбонку, робяцца класікай і не старэюць ды не трацяць актуальнага гучання да гэтай пары.

«Самастойна вывучае мову»... Гэта нават і сёння для многіх вельмі складаная задача, пры наяўнасці мноства слоўнікаў, падручнікаў, анлайн-курсаў і іншай патрэбнай інфраструктуры, пры магчымасці колькі заўгодна чытаць кнігі па-беларуску і слухаць гучанне жывой мовы хоць бы праз інтэрнэт. А ў часы Максіма нічога гэтага не было. Нават граматыка Браніслава Тарашкевіча яшчэ не была створаная, кнігі па-беларуску былі рэдкай з'явай, газета «Наша Ніва» толькі пачала выходзіць. У распараджэнні хлопца толькі багатая бацькава бібліятэка, дзе нямала выданняў, датычных беларускай гісторыі, этнаграфіі і фальклору, ды сам бацька, у якога можна нешта пры патрэбе запытацца. Як аказалася, для генія дастаткова і гэтага.

Кароткае, усяго 25-гадовае жыццё Максіма Багдановіча — адзін суцэльны духоўны подзвіг, які здзяйсняўся на фоне няпростай, нярэдка нават трагічнай сямейнай гісторыі. Пра яе да 130-годдзя паэта ў гэтым нумары (**старонкі 4–20**) піша былая супрацоўніца музея Максіма Багдановіча, пісьменніца Паліна Качаткова.

Наша Гісторыя
11/2021
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Валянціна Андрэева

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — фота Максіма Багдановіча, апрацаванае з дапамогай нейрасеткі Русланам Чатыркам.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001
у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск,
вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефон:** +375 (33) 311-28-43

**E-mail:** kramanasha@gmail.com

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 14.12.2021.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 2042021.
Наклад 3005.

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка ў друкарні «Маскоўскі друкарскі двор», вул. 3-я Харашоўская, д. 18, к. 1, 123298, г. Масква, Расійская Федэрацыя
www.printyard.ru, тэл. +7 (499) 283-64-29


















Тэлефон для кантакта ____________________

Нумар рахунку (чэка, квітанцыі аб аплаце) ____________________

____________________

Дасланць на адрас 220004, Мінск, а/с 62.






32


44




78




92







**Партрэт Максіма Багдановіча** апрацаваны пры дапамозе нейрасеткі Русланам Чатыркам.

# ДРАМА МАКСІМА

*Занепад роду Багдановічаў*

**«За грахі бацькоў», «за грахі дзядоў». Сапраўды грахі мінулых пакаленняў вісяць праклёнам над родам? Ці справа толькі ў генах? Паліна Качаткова, былая супрацоўніца музея Максіма Багдановіча, расказвае няпростую гісторыю сям'і класіка, які, хворы, прысвяціў сябе беларускай справе і стварыў неперавершаныя творы.**

«— Чаго сядзіш? Угарыш!

Але ў маці накіпела на сэрцы. І яна з "сэрцам" адказала:

— Што табе за дзела? Ідзі да сваёй Настачкі!

Толькі ўсяго і было сказана. Але гэта быў выклік. Тут чуўся пратэст, крыўда, гнеў.

— А, дык ты так?

Ён зняў са сцяны вяроўку, шпурнуў маці тварам у падушку — азвярэлы, не памятаючы сябе, пачаў біць яе вяроўкай. Увайшоўшы ў раж, ён тройчы прымаўся біць. Спаласаваў усё цела. Гэта называлася — вучыць і "правучыць".

— Бедная, бедная Анэлька, — так гаравала бабуля Рузаля, — якому ка́ту іна ў рукі папала».

Так у мемуарах апісваў сцэну збіцця маці бацькам Адам Багдановіч — бацька Максіма, усе дыялогі пры гэтым перадаваў па-беларуску. Падчас збіцця Анэля Багдановіч, бабуля паэта, была цяжарная сваім першым сынам — Адольфам (Адамам). Яе муж Юры, панскі кухар, вярнуўся ад папулярнай у сядзібе пана Лапы пакаёўкі Насты Новікавай. Яго 18-гадовая цяжарная жонка сядзела каля печкі, чакала яго і ціха плакала. Жылі маладыя ў асобным пакойчыку пры панскай кухні.

## Сямейная катастрофа

У сваіх мемуарах Адам Багдановіч, бацька паэта, называе збіццё цяжарнай маці «сямейнай катастрофай», якая нязмыўнай плямай ляжала на сумленні бацькі. Вынікам гвалту стала тое, што Юры і Анэля выбраліся з пакойчыка пры панскай кухні, далей ад спакушальніцы — пакаёўкі Насты. Пераехалі жыць у школьны будынак у мястэчку, дзе 25 сакавіка 1862 года нарадзіўся іх першы сын Адольф, якога пасля будуць ведаць як Адама Багдановіча.

«Ці каяўся ў гэтым жорсткім учынку мой бацька? — пісаў Адам Багдановіч. — Не думаю. Для яго было дастаткова ўнутраных матываў. А гэтыя матывы заключаліся ў яго характары, ва ўласцівасцях яго натуры. Ці асуджала яго маці? Так, асуджала, але даравала, тлумачыла ўласцівасцямі яго запальчывага характару. Гэта значыла: прынароўлівайся, не раздражняй».

## Панскі кухар

Юры Багдановіч, дзед паэта, нарадзіўся ў дзень святога Юр'я ў 1837 годзе ў сям'і садоўніка, які працаваў у маёнтку Рудабелка Бабруйскага павета (цяпер райцэнтр Акцябрскі ў Гомельскай вобласці). Маёнтак быў набыты панам Аляксандрам Лапам, які накіраваў Юрыя вучыцца на кухара.

Адам Багдановіч згадваў: «Ён паслаў бацьку майго вывучаць маслабойную справу і піваварную справу, а таксама для ўдасканалення ў кухарскай справе паслаў яго на год на кухню пана Булгака, відавочна, знакамітага гастранома. Так да дваццаці гадоў з бацькі атрымаўся добры кухар... ▸

**Максім Багдановіч**
(9 снежня 1891, Мінск – 25 мая 1917, Ялта)

беларускі паэт, публіцыст, літаратурны крытык, перакладчык, літаратуразнавец. Класік беларускай літаратуры. Геніяльны лірык, песні на словы якога сталі народнымі. Пры жыцці публікаваў свае творы ў газеце «Наша Ніва». Адзіны прыжыццёвы зборнік паэта, як выйшаў у 1914 годзе, называўся «Вянок». Пра яго паэт перад смерцю пісаў:

*У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*



**Халапенічы,** радзіма Адама Багдановіча, сёння выглядаюць так.

ФОТА ВАЛЕРА ВЯДРЭНКІ, FACEBOOK.COM

і быў чалавек незвычайнай сілы (браў на плечы да дваццаці пудоў), аноравам быў неўтаймаваны».

Пан Лапа перавёў яго тады з Рудабелкі ў мястэчка Халапенічы Барысаўскага павета.

У Анэлі Асьмак быў выбар: яна магла б выйсці замуж за Гіпаліта Пігулеўскага, лёкая пана Лапы, чалавека мяккага, з добрымі манерамі. Але Анэля абрала Юрыя Багдановіча — чалавека дужага, моцнага, які граў на гармоніку, спяваў песні. Але ён выявіўся таксама аматарам алкаголю, жанчын, схільным да гвалту. Не мясцовы Юры гаварыў на палескім дыялекце, які халапеніцкім здаваўся мовай, «падобнай да ўкраінскай».



**Сёстры Адама Багдановіча** Магдалена, Марыя і Паўліна.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Анэля абрала Юрыя — чалавека дужага, харызматычнага, але пры гэтым аматара алкаголю і жанчын**

У Халапенічах Юры Багдановіч быў кухарам пана Лапы, у яго кішэнях заўсёды былі міндаль, разынкі, салодкае. Брат Анэлі, Ануфры, таксама лёкай, як і Гіпаліт, так пакрыўдзіўся за свайго сябра і калегу, што не пайшоў на вяселле. Але крыўда Ануфрыя не паўплывала на выбар сястры. У лістападзе 1860 года ў метрычнай кнізе халапеніцкай царквы з'явіўся запіс пра тое, што Юры Багдановіч, 23 гадоў, узяў законны шлюб з Анэляй Асьмак, 18 гадоў (нявесце прыпісалі адзін лішні год).

У сям'і Юрыя і Анэлі нарадзіліся дзеці: Адольф (Адам), Магдалена, Вольга (памерла ў дзяцінстве ад воспы), Марыя, Алесь (памёр у дзяцінстве), Паўліна (скончыла жыццё самагубствам у юнацтве ў Мінску праз нешчаслівае каханне).

Рэзкі, неўтаймаваны характар прымушаў Юрыя мяняць месцы працы, таму некалькі разоў ён цалкам распрадаваў сваю гаспадарку ў Халапенічах і пераязджаў з сям'ёй то ў Бабруйск, то ў Мінск (1871 год). У Мінску Юры Багдановіч працаваў кухарам у архірэя Аляксандра Дабрыніна, здымаў для сям'і кватэру ў Архірэйскім завулку паміж Захар'еўскай і Юр'еўскай вуліцамі.



REBELLERALLY.COM

**Дзед Максіма Багдановіча быў панскім кухарам,** чалавекам гарачага нораву.

### Украінская лінія

Максім Багдановіч ніколі ў жыцці не бачыў сваіх дзядоў ні па маці, ні па бацьку. Хоць па часе са сваім дзедам Юрыем ён сустрэцца мог бы. Але Юры Багдановіч жыў на той час сваім жыццём. Пасля смерці жонкі Анэлі — яе ў 36 гадоў забрала пнеўманія — ён займаўся камерцыяй, вандраваў, асеў у Адэсе і там ажаніўся яшчэ некалькі разоў. Але падтрымліваў кантакты з дзецьмі ад першага шлюбу, асабліва з дочкамі — Магдаленай і Паўлінай.

Адам Багдановіч узгадваў: «у маіх сёстрах Магдалене і Паўліне ён адчуваў ганарлівы і ўладны дух і таму болей за мяне іх любіў: я далёка не ў бацьку пайшоў».

Памёр Юры Баргановіч у 1904 годзе. Ці былі ў яго дзеці ва Украіне ад іншых шлюбаў? Можа, якраз там, ва Украіне, і расквітнеў род Багдановічаў? Можа, у Адэсе і цяпер жывуць нашчадкі Юрыя Багдановіча, невядомыя сваякі Максіма? «Украінскі след» пакуль багдановічазнаўцамі належна не распрацоўваўся.

На адваротным баку адэскага фота Юрыя Багдановіча з другой жонкай бібліёграф Ніна Ватацы алоўкам памылкова пазначыла, што побач з Юрыем — Анэля, якая на той час ужо была мёртвай. А імя другой жонкі дагэтуль невядомае.

### Недаўгавечныя продкі паэта

Многія продкі паэта былі недаўгавечныя, як і славуты нашчадак. Прадзед паэта Тамаш Асьмак, бацька Анэлі, якая выйдзе замуж за наравістага кухара, нарадзіўся ў 1817-м, а памёр у 1847-м. У 1840 годзе ён ажаніўся з Рузаліяй Казіміраўнай Лісоўскай. У сям'і нарадзіліся дзеці: Марыля, Анэля, Ануфры. Адам Багдановіч пісаў: «Дзеда Тамаша я ніколі не бачыў, бо памёр ён задоўга да майго нараджэння, але ўяўляю яго па абліччы сваёй маці, з прамым носам і агульным мяккім выразам твару, супрацьлеглым энергічным і суровым рысам твару бабулі».

Тамаш працаваў краўцом, быў майстрам сваёй справы, здольным за спінай управіць нітку ў іголку. А памёр «ад нястраўнасці», пражыўшы ўсяго 30 гадоў: «Краўцы ў той час часта хадзілі па вёсках. Дык вось, працаваў дзед Тамаш у вёсцы Перасека, пад Чарэяй. Накармілі яго там кілбасамі, трэба думаць, сапсаванымі. І прыехаў ён адтуль хворы».


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Юры Багдановіч**, дзед паэта, якога Максім ніколі не бачыў.

## «Я быў адной з першых ахвяр русіфікацыі», — напісаў у мемуарах бацька паэта

Прабабуля паэта, Арына Багдановіч (Юневіч) (1814–1856), нарадзілася ў вёсцы Касарычы Бабруйскага павета Мінскай губерні (цяпер Глускі раён Магілёўскай вобласці). У 1832 годзе ў Георгіеўскай царкве вёскі Касарычы яна вянчалася з Лук'янам Сцяпанавічам Багдановічам, вядомым яшчэ па царкоўных дакументах як Скокліч (Багдановіч — прозвішча яго айчыма). Жылі паблізу Касарыч, у маёнтку Рудабелка, дзе Лук'ян Багдановіч працаваў садоўнікам. У шлюбе нарадзілася 8 дзяцей: Франак (Фёдар) — у 1833 годзе, Сапрон — у 1834-м, Георгі (Юры) — у 1837-м, Сямён — у 1839-м, Магдалена — у 1841-м, Емяльян — у 1844-м, Аксіння — у 1849-м, Ганна — у 1851-м.

**Багдановіч быў не толькі тонкім лірыкам кахання. Ён пісаў смелую палітычную паэзію.**

* * *

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі,—
У ёй нават мовы няма.
Збудзіўшысь ад грознай бяды,
Ўвесь поўны смяротнай жуды,
Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»
І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.
Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!
*(1913)*

Адам Багдановіч пісаў: «Калі я хачу ўявіць сабе малады твар маёй нябачанай бабулі Арыны Юневіч, я ўяўляю мілы твар маёй сястры Магдалены, які ззяе велічным супакоем духу, годнай, упэўненай у сабе і сваіх сілах… і я ўпэўнены, што не памыляюся, бо Магдалена была падобная да бацькі. А бацька, як сам казаў, быў падобны да сваёй маці… такім чынам, яна пайшла ў касарыцкі тып Юневічаў».

### Адолік

У сям'і Багдановіча, як і ва ўсёй Беларусі ў той час, русіфікавалі імёны. Дзед у розных дакументах быў то Юры, то Георгій, адпаведна, сын ягоны, Адам (Адольф) — Юравіч, Георгіевіч, Ягоравіч. Бацьку бабы Багдановіча звалі Тамаш, а яна стала Фамінічна.

«Хрэсьбіны мне зрабілі пышныя. У першай пары стаяў сам малады пан Лапа Дамінік Аляксандравіч з ксяндзовай сястрой Ганнай Свенскай. Другая пара была больш простай: землямер (каморнік) з папоўскай дачкой. ▸



**Адам Багдановіч.**

Назвалі мяне Адольфам, ласкава звалі Адолік, а скарочана Адоль. Гэтае імя я насіў да 16 гадоў. А пасля, пры выдачы метрыкі з кансісторыі, апошняя перайменавала мяне ў Адама, назваўшы... больш праваслаўным імем...

Па яшчэ свежым уніяцкім абрадзе мяне хрысцілі праз абліванне, таму мясцовыя стараверы пагардліва называлі нас “абліванцамі”».

Адам Багдановіч хоць і жыў у Расіі, да канца жыцця добра ведаў беларускую мову, цэлыя старонкі мемуараў з дыялогамі і апісанне побыту ў яго па-беларуску. Аднак добра ён ведаў не толькі беларускую мову, але і тое, як перашкаджае беларускі акцэнт у кар'ерным росце ў імперыі. А таму падоўгу выпраўляў вымаўленне *ч* і *шч* сваім пляменніцам.

У эсэ Міхася Стральцова «Загадка Багдановіча» Адам Багдановіч прадстаўлены аптыподам сына Максіма, ворагам беларушчыны, і гэты стэрэатып захоўваецца дагэтуль, бо кніга Стральцова літаратурна таленавітая. Але такая ацэнка далёкая ад рэальнасці. Адам Багдановіч не толькі што не быў ворагам беларускай мовы, мова Максіма была ад бацькі і ад бацькавых кніг.

«Я быў адной з першых ахвяр русіфікацыі», — напісаў у мемуарах пры канцы жыцця Адам Багдановіч.

І ў гэтых жа ўспамінах, напісаных у 1930-я, аўтар асэнсоўвае сваё жыццё пачынаючы з ранняга дзяцінства. Вельмі ярка апісвае беларускае мястэчка XIX стагоддзя. Успаміны былі ўпершыню надрукаваныя ў 1994 годзе ў часопісе «Нёман». Васіль Быкаў тады назваў мемуары Адама Багдановіча найлепшай публікацыяй года.

### Канец панскай кухні

З'язджалі Багдановічы з Халапенічаў пасля таго, як малодшага пана Дамініка Лапу адправілі за краты за спачуванне паўстанню, хоць ён асабіста ў паўстанні не ўдзельнічаў і нават схаваўся ў падвале, калі прыйшоў атрад паўстанцаў забраць яго з сабой. Віна сям'і Лапаў была ў тым, што яны дапамагалі паўстанцам прадуктамі. За гэта




ФОТА АНДРЭЯ АЛЯХНОВІЧА

У 1998 годзе ў Халапенічах адкрыты помнік Адаму Багдановічу. На гэтым фота ёсць і **аўтарка артыкула (злева ад прамоўцы)**.

### Што паглядзець у Халапенічах

У мястэчку Халапенічы захаваліся фактычна ўсе аб'екты, узгаданыя ў мемуарах Адама Багдановіча, а ідэнтыфікаваў іх гісторык Андрэй Аляхновіч — далёкі нашчадак бабы Рузалі па лініі Івана Баранка — стрыечнага брата Адама Багдановіча, які быў першым ягоным хатнім настаўнікам.

Андрэй Аляхновіч, як у свой час і Адам Багдановіч, сцвярджае, што правільная назва мястэчка Халап*е*нічы, а не Хал*о*пенічы.

Што можна пабачыць у родным мястэчку бацькі паэта?

Старая царква ўсё яшчэ ў зруйнаваным выглядзе (пацярпела ад абстрэлу савецкай артылерыяй у 1944-м), але побач паставілі новую, маленькую драўляную.

Месца, дзе стаяла сядзіба паноў Лапаў (да іх яна належала Храбтовічам). Парк, рэшткі падземнага хода, які вёў да касцёла. «Дуб-Тройца», які быў асвечаны ў XIX стагоддзі біскупам.

Месца, дзе стаяла «бабіна хата». Там жыла баба Рузаля, там праходзіла дзяцінства Адама і падзеі, апісаныя ў мемуарах.

Закінутыя каталіцкія могілкі паблізу машыннага двара. Там пахаваныя паўстанцы 1863 года. Расійскія войскі захапілі іх, калі тыя купаліся ў рэчцы, пасеклі шаблямі. Целы распранутых паўстанцаў былі прывезеныя ў Халапенічы, скінутыя на зямлю. Для апазнання былі сагнаныя мясцовыя жыхары. Хто плакаў, тых білі нагайкамі: «Не сметь плакать по мятежникам!» Атрымала нагайкай і цётка Адама Багдановіча, яна плакала.

А ў цэнтры мястэчка — помнік Адаму Багдановічу.

Лапа-малодшы заплаціў свабодай, а сядзібу было прапанавана прадаць для «усиления русского элемента в крае».

А пан Лапа быў адзіным ва ўсёй акрузе, хто мог прэтэндаваць на панскую кухню. І таму, калі ў 1867 годзе Лапы пад ціскам расійскай адміністрацыі сядзібу прадалі, Юры Багдановіч застаўся без працы і выехаў з сям'ёй у Бабруйск. Пасля зноў вярнуліся ў Халапенічы, пасля паехалі ў Мінск — так пачалося доўгае тулянне роду па свеце.

## «Не біўшы кума, не піць і піва»

Юры Багдановіч біў не толькі жонку, але і сына. Сына першы раз ён збіў, калі таму было 10 месяцаў. Мама ўспамінала Адаму, што ён пасля таго зайшоўся так, што пасінеў у немым крыку.

Пасля прыпадкаў гневу і агрэсіі Юры Багдановіч рабіўся мяккім як воск, саступлівым. Калі размова ішла пра сына, Юры Багдановіч казаў так: «Я яго за ўсякую віну сек не шкадуючы! Праўду тыя людзі кажуць: не біўшы кума, не піць і піва. Я строга яго дзяржаў. І вось я цяпер піва п'ю».


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Марыя Багдановіч:** такая худзенькая, а ўжо маці трох сыноў.

Адам Багдановіч падкрэсліваў, што сам пайшоў характарам у маці і, памятаючы ўчынкі бацькі, быў «мяккім» з жанчынамі. Усе тры жонкі Адама Багдановіча мелі вышэйшае за яго сацыяльнае паходжанне, і ён не біў іх. Але, здаецца, псіхалагічны ціск прысутнічаў і ў сям'і Адама.


WIKIMEDIA COMMONS

**Сядзіба Лапаў** у Халапенічах.


WIKIMEDIA COMMONS

**Разумныя цацкі** паводле Фробеля.

## Марыя і смерць

З першай жонкай Марыяй Мякотай, мамай паэта, Адам Багдановіч пазнаёміўся на адным з гурткоў самаадукацыі ў Мінску. У той час яна вучылася на жаночых настаўніцкіх курсах у Пецярбургу, была прыхільніцай педагагічнай сістэмы Фрыдрыха Фробеля*, пісала апавяданні. Да нас дайшоў друкаваны сентыменальны аповед «Напярэдадні Калядаў».

У Мінск яна прыязджала з Пецярбурга да маці і малодшай сястры Аляксандры, якія жылі ў багадзельні: пасля смерці бацькі сям'ю напаткаў нешчаслівы лёс. Малодшыя дзеці трапілі ў прытулак, дзе брацік Міша і памёр, быў пахаваны на Старажоўскіх могілках.

Педагагічныя курсы Марыя Мякота не скончыла: закахалася ў Адама Багдановіча, выйшла замуж. Сям'я жыла на Траецкай гары ў Мінску, на другім паверсе ў доме, дзе на першым паверсе месцілася школа, у якой і працаваў настаўнікам Адам Багдановіч. ▶

* Нямецкі педагог Фрыдрых Фробель распрацаваў перадавую для XIX стагоддзя сістэму выхавання малых дзетак, заснаваную на тэорыях нямецкай ідэалістычнай філасофіі.

HOMOATROX, WIKIMEDIA COMMONS

**Пешаходная цяпер Камсамольская вуліца ў Мінску да 1922 года называлася Багадзельнай**, бо на ёй стаяла гарадская багадзельня.

Тут нарадзіліся два сыны: Вадзім у 1890 годзе, Максім у 1891-м. Жонкі Адама Багдановіча нараджалі практычна штогод.

Матэрыяльна сям'я жыла нармальна, настаўнікі ў Расійскай імперыі добра зараблялі. Дзяцей маці спрабавала выхоўваць па сістэме Фробеля, рабіла для іх «разумныя» цацкі.

Трэці сын Леў нарадзіўся ў 1893 годзе ў Гродне, куды сям'я пераехала ў 1892 годзе. Адам Багдановіч працаваў тады ўжо не настаўнікам, а ў Сялянскім пазямельным банку.

Летам 1895 года Марыя Багдановіч разам з дзецьмі (Вадзімам, Максімам, Львом) правяла некалькі месяцаў у вёсцы Вяззе каля Асіповіч у гасцях у сваёй старэйшай сястры Стэфы і яе мужа Франца Секяржыцкага, які працаваў лесніком у мясцовага пана Дарагана. Жылі Секяржыцкія з трыма сынамі ў вялікім драўляным доме, мелі сваю гаспадарку.

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча ў Мінску захоўваецца перапіска Адама і Марыі Багдановічаў, якая вялася падчас гасцявання ў Вяззі. Адам Багдановіч у гэты час заставаўся ў Гродне. У сваіх лістах Марыя




**Адам Багдановіч з вучнямі** ў Мінску.

МУЗЕЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

раскзвае пра здароўе і паводзіны дзяцей, а таксама пра штодзённае жыццё. З гэтых лістоў вынікае, што менавіта ў Вяззі ў душу Максіма Багдановіча запалі першыя зярняткі беларушчыны. Пра гэта сведчыць ліст Марыі Багдановіч ад 29 мая 1895 года, дзе яна піша пра дзяцей: «Вот только плохо, что стали говорить по-белорусски и иногда такое словечко выпалят, что хоть сквозь землю провались». Стаўленне да беларускай мовы ў гэтым лісце сведчыць пра агульную атмасферу русіфікацыі тады.


БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

Марыя і Адам Багдановічы з сынамі.

## Усе тры жонкі Адама Багдановіча нараджалі практычна штогод

Максіму не было і пяці гадзікаў, калі памерла яго маці. Яна пражыла ўсяго 27 гадоў (сам Максім памрэ ў няпоўныя 26). Было прынята лічыць, што Марыя Багдановіч памерла ад сухотаў, якія былі дыягнаставаныя праз месяц пасля нараджэння дачкі Ніны. Але ёсць ненадрукаваная частка ўспамінаў Адама Багдановіча, з якой можна рабіць іншыя высновы: пасля нараджэння дачкі адкрыўся крывацёк, які не спыняўся, і сама Марыя ператварылася ў «абалонку», у цень жыццярадаснага чалавека, якім была. У гэтай частцы ўспамінаў муж Марыі піша, што толькі вочы ў яе засталіся ранейшымі і яна прасіла не аддаваць яе смерці, якую яна ўжо бачыла перад сабою.

Амаль адразу пасля смерці жонкі Адам Багдановіч з трыма сынамі, маленечкай Нінай і сваёй малодшай сястрой ►




ФОТА ТУТЭЙШАЯ ЛЕТУЦЕННІЦА, VK.COM

**У Вяззі на Асіповіччыне** Максім і браты сталі гаварыць па-беларуску.

Марыяй, якая глядзела дзяцей, пераязджаюць у Ніжні Ноўгарад. Так і атрымалася, што з пяці гадоў Максім Багдановіч жыў у Расіі.

### «Пачуццю цёмнаму падлеглая»

У 1897 годзе памірае маленькая Ніна. А ў 1899 годзе Адам Багдановіч жэніцца другі раз з Аляксандрай Волжынай — роднай сястрой жонкі пісьменніка Максіма Горкага, з якім паспеў пасябраваць.

Аляксандра нашмат маладзейшая за яго, сваякі супраць шлюбу з удаўцом сялянскага паходжання з трыма сынамі. Да таго ж у Аляксандры хворыя ныркі, дактары не раяць ёй нараджаць, але Аляксандра нараджае сына і памірае ад родаў у тым жа 1899-м. Лічыцца, што менавіта яе смерць натхніла Максіма Багдановіча на цыкл вершаў «Каханне і смерць» і верш «Пачуццю цёмнаму падлеглая».

Ты ўжо рассталася з уборам
І ў ложка шлюбнае лягла,
Свой сорам, свой жаноцкі сорам,
Дрыжачая, перамагла.

І ведаеш, табе мучэнні
І нават мо канец жыцця
Сабой накліча пры раджэнні,
Ірвучыся на свет, дзіця.

Ды абяссіленай душою
Ты можаш аднаго жадаць, –
Каб семя бурнае мужское
У нетрах цела пахаваць.

Таксама без надзей да спыну
У пропасць чалавек ляціць
І сквапна ўніз, на дно страмніны,
З салодкай жудасцю глядзіць.

Максіму Багдановічу было пяць гадоў, калі пасля нараджэння дзіцяці памерла мама, і восем гадоў, калі памерла мачаха. Як успрымаў, як перажываў Максім гэтыя смерці, невядома, але сэкс для яго — «пачуцце цёмнае», звязанае з сорамам, небяспекай і блізкай смерцю, жудасна-салодкае.

### Незаконнанароджаныя

Пасля смерці другой жонкі, Аляксандры, да Адама Багдановіча выязджае яшчэ адна Аляксандра — Мякота — малодшая сястра першай жонкі. У 1901 годзе ў іх з Адамам Багдановічам нараджаецца сын Павел. Максім Горкі і яго жонка абураныя, сына Аляксандра ад Волжынай забіраюць з сям'і Багдановічаў, яго выхаваннем займаецца бабуля.

Але і Аляксандр пражыве нядоўгае жыццё: у пяць гадоў ён памрэ ад «запалення мазгавых абалонак» — такая прычына смерці пазначаная ў пасведчанні. Хаця доўгі час лічылася, што памёр ён ад дызентэрыі, бо так напісана ў кнізе Ніны Ватацы «Шляхі».

Аляксандра Мякота нарадзіла Адаму Багдановічу яшчэ пяцярых сыноў: пасля Паўла былі Мікалай, Аляксей, Вячаслаў і Раман.

Аляксандра не была афіцыйнай жонкай, яны не маглі вянчацца, бо лічыліся сваякамі. Усім дзецям у

## Нашчадкі Багдановіча

Ёсць версія, што Багдановіч адначасова страціў і маці, і Радзіму, і гэтыя вобразы зліваліся ў яго ў адно. Тым і тлумачылася цікавасць да Беларусі. У справе беларушчыны бацька не быў ворагам для сына, ён проста не верыў у перспектыўнасць беларускага адраджэння. Аднойчы Адам пахваліўся поспехамі Максіма на ніве беларускай паэзіі свайму прыяцелю, дырэктару гімназіі, у якой вучыўся Максім, і атрымаў у адказ «бывает, што гора родит мышь» — пад «гарою» тут разумелася руская культура.

Менавіта Адам Багдановіч захаваў архіў сына, прывёз у Мінск. Каб не ён, мы б мала што ведалі пра аўтара «Вянка».

Беларуская мова для Максіма Багдановіча была кніжнай. Ён геніяльна на ёй пісаў, але кепска гаварыў. Калі ў 1916 годзе ён прыехаў у Мінск, то прасіў выпраўляць яго вымаўленне. Таму людзей, якія прыйшлі да беларускай мовы праз кнігі, а не ад мамы з татам, і цяпер называюць нашчадкамі Багдановіча. Сярод сучасных беларускамоўных такіх ужо, магчыма, і большасць.


МУЗЕЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**Адам Багдановіч з сям'ёй Пешкавых**: другая жонка Багдановіча была сястрой жонкі Максіма Горкага.




**Аляксандра Мякота** — родная цётка Максіма і трэцяя жонка яго бацькі.

пасведчанні аб нараджэнні пісалі «незаконнанароджаны», а пасля Адам Багдановіч праз суд усынаўляў кожнага з фармальна не ягоных сыноў.

**Вадзім, Максім і Леў мусілі даваць пісьмовыя распіскі, што яны не супраць усынаўлення незаконнанароджаных дзяцей. Гэта было невялікае хатняе пекла**

Старэйшыя дзеці, Вадзім, Максім і Леў, мусілі даваць пісьмовыя распіскі, што яны не супраць усынаўлення (усе гэтыя дакументы захаваліся).

Гэта было невялікае хатняе пекла. І ў гімназіі пра гэта ведалі ды смяяліся.




**Незаконнанароджаныя** Павел, Аляксей, Вячаслаў і Мікалай Багдановічы.

А ў 1908 годзе памірае ад сухотаў старэйшы брат Вадзім. Ён быў анархістам, на пахаванне прыйшло шмат людзей і паліцыі, бо ўлады баяліся, што пахаванне перарасце ў дэманстрацыю.

## Вераніка

Ад напружанай хатняй атмасферы Максім Багдановіч ратаваўся ў літаратуры і сяброўстве з Дзіядорам Дзябольскім — адным з нешматлікіх людзей, з кім Максім знаходзіў душэўнае паразуменне, у тым ліку адносна беларускай паэзіі.

Дзіядор Дзябольскі захапляўся індыйскай філасофіяй і астраноміяй. Яго дзённік шмат бы мог цікавага распавесці пра Максіма Багдановіча, але быў знішчаны карнымі органамі, бо ў 1948-м Дзіядор быў арыштаваны па абвінавачанні, што ён з'яўляецца членам Ордэна тампліераў пад іменем Арсеній (о, часы ліхія!).

Пасля вызвалення ў 1957 годзе Дзіядор Дзябольскі напісаў вельмі цёплыя ўспаміны пра Максіма Багдановіча і іх атачэнне. У гэтых успамінах асабліва кранаюць жаночыя вобразы. Сярод іх маленькая пляменніца Дзіядора — Вераніка, дачка старэйшага брата Уладзіміра Дзябольскага.

## Сын свайго бацькі

«Сын свайго бацькі, які вырас у дурных умовах», — пісаў пра Максіма стрыечны брат Пятро Гапановіч, сын Магдалены, які нейкі час жыў у адным пакоі з паэтам у Яраслаўлі. Ліст напісаны 6 мая 1915 года да сястры Веры — таксама дачкі Магдалены. Далей ён піша, што Максім не карыстаецца адэкалонам, ходзіць у кароткіх штанах і кепска сацыялізаваны. За што ж асуджаў Максіма стрыечны брат?

«Гіпертрафіраванае захапленне асобнымі аспектамі і занадта заўзятае стаўленне да "самасційнай Беларусі" без астатку паглыналі ўвесь яго клопат і ўвагу. Ён зачыняўся ў сваім пакоі, зарываўся ў гэтыя пытанні і ў такой шчыльнай двайной абалонцы, ізаляванай ад штодзённасці, пражыў ▸




**Вадзім Багдановіч**, старэйшы брат Максіма, быў анархістам, а памёр таксама маладым.




**Адзін з дамоў, якія наймалі Багдановічы ў Яраслаўлі.** У час, калі ў ім жыў Максім, дом быў зусім новым.

апошнія гады. Так абрысоўваецца яго стан, і адсюль вынікае яго рашэнне кінуць дом свайго бацькі і Ал. Апанасаўны і на старане пачаць новае жыццё».

Далей Пятро Гапановіч піша пра тое, што ў якасці аднаго з варыянтаў горада для самастойнага жыцця без бацькі Максім Багдановіч разглядае Ніжні Ноўгарад, дзе жыве яго маці і цётка Максіма — Магдалена з сям'ёй. Пятро лічыць, што трэба перашкодзіць Максіму ехаць жыць у Ніжні Ноўгарад і наогул трымаць яго далей ад іх сястры Нюты Гапановіч, дзяўчыны-матэматыка.

Нюту Гапановіч, стрыечную сястру Багдановіча, часта згадваюць сярод платанічных каханняў Багдановіча. Ёй ён падараваў рукапісны зборнік перакладаў сваіх вершаў пад назвай «Зеленя» з эпіграфам «Переводы стихов — словно женщины: если красивы, то неверны; если верны, то некрасивы».

Яшчэ адна дзяўчына, якой Максім Багдановіч прысвячаў вершы, — Ганна Какуева, сястра гімназічнага сябра.

Ганна Какуева ў багдановічазнаўстве прызнаная галоўным каханнем Максіма Багдановіча, ёй ён прысвяціў верш:

Больш за ўсё на свеце жадаю я,
Каб у мяне было сваё дзіця —
Маленькая дачушка-немаўляшка,
Аня Максімаўна,
Такая прыгожанькая,
Цёпленькая, мокранькая,
З чорнымі валосікамі і броўкамі,
З цёмна-карымі вочкамі,
А ручкі, як перацягнутыя ніткамі.
Зусім такая, як Вы,
Калі Вы былі маленькай дзяўчынкай.

## Спадчына бабы Рузалі

Перажытае і пачутае ў «бабінай хаце» ў Халапенічах Адам Багдановіч падчас вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі дасылаў этнографу Паўлу Шэйну. Баба Рузаля была носьбітам фальклору, народнай мудрасці, лячыла людзей зёлкамі і замовамі — «дапамагчы людзям не грэх», гаварыла яна пры гэтым.

Ад бабы Рузалі Адам Багдановіч запісаў і такія рэдкія ды таемныя тэксты, як замовы, якія перадаюцца толькі сярод роду. А цётка Марыля была плакальшчыцай на пахаваннях, ад яе ён ведаў галашэнні.

Адам Багдановіч не абмежаваўся толькі роляй інфарматара Шэйна, але падрыхтаваў і выдаў уласную кнігу «Пережитки древнего миросозерцания у белорусов» (Гродна, 1895). Дарэчы, Шэйн быў незадаволены, што яго інфарматар сам пажадаў стаць этнографам.

У «Перажытках» апісаныя лесуны, вадзянікі, русалкі, ведзьмы — каханкі чорта, блуканне душы падчас снення. Ацэнка вуснай спадчыны беларусаў у кнізе сугучная афіцыйным устаноўкам таго часу — «заняпалы край, заняпалы народ», — але фактура шыкоўная.

Кніга лягла ў аснову паэтычных цыклаў Максіма Багдановіча «У зачараваным царстве» і «Згукі Бацькаўшчыны».

Кніга стаяла ў бібліятэцы Адама Багдановіча побач з геніяльным слоўнікам Івана Насовіча — крыніцай, па якой Максім Багдановіч вывучаў беларускую мову. Калі былі праблемы з націскам ці вымаўленнем, перапытваў у бацькі. На той час у Вільні пачала выходзіць «Наша Ніва», якую выпісала для Максіма Багдановіча яго хросная маці — гэта была праява і яе сімпатый да беларускага адраджэння.

Разам з Адамам Багдановічам у Ніжні Ноўгарад пераехалі і яго сёстры Магдалена і Марыя, якія выйшлі замуж за семінарысцкіх сяброў Адама — Гапановіча і Галавача. Такім чынам у Ніжнім Ноўгарадзе ўтварылася тое, што Ніна Ватацы назаве «беларускай калоніяй, дзе былі этнаграфічныя прадметы, вывезеныя з Беларусі, адзначаліся каляндарныя святы, гаварылі з беларускім акцэнтам і беларусізмамі».

**Верш «Возера» з багдановіцкага цыкла «У зачараваным царстве»** чытае вядомы беларускі футбаліст Віталь Радзівонаў.




БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Нюта Гапановіч.** Яе брат хацеў, каб Максім трымаўся ад яе далей.


WIKIMEDIA COMMONS

**Ганна Какуева.** Максім марыў пра дзіця ад яе.

Ганна Какуева ўрэшце выйдзе замуж за гімназічнага сябра Максіма Івана Лілеева, і іх сын Мікалай Іванавіч Лілееў перадаў шмат каштоўных матэрыялаў у музей, вёў перапіску з музейнымі супрацоўнікамі. У снежні 1991 года Мікалай Лілееў прыехаў на адкрыццё Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ў Мінску. Запомніўся як вельмі прыемны, прыгожы, інтэлігентны чалавек. Падчас выступлення ён выказаў шкадаванне, што не сын Багдановіча, але тое, вядома, быў жарт.

## Без бацькавай апекі

Што значыць «сын свайго бацькі, які вырас у дурных умовах»?

«Сын свайго бацькі» можа азначаць, што чалавек мае амбіцыі ў сферы навукі і літаратуры — людзі мяшчанскіх каштоўнасцей такое не разумелі і асуджалі. А можа і азначаць, што захапляецца жанчынамі не менш за бацьку. Але як рэалізавацца ў адносінах з жанчынамі, калі ты жывеш як Максім?

Большую частку свайго жыцця Максім Багдановіч пражыў з бацькам, пад яго апекай. Адпачываць таксама ездзіў з бацькам.

Толькі ў 1911 годзе 19-гадовы Максім Багдановіч па запрашэнні Івана і Антона Луцкевічаў паехаў у Вільню і тры месяцы правёў у ідылічнай вёсцы Ракуцёўшчына пад Маладзечнам у сястры Луцкевіча — Лычкоўскай. Цяпер у хаце, дзе ён спыняўся, — музей.

Другі раз Максіму ўдалося пажыць тры месяцы самастойна, без бацькі, Аляксандры Апанасаўны і братоў, летам 1915 года, калі яму было 23 гады. На гэты час прыпадае і самы яркі вядомы эпізод з жанчынай. ▶


МУЗЕЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**Максім Багдановіч з сябрамі па гімназіі.** Але дагэтуль ідуць спрэчкі, каторы на фота — Максім.

## Гіперапека

Ці можна сказаць, што Адам Багдановіч гіперапекаваўся сынам? Няпроста дакладна апісаць іх адносіны ў сітуацыі, калі галоўная крыніца ведаў пра іх — мемуары самога бацькі.

Здаецца, дзяцей ад першага шлюбу, якія гадаваліся без мамы, Максіма і Лёву, Адам Багдановіч апякаў мацней за іншых. Ці шкадаваў сірот больш? Ці быў тут элемент кампенсацыі за сваё собскае не самае шчаслівае дзяцінства з гняўлівым, эгаістычным бацькам-бабнікам?

Няма сумневу толькі ў тым, што Адам Багдановіч быў чалавекам вялікага таленту. Ён быў з тых «моцных асоб», уладарных, якія робяцца цэнтрамі роду, патрыярхамі сям'і. Ён апекаваўся не толькі сваімі дзецьмі, але і сёстрамі сваімі, пляменніцамі, пляменнікамі. «З усімі быў у кантакце, павучаў іх. Так, сваёй любімай пляменніцы Нюце, якая вучылася на матэматычных курсах у Маскве, ён пісаў, што калі "жанчыне не выходзіць замуж, то лепей зусім не нараджацца"».


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

▶ Першы раз бацька завёз Максіма ў Крым у 1909 годзе. Перад гэтым у 1908-м ад сухотаў памірае старэйшы брат Максіма — Вадзім Багдановіч, а ў 1909-м сімптомы хваробы праяўляюцца і ў Максіма.

Другі раз у 1915 годзе Максім Багдановіч едзе без бацькі, адпачывае ў Старым Крыме. Адна з крыніц, з якой можна даведацца пра адпачынак, — твор «Из летних впечатлений». Падарожныя нататкі на рускай мове складаюцца з трох нарысаў: «Феодосия», «Старый Крым», «Поездка в Коктебель», надрукаваных у часопісе «Русский экскурсант» (1916, № 1–3).

Падзеі лета 1915 года Максім Багдановіч занатоўваў уласнаручна. У Старым Крыме ён пазнаёміўся з Клавай, якая стала яго каханкай — даступнай і сапраўднай.

Пра Клаву — хто яна, якая яна была, гэтая выпадковая жанчына Максіма, вядома вельмі мала.

Даследчык Калугін, які адшукаў дом у Старым Крыме, дзе жыў Максім Багдановіч у 1915 годзе, выказаў меркаванне, што Клава была армянкай з рускім прозвішчам Салтыкова (па мужу), падобная


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

Стары крыж у Ракуцёўшчыне.

*Няма таго, што раньш было,*
*І толькі надпіс «Вераніка»,*
*На ліпе ўрэзаны ў кары,*
*Казаў вачам аб тэй пары...*

**Вялізны ўплыў на Максіма зрабіў прыезд на лета ў фальварак Ракуцёўшчына** (між Красным і Чысцю). На фота: падворак, цяпер там музей.



**Песня «Вераніка»** на словы Максіма Багдановіча ў выкананні ансамбля «Песняры».

да «Венецыянкі» Урубеля, але версія не мае дакументальнага пацвярджэння. Існавала перапіска Максіма з Клавай, яна не захавалася, знікла разам з архівам.

Мікалай Агурцоў, яраслаўскі сябра паэта, згадваў: «Асабіста ад мяне ён не хаваў, што знаходзіцца ў інтымнай перапісцы з адной асобай, з якой пазнаёміўся ў Крыме і пакахаў. Я не ведаў гэтай асобы. Але, як мне здавалася, яго пачуцці былі сур'ёзныя і моцна адбіваліся на здароўі. Адчувалася, што ён перажывае нейкі цяжкі ўнутраны крызіс».

Свае перажыванні Максім запісваў. Тэкст называюць «Інтымным дзённікам паэта». У 1980-я дзённік аддавалі на расчытку крыміналістам. Але і яны не здолелі расчытаць дзённік цалкам. Не расчыталіся, напрыклад, словы, якія знаходзіліся на згібах. (Запісы рабіліся на аркушы, які скручваўся некалькі разоў, каб займаць менш месца і лягчэй было схаваць.) Не расчыталіся і некаторыя скарачэнні (іх там шмат), і проста словы: паэт рабіў гэтыя запісы для сябе, дробным «бісерным» почыркам.

Клаве прысвечаны кароткі верш на рускай мове «Забудется многое, Клава».

Забудется многое, Клава,
Но буду я помнить всегда.
Как в сердце шипела отрава
Любви, и тоски, и стыда.

Тебя в тёмно-синем платочке
И песню, что пела мне ты:
Прошли золотые денёчки.
Осталися только мечты.

Наколькі моцныя вершы Багдановіча на беларускай мове, настолькі шаблонныя, эпігонскія творы, якія ён пісаў па-руску, і прысвячэнне Клаве — не выключэнне.

Лёс Клавы невядомы, але дакладна вядома, што падчас летняга раману з Багдановічам яна была замужам і да яе прыязджаў муж. Прыезд мужа апісаны ў дзённіку Максіма Багдановіча. Ён назірае за Клавай з мужам і заўважае, што з мужам яна смяецца гэткім жа залівістым смехам, як і з ім.




**Кім была Клава**, выпадковая жанчына, з якой Максім меў стасункі ў Старым Крыме, — загадка.

Адрозненне класікі ў тым, што яна не старэе.

Максім Багдановіч.
**Эмігранцкая песня**

Ёсць на свеце такія бадзягі,
Што не вераць ні ў Бога, ні ў чорта.
Ім прыемны стракатыя сцягі
Караблёў акіянскага порта.
І няма ім каго тут пакінуць,
Бо нікога на свеце не маюць.
Ўсё ім роўна: ці жыць, ці загінуць, —
Аднаго яны моцна жадаюць:
Пабываць у краях незнаёмых,
Ды зазнаць там і шчасця і гора,
І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора.
Але мы — не таго мы шукаем,
Не таго на чужыне нам трэба.
Не рассталіся б мы з нашым краем,
Каб было дзеля нас у ім хлеба.
І на вулцы пад грукат, пад гоман,
Дзе натоўп закруціўся рухавы,
Нам маячыцца вёсачка, Нёман
І агні партавыя Лібавы.
(1914)

**«Эмігранцкая песня»** ў выкананні Ганны Кулаковай.



## Знікненне і з'яўленне дзённіка

Спачатку інтымны дзённік знаходзіўся ў драматурга і палітыка Язэпа Дылы разам з іншымі дакументамі, перададзенымі бацькам паэта Адамам Багдановічам. Дыла быў сябрам камісіі Інбелкульта па спадчыне Максіма Багдановіча. Ужо тады, у 1920-я гады, Язэп Дыла абмяркоўваў мэтазгоднасць друкавання дзённіка з бацькам, і абодва прыйшлі да высновы: друкаваць не варта. Іх перапіска ёсць у адкрытай крыніцы — зборніку «Шлях паэта» за 1976 год.

Пра далейшы лёс Крымскага дзённіка піша бібліёграф Ніна ►

▶ Ватацы, зборы якой ляглі ў аснову фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча: «Беларускі драматург Язэп Дыла прыслаў з Саратава ў Акадэмію навук БССР амаль нечытэльны алоўкавы аўтограф Крымскага дзённіка Максіма Багдановіча 1915 года. Літаратуразнаўчага значэння гэтыя інтымныя накіды не маюць. Захоўваецца дзённік у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (Рукапісны фонд Сектара тэатра і кіно, фонд 1, Агульны раздзел, спр. 13)».

І ўсё. А што пасля? Як дзённік трапіў з архіва ў музей Максіма Багдановіча? Як ні дзіўна, з прыватнага архіва пісьменніка Алеся Бачылы.

У той жа кнізе «Шляхі» чытаем: «У пачатку 1968 года пачаў збіраць біяграфічныя звесткі для напісання лібрэта оперы пра Максіма Багдановіча паэт Алесь Бачыла. На аснове тых матэрыялаў Бачыла напісаў цікавую кнігу “Дарогамі Максіма” (1971)».

Опера называлася «Зорка Венера», і для працы над лібрэта аўтар карыстаўся дзённікам. У сваёй кнізе Бачыла піша: «Пра існаванне гэтага дзённіка ведала вельмі абмежаванае



**«Зорку Венеру»** выконваюць «Песняры».

Песня «Зорка Венера» на словы Багдановіча стала народнай. Музыку да яе напісаў палітык-сацыяліст Сымон Рак-Міхайлоўскі, якога расстраляюць саветы ў 1938 годзе.

*Зорка Венера ўзышла над зямлёю,*
*Светлыя згадкі з сабой прывяла...*
*Помніш, калі я спаткаўся з табою,*
*Зорка Венера ўзышла...*




**Мястэчка Стары Крым непадалёк ад Феадосіі** любілі пісьменнікі: тут ёсць дом Грына, дом Паўстоўскага (на фота) і іншых.

кола людзей. Нават многія з даследчыкаў творчасці Максіма Багдановіча, калі я напамінаў пра дзённік, дзівіліся: “Няўжо ёсць такі дзённік?” Так і ляжаў ён амаль нікім не чапаны ў інстытуцкіх шафах. Я ўжыў слова “амаль” не выпадкова. Бо ўсё ж да дзённіка... дакраналіся цікаўныя рукі... [тэатразнаўца] Алега Саннікава. Больш за месяц праседзеў ён з павелічальным шклом у руках над невялікім аркушыкам паперы, спісаным бісерным почыркам, каб прачытаць тэкст. Расшыфраваныя словы і цэлыя сказы ён старанна заносіў у асобны сшытак. ... Да канца расшыфраваць тэкст яму не ўдалося. І ўсё ж месяц карпатлівай працы не прапаў марна. Нават на тым, што расшыфравана, а расшыфравана крыху больш за трэць тэксту, мы можам скласці ўяўленне пра паэтаў характар, пра яго погляды на жанчын... Дзённік падрабязна расказвае пра... інтымныя адносіны [з Клавай], і таму мы не маем права цытаваць тое, што пісалася для сябе, што з’яўляецца таямніцаю за сямю пячаткамі».

Гісторыя багатая на парадоксы. Доўгі час дзённік не лічыўся асабліва каштоўным дакументам, таму і вандраваў па прыватных архівах даследчыкаў, дзякуючы гэтаму ён і захаваўся ў прыватным архіве Дылы, тады як увесь «сур’ёзны» архіў паэта знік падчас Другой сусветнай вайны.

Ізноў жа: роля бацькі, Адама Багдановіча. Ён такі захаваў яго і перадаў навукоўцам, нягледзячы на вялікую колькасць інтымных падрабязнасцяў. Не знішчыў, бо разумеў каштоўнасць захавання ўсяго, што тычылася сына і гісторыі роду.

## Цяжкі ўдар

«Мілы Лёва, нас спасцігнуў цяжкі ўдар, — пісаў у маі 1917-га Адам Багдановіч Льву, апошняму жывому сыну ад першага шлюбу. — Максім сканаў у Ялце, памёр зусім самотна». А далей пісаў пра тое, што зусім нядаўна памёр і чатырохгадовы Раман — сын, якога ён — яму было з чым параўноўваць — лічыў самым здольным і перспектыўным з усіх сыноў.

Льву Багдановічу заставалася таксама жыць нядоўга. Летам 1918 года падчас рэвалюцыі ён загіне: яго, як афіцэра, «рэвалюцыйныя масы» выкінуць




**Льва Багдановіча** выкінулі з акна «рэвалюцыйныя масы».

з акна вайсковага шпіталя ў Кіеве. Паколькі бацька пісаў свае ўспаміны ў 1930-х, ён не асабліва разгортвае гэты эпізод. Але вядома, што Лёваў дзяншчык прывёз Адаму Багдановічу рэчы сына — нават ва ўмовах грамадзянскай вайны такія людзі, як дзяншчык, захоўвалі чалавечнасць, — і тыя рэчы цяпер захоўваюцца ў музеі Багдановіча.

У «Матэрыялах да біяграфіі Максіма» (1923 год) бацька паэта, Адам Багдановіч, пісаў так: «Памёр ён 25 (12) мая 1917 года, але я паведамленне пра гэта атрымаў на 4-ы дзень пасля яго смерці. Ён не даў гаспадыні майго адрасу, не жадаючы мяне трывожыць. Пасля яго смерці яна знайшла мой яраслаўскі адрас і тэлеграфавала па гэтым адрасе, а пакуль прыйшла тэлеграма з Яраслаўля [бацька паэта знаходзіўся ў службовай камандзіроўцы ў Сімферопалі], быў ужо чацвёрты дзень. Я адразу на аўтамабілі накіраваўся ў Ялту. Але ён быў ужо пахаваны. Пахавалі яго на Ялцінскіх могілках, што недалёка ад Мікалаеўскай вуліцы ў кірунку гор, на самым ускрайку могілак ля дарогі з супрацьлеглага мору боку, г. зн. з боку гор. У галаве пастаўлены белы крыж з надпісам на бляшанай таблічцы яго імя (студэнт Максім Адамавіч Багдановіч) і калі ён памёр. За два сажані па прамой лініі ад галавы пахаваны студэнт Карысан. Паведамляю як некаторую прыкмету». Але ў той жа час бацька паэта адзначаў: «Месца абрана надзвычай няўдала: ліўні і патокі з крутога схілу лёгка маглі размыць магілу. Я наняў вартаўніка, каб магілу ўмацаваць і ўпарадкаваць, пакінуў грошы гаспадыні, каб пасадзіць кіпарысы і куст ружаў, прасіў сачыць за гэтым двух знаёмых, у тым ліку і дачку майго саслужыўца, асабістую знаёмую Максіма, але ці зроблена гэта — не ведаю. Праз некалькі дзён я паехаў з Крыма. Двойчы я пісаў з Яраслаўля знаёмым, але не атрымаў адказу: вядома, як дзейнічала ў гэты час пошта, ды і людзям было не да чужых магіл».



МУЗЕЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**Інтэлектуальная сіла Максіма — ад бацькі Адама.** А сам бацька крыўдзіўся, што ён для ўсіх быў найперш «бацька паэта».

### Апошні прытулак Адоля

Адам Багдановіч памёр 16 красавіка 1940 года. Ён пахаваны ў Яраслаўлі на Лявонцьеўскіх могілках разам з трэцяй жонкай Аляксандрай, з якой афіцыйна ажаніцца яны змаглі толькі пры савецкай уладзе, якая лібералізавала шлюбнае заканадаўства. Аляксандра Мякота перажыла мужа на 7 гадоў.

Восенню 1991 года на магіле Адама Ягоравіча паставілі помнік з чорнага граніту, аўтар — беларускі скульптар Павел Лук. На помніку надпіс: «Бацька паэта». Гэтае азначэнне, дарэчы,

страшна не падабалася самому Адаму Багдановічу: «Бацька паэта — тытул мой на Беларусі», — скардзіўся ён у адным з лістоў пасля наведвання Беларусі па запрашэнні Інбелкульта. І сапраўды, ён жа не толькі «бацька паэта», але і сам цікавы фалькларыст, мемуарыст. Яго мемуары — захапляльнай літаратурнай сілы.

Ад трох жонак у Адама Багдановіча было 10 дзяцей: 9 сыноў і адна дачка. Ніна памерла ў 1897 годзе, Аляксандр у 1899-м, Вадзім у 1908-м, Максім у 1917-м, Раман у 1917-м, Леў у 1918-м, Аляксей у 1933-м, Вячаслаў — у 1940 годзе.

Толькі два сыны перажылі Адама Багдановіча — Павел і Мікалай.

## Страчаная магіла

У 1924 годзе Інбелкульт накіраваў у Ялту трох маладых паэтаў: Уладзіміра Дубоўку, Анатоля Ажгірэя (Вольнага) і Андрэя Александровіча, якія мусілі адшукаць магілу Максіма Багдановіча, каб да 10-х угодкаў смерці паставіць на ёй помнік. Працэс пошукаў апісаны Дубоўкам у артыкуле «На Багдановічавай магіле» (часопіс «Узвышша», № 2 за 1927 год).

Паводле ўспамінаў Уладзіміра Дубоўкі, на гарадскія ялцінскія могілкі яны трапілі 18 жніўня 1924 года: «Зацікавілі вартаўніковых сыноў, якія ўзяліся дапамагаць шуканню. Прыйшлі на другі дзень, 19 жніўня. Хлапчукі прынеслі нам таблічку з жалобным надпісам, але крыжа няма... Аказалася, хлапчукі адрывалі таблічкі ад крыжоў і коўзаліся на іх з каменнай гары, па адхоне гары. Ці варта вінаваціць іх? Гэта было адзінай забавай іх. Не пакрыўдзіўся б на іх і нябожчык, які меў такое замілаванне да маладога жыцця.

Знаходзім магілу, пра якую казаў Язэп Дыла [верагодна, магіла студэнта Карысана. — **ПК**]. Але навокал яе таксама магілы з паламанымі крыжамі. Урэшце, падабраўшы з зямлі планку, праверыўшы самыя дробныя дэталі, спыніліся ля шуканага. У правільнасці не магло быць ніякага сумліву.

У тым жа часе далі тэлеграму ў Мінск, каб прыслалі грошы на пастаноўку помніка. Гэты помнік стаўляў ужо Цішка Гартны паводле свайго праекта, бо мы павінны былі ехаць дахаты. Перад ад'ездам сфатаграфавалі магілу, каб пасля не прыйшлося шукаць нанова. Таблічка ад магілы з жалобным надпісам і негатывы фатаграфіі перададзеныя намі Інстытуту беларускай культуры».

На магіле паставілі помнік з шэра-брунатнага вапняку з васількамі і чырвонай зоркай — вельмі кранальны. А ў 2003 годзе на магіле паэта быў усталяваны помнік аўтарства бацькі і сына Льва і Сяргея Гумілеўскіх.



**Першы помнік на магіле Максіма.**



**Такі помнік на магіле Максіма цяпер.**

## Пераноc праху

Было шмат прапаноў пра перапахаванне паэта, у 1991 годзе мастак Эдуард Агуновіч настойваў на пераносе праху ў Мінск. Прапаноўвалася, прыкладам, перапахаваць прах на Свіслачы — Востраве слёз, насупраць месца, дзе «перарэзалі пупавіну».

Але ўрэшце большасць схілілася да высновы, што магіла Багдановіча ў Ялце хутчэй сімвалічная. Парэшткі пад помнікам могуць належаць іншаму чалавеку, з улікам таго, што ў магіла ў 1924 годзе пазначаная была ўмоўна, а таксама не выключана, што пласты зямлі змяшчаліся.

Зрэшты, прагрэс генетыкі дае новыя магчымасці адшукаць парэшткі Максіма. І хто знае, ці не стане магчымым кланаванне вялікіх людзей мінулага ў будучыні? ◆

# Конь як сама гісторыя

**Жывучы, не можа ведаць чалавек, якім словам ці ўчынкам застанецца ў памяці, калі замкнецца кола зямных дзён і чорны конь панясе яго далей, піша Андрэй Скурко.**

Да гэтых разважанняў мяне падвяла карціна Пётры Сергіевіча «Усяслаў» 1932 года з фондаў Беларускага музея імя Івана Луцкевіча. Яна знайшлася ў прыватнага калекцыянера напярэдадні вялікай выставы экспанатаў музея ў родным горадзе яго стваральніка — Мінску (маецца на ўвазе выставачны праект у Нацыянальным мастацкім музеі да 100-годдзя Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча). А да таго карціна пад назвай «Волаты» ляжала ў запасніках музея Вялікай Айчыннай вайны, куды трапіла з Вільні пасля падзелу фондаў Луцкевічавага музея між Беларуссю і Літвой.

Нягледзячы на абагульненую назву карціны, мастак, безумоўна, выявіў бітву на Нямізе, самы яе пачатак. Туманная адліжная сакавіцкая раніца. Стаяць у чаканні полацкія воі ў вастраверхіх шаломах. Іх масіўныя коні топчуць мокры снег. Дынамічная фігура на пярэднім плане — Усяслаў. Але мастак зрабіў акцэнт не на постаці легендарнага князя: Усяслаў Сергіевіча мала розніцца ад сваіх дружыннікаў. Яго вылучае конь. Чорны, у багатай збруі, пад чырвоным потнікам — ён ступае нібы леў, яго грыва вее харугвай на ветры.

Гэты конь — нібы сама полацкая гісторыя. Нібы легенда, якая нясе на сабе Усяслава ў «далёкія векаў вякі». А сам князь вельмі па-людску ўглядаецца ў будучыню насцярожана-дзікаватым позіркам.

## Ці прыгадаў Усяслаў на божай пасцелі спалены Менск?

Ён княжыў 57 год. У летапісах, складзеных ворагамі, пазначылі не толькі дзень, але і дакладны час яго смерці — гэта кажа пра многае. Ці прыгадаў Усяслаў на божай пасцелі спалены Менск, Нямігу, поруб, кароткае кіраванне Кіевам? І ці лічыў ён увогуле гэты даўні і, у прынцыпе, досыць няўдалы і тупіковы эпізод вянцом свайго жыцця? Або тое, што стала для нас, сённяшніх, асновай легенды пра Усяслава і адным з самых вядомых сюжэтаў беларускай гісторыі — сюжэтаў, якія задаюць вектар яе ўспрымання, — замылілася пазнейшымі падзеямі ды ўчынкамі, пра якія да нас нават звестак не дайшло?

А Вітаўт — ці прыгадаў бы Грунвальд? А Канстанцін Астрожскі — Оршу? А Скарына — кнігавыданне?

Тут можна думаць, чыя візія важнейшая: асобы, якая дзейнічае, ствараючы тканку гісторыі, ці нашчадкаў, якія яе дзеянні інтэрпрэтуюць. Бо, жывучы, не можа ведаць чалавек, якім словам ці ўчынкам застанецца ў памяці, калі замкнецца кола зямных дзён і чорны конь панясе яго далей.



# «Калі не ўродзіць Слуцкая раўніна, дык не накорміць і Украіна»

Ураджэнец Слуцка, я з удзячнасцю і ўсцешнасцю прачытаў шыкоўны матэрыял доктара гісторыі Алеся Белага «Літоўская Ламбардыя, урадлівая і шматлюдная...» (№ 9/2021). Хацелася б колькі слоў дадаць, як кажуць, у тэму.

Так, на Случчыне зямля ўрадлівая (праўда, не ва ўсіх яе частках). Дык вось тую ўрадлівую зямлю параўноўвалі і параўноўваюць з украінскімі чарназёмамі. На гэты конт і прымаўка існуе: «Калі не ўродзіць Слуцкая раўніна, дык не накорміць і Украіна».

А пра багатую адметнасць слуцкага стала Кузьма Чорны неяк жартаўліва пісаў, што на Случчыне сала ядуць не з хлебам і хлеб не з салам, а сала з салам.

Пра слуцкую бэру напісана ў матэрыяле Алеся Белага трапна-трывожна. Але яна, тая бэра, яшчэ ёсць, і нават у Слуцку. Да прыкладу, на вуліцы Якуба Коласа на сядзібе Паўлы Антонаўны Стралкоўскай два дрэвы гэтага цуду растуць і пладаносяць.

Варта сказаць колькі слоў пра Паўлу Антонаўну, маю былую настаўніцу беларускай мовы і літаратуры. Да вайны яна працавала ў школе ў Койданаве. Яе вучнямі былі наш слынны гісторык Мікола Ермаловіч і выдатны паэт Алесь Салавей (Альфрэд Радзюк). Незвычайная юная настаўніца абуджала творчы патэнцыял і патрыятызм у сваіх вучняў. ▶

► Пад яе кіраўніцтвам выходзіў школьны рукапісны часопіс-альманах, у якім змяшчаліся вучнёўскія пробы пяра. Пра гэта мне ў свой час расказваў светлай памяці Мікола Іванавіч Ермаловіч. Даўно ўжо няма на гэтым свеце і Паўлы Антонаўны. Але ў маёй памяці яна — светлы промень, як настаўніца, як натхняльнік у маёй паэзіі і як высакародны чалавек. Тут трэба яшчэ дадаць, што адзін з яе продкаў распісваў слуцкую Свята-Міхайлаўскую царкву.

Пра абаронцаў Случчыны народная песня пачынаецца словамі: «Із-пад Слуцка, із-пад Клецка мчыць дружына маладзецка...». Вось жа ў гэтай дружыне пераважалі выбранцы. Дарэчы, знакаміты наш гісторык Анатоль Пятровіч Грыцкевіч па мячы (па бацьку) меў продка-выбранца з вёскі Варкавічы. Праўда, сам Анатоль Пятровіч нарадзіўся ўжо ў Мінску.

А вось яшчэ адна цікавостка. Вядома, што раней акрамя прозвішчаў у людзей былі яшчэ і мянушкі — назва па-вулічнаму. Мае продкі па кудзелі (па маці) Амяльковічы (Амелькі) мелі мянушку Мельнічкавы. Як казала мне мая маці Кацярына Іллінічна, яе продкі калісьці загадвалі княжацкай мельнічнай гаспадаркай у вёсцы Балочычы (Балотчыцы). У гэтай жа вёсцы была і адна з летніх рэзідэнцый князёў Алелькавічаў (Алелькаў). Узгадваюцца Балочычы і ў мастацкім фільме «Настасся Слуцкая».

Дзед мой Ілля Сямёнавіч Амяльковіч быў царкоўным старастам у вёсцы Чаплічы, недалёка ад Балочыч. З гэтай прычыны пры бальшавіках яго сям'я лічылася «лішэнскай»: усе яе члены не мелі ніякіх грамадзянскіх правоў. Маёй маці не дазволілі вучыцца далей пасля чацвёртага класа, калі яна не вырачацца сваіх бацькоў і не пойдзе ў дзіцячы дом. Яна, канечне, не выраклася і засталася з чатырохкласнай адукацыяй, хоць была здольным чалавекам.

Мая мама была адной з найлепшых захавальніц фальклору Случчыны, пра што можа сведчыць фальклорны зборнік «З вечнага» (два выданні), складзены мясцовым краязнаўцам і паэтам Рыгорам Родчанкам. Мне цікава было даведацца ад мамы, што ў іх пачатковай школе вучні выстройваліся ў карэ на пляцы і разам з дырэктарам школы спявалі «Ад веку мы спалі, і нас разбудзілі...» («беларуская Марсельеза», якая нарадзілася на Случчыне). Але гэта хутка было забаронена, а дырэктар бясследна знік.

## Я — гарачы прыхільнік «Нашай гісторыі» з першага яе нумара. Захоўваю ўсе яго выпускі, апроч тых, што ў мяне «зачыталі»

Я — гарачы прыхільнік часопіса «Наша гісторыя» з першага яе нумара. Захоўваю ўсе яго выпускі, што выйшлі ў свет, апроч тых, што ў мяне «зачыталі». Цяжка мне пералічыць аўтараў-сімпатыкаў гэтага выдання. Але асабліва хочацца выдзеліць сярод іншага кандыдатаў гістарычных навук Аляксандра Пашкевіча і Вячаслава Насевіча. Часопісу, яго супрацоўнікам, усім яго аўтарам і чытачам жадаю моцнага здароўя, даўгалецця, творчых поспехаў!

Мне самому цяпер 81 год. Апошнія 30 гадоў перад пенсіяй працаваў у выдавецтве «Народная асвета» (рэдакцыя гісторыі і геаграфіі) у якасці вядучага рэдактара. З'яўляюся аўтарам некалькіх кніг паэзіі, прозы і публіцыстыкі. Як творчая асоба, зноў жа, у тэму прапаную свой верш, прысвечаны маёй Случчыне:

*Паміж Слуцкам залатым*
*І Капылём сярэбраным*
*Веснавы зялёны дым,*
*Ветрам не цярэблены.*

*А ў тым дыме ды маё*
*Сэрца паэтычнае.*
*І разгон яно бярэ*
*На чуццё касмічнае.*

*І ўжо лунаю я,*
*Быццам бесцялесны,*
*Случчына — любоў мая,*
*Край ты мой нябесны.*

**Яўген Гучок, Мінск**

## Быў відавочцам злачынства

Прачытаў артыкул кандыдата гістарычных навук Паўла Булатага «Млын паваліўся, а гаспадар вярнуўся» (№ 8/2021).

Гэты артыкул мяне вельмі ўсхваляваў апісаннем тых падзей, якія адбываліся ў той час у Заходняй Беларусі. У маёй памяці ўсплылі падобныя падзеі, якія я назіраў у дзіцячым узросце.

У той час я жыў з бацькамі ў вёсцы Гарадзішча Мядзведзіцкага сельсавета Ляхавіцкага раёна. Недалёка праходзіла чыгунка на Баранавічы і на поўдзень.

Год з-за даўніны падзей я не помню, але гэта адбывалася дакладна ў зімовы час, студзень-люты месяцы, паміж 1947 і 1950 гадамі. Суседзямі ў нас былі вельмі паважаныя ў вёсцы людзі. Добра памятаю, што ў гаспадароў быў дарослы сын і некалькі дачок.

Раніцой у адзін з марозных дзён дом суседзяў акружылі салдаты НКВД, частка якіх кінулася на саламяную страху і стала яе разбураць, іншыя ламалі пабудовы. Гаспадары і іх дзеці знаходзіліся ў гэты час у хаце — снедалі. Да канца дня ўсе пабудовы былі разбураныя, а жыхары дома вывезеныя ў невядомым кірунку. Аб іх лёсе мне дагэтуль нічога невядома, бо ў 1950 годзе наша сям'я пераехала на новае месца жыхарства.

Многія дзесяцігоддзі жыцця я памятаў бачанае і пазней, ужо дарослым, усвядоміў, што быў відавочцам злачынства, здзейсненага ўладамі.

Пажадана, каб пры магчымасці рэдакцыя высветліла ўсе падрабязнасці гэтага ўчынку і лёс рэпрэсаваных.

**Васіль Залеўскі, Мінск**

**Ад рэдакцыі.** Шаноўны спадар Васіль! На жаль, мы не маем магчымасці самім расследаваць падрабязнасці такіх даўніх падзей, але, можа, Ваш апублікаваны ліст пачытае хтосьці з тых мясцін, хто ведае ці чуў пра гэта больш, і напіша ў Рэдакцыю. У кожным разе, апісаўшы сітуацыю ў лісце нават без прозвішчаў і дакладных гадоў, Вы ўжо паспрыялі таму, каб гэтая гісторыя не забылася.

# Хатнія сыры і стравы з малозіва


DEPOSITPHOTOS.COM, BY BIRUTE

**Вясковымі рэцэптамі дзеліцца былая настаўніца са Смаргоншчыны, 85-гадовая Яўгенія Кулевіч.**

Некалі практычна ў кожнага вясковага гаспадара была карова. Як жа іначай? Ёсць кароўка ў гаспадарцы, то сям'я галоднай не будзе. Бо гэта ежа на стале, ды і не абы-якая, а самая што ні на ёсць карысная, смачная і на добрае здароўе. Акрамя гатовых малочных прадуктаў — сырадой, кісляк (кіслае малако), смятана, тварог, сыр, масла, — можна яшчэ прыгатаваць безліч розных страў з ужываннем малочных дабавак.

У маім дзяцінстве ў сям'і трымала кароўку бабуля, але як яна памерла, то карову адразу збылі. І толькі ў 1990 годзе, калі я сама пайшла на пенсію, купіла цялушачку і адгадавала сабе кароўку, якую трымала гадоў з 10. Са свайго малака рабіла смачныя сыры, дзялілася з дзеткамі. Было добра. А рэцэпты прыгатавання малочных прадуктаў брала ад сваіх знаёмых. Некалькі з іх напішу, можа, каму прыдадуцца.

Робячы **тварог**, 2–2,5 літры кіслага малака трэба ўліць у каструлю, тады закіпяціць адзін літр свежага малака (сырадою), паставіць на газавую пліту, размяшаць, патрымаць на агні адну-дзве хвіліны. Тады выключыць газ, і хай пастаіць накрытае. Тады тое, што атрымалася, адкінуць на марлю, вада сцячэ — і будзе вельмі смачны тварог. А сыроватку можна выкарыстаць для блінчыкаў.

З гэтага тварагу можна зрабіць **клінковы сыр.** Тварог вымешаць, дадаўшы трохі солі. Укінуць у клінок (палатняны мяшэчак), палажыць на дэнца (кухонную дошку), зверху пакласці другое, а наверх — гнёт: напрыклад, цагліна, пакладзеная ў цэлафанавы пакет. Такі сыр добра захоўваецца ў лядоўні. А калі хочаш яго хутчэй з'есці, то можна рабіць і без солі.

Галоўнае — малако неператапіць, бо тады тварог атрымліваецца сухі. Але калі тварог ідзе на цвёрды сыр, то малако можа быць і трохіператопленае.

Калі робіцца **цвёрды сыр**, прыкладна 1 кг тварагу трэба заліць 1 літрам сырадою, паставіць на агонь і памешваць драўлянай лыжкай. Пасля адцадзіць, затым добра ўзбіць адно яйка, дадаць грам 50 масла, трошкі солі, 1 чайную лыжачку соды, пагашанай воцатам. Можна дадаваць не адно, а 2–3 яйкі, тады сыр робіцца лагоднейшы. Яшчэ можна дадаваць 1–2 чайныя лыжачкі цукру.

Пасля тое, што атрымалася, на вадзяной бані ў алюмініевай каструлі трэба варыць хвілін 25, увесь час памешваючы. Месіва сыру ў гарачым стане павінна быць цягучым. Як даўжэй паварыш, то сыр становіцца, калі застыне, больш цвёрдым.

Пасля таго, як зварыцца, месіва трэба перакласці ў які латок, хай застывае. Пераклаўшы, трэба добра разраўняць паверхню.

Смачныя стравы атрымліваюцца з **малозіва**. Калі карова ацеліцца, то тры дні малако ў яе жоўтае, густое і спецыфічнае на смак. Яно і завецца малозівам. Малозіва вельмі карыснае. Казалі, што цялятка павінна адразу паспрабаваць малозіва, і тады яно будзе расці здаровенькім, бо малозіва дае сілу.

У нас у сям'і сырое малозіва не пілі, чамусьці было не прынята. Але я прачытала ў пісьменніка Уладзіміра Ліпскага ў кнізе «Мама. Малітва сына», што маці яму яго заўсёды прыносіла ў кубачку: «На, Валодзька, адведай малозіўка».

З малозіва атрымліваецца смачны клінковы сыр, калі яно закісне і з яго зрабіць тварог. Акрамя таго, яно вельмі смачнае запечанае ў печы. Трэба толькі прымеркаваць тэмпературу, бо калі трошкі перапячэцца, то збягаецца сыроватка. Але яна таксама дужа смачная. ◆

**Адданая чытачка і добрая аўтарка «Нашай гісторыі» Яўгенія Кулевіч раптоўна памерла на Пакрову 2021 года.** Пра гэта нам паведаміла яе дачка Алена Нікалаюк. «Мама была бясконца працавітым, светлым чалавекам. І шчырай беларускай, якая шанавала і берагла родную мову», — расказала пра маму дачка. Хай спачывае добры чалавек.

# ПАДАРОЖЖА ЎЗДОЎЖ МЯЖЫ 1772 ГОДА

**Знайсці на Падзвінні рэшткі дасавецкай цывілізацыі — задача ў стылі Індыяны Джонса, пераканаўся кандыдат гістарычных навук Павел Булаты.**

Граніцы дзяржаў часам вызначалі межы моў і культур, а часам — толькі ледзь заўважныя адрозненні. Мяжа, што на два дзесяцігоддзі прайшла па гэтым краі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, таксама пакінула свой след. Праедземся, пашукаем яго.

### Лепель

Лепель падобны да паўночных гарадкоў, якія прытуліліся да Балтыйскага мора, хай сабе і стаіць усяго толькі на Лепельскім возеры. Элегічны настрой, размераны рух на вуліцах, якія вядуць да ўзбярэжжа, вялікі парк, даўняя забудова, якую амаль не сапсавалі эклектычныя латкі сучаснасці...

Дамінантай над мястэчкам — мураваны касцёл Святога Казіміра, нябеснага патрона Вялікага Княства Літоўскага. Ён



ФОТА ВІКТАР МАЛЫШЧЫЦ

быў пабудаваны ў другой палове XIX стагоддзя, адзін з рэдкіх каталіцкіх храмаў таго перыяду.

Каталіцкую парафію тут заснаваў быў вядомы канцлер Леў Сапега,

### Цягнікам не паедзеш

Пры вакзале ў Лепелі можна пабачыць будынкі старога дэпо і драўляна-мураванай воданапорнай вежы. Але сам па сабе вакзал патрэбен толькі жыхарам найбліжэйшага наваколля: прыехаць у Лепель па чыгунцы можна толькі дызель-цягніком так званага эканом-класу, што ідзе з Оршы двойчы на дзень і цягнецца амаль 3 гадзіны, спыняючыся ля кожнай платформы.



ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

купіўшы разбуранае Інфлянцкай вайной мястэчка. На загад Сапегі і быў пабудаваны ў 1604 годзе храм для бернардзінак — адзін з першых каталіцкіх на Полацкай зямлі. У 1779 годзе ён згарэў, быў адбудаваны з дрэва, у 1833-м ізноў згарэў — і доўга каталікі не маглі дабіцца дазволу на адбудову. Але ўсё ж дазвол у 1857 годзе быў атрыманы. Сродкі даў памешчык Лепельскага павета Пятро Мальчэўскі — не надта багаты, раз будоўля цягнулася 20 гадоў, а вокны-дзверы-агароджу давялося дарабляць яшчэ і ягонаму сыну.

Сядайце на разьбяную лаву і ўяўляйце. Грае арган. На сценах вісяць іконы. Ідзе служба. Храм працаваў да 1935 года, але ў той год 4 сакавіка, на свята святога Казіміра, у касцёл увайшлі энкавэдзісты. Арыштавалі святара: не захавалася дакладных звестак, быў гэта Павел Карповіч, што ўжо адбыў 3 гады ў высылцы ды вярнуўся, ці нейкі іншы ксёндз. Храм зачынілі, праз пэўны час зрабілі ў ім гараж, паставілі трансфарматарныя будкі. Распісаныя сцены атынкавалі. Карацей, звычайная доля храмаў у савецкія часы (гл. пра гэта падрабязней у артыкуле Сцяпана Лютых у № 8/2020 «Нашай гісторыі»).

У 1937 годзе дэлегацыя вернікаў падала заяву з просьбай адчыніць касцёл — беспаспяхова, канечне, але сам факт! Праз паўстагоддзя яны ўсё ж дамагліся свайго, і ўжо 30 гадоў як касцёл ізноў адкрыты.

А вось і сам Леў Сапега, побач з касцёлам на пастаменце. Ён фактычна адбудаваў Лепель наноў пасля Інфлянцкай вайны — на новым месцы, там, дзе горад знаходзіцца цяпер. Пра былую лакацыю нагадвае толькі вёсачка Стары Лепель на іншым беразе.




Чыгунка тут з'явілася позна, але неўзабаве пасля далучэння да Расійскай імперыі **Лепель звязаў з іншымі гарадамі водны шлях.** Цэглу, віно, піва, кардон, але перадусім лес вазілі з гэтага краю баржамі.

Цяпер ужо і Новы Лепель — стары: ладныя адміністрацыйныя будынкі з чырвонай цэглы, драўляныя хаты гараджан, якія глядзяць вялікімі выцягнутымі вокнамі. Краязнаўчы музей месціцца ў сядзібе колішняй дырэкцыі Бярэзінскага канала, і тут працаваў філамат Ян Чачот (гл. пра яго артыкул Васіля ▸



ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

**Сціплы касцёл Святога Казіміра ў Лепелі** паўстаў у той суровы для гэтай канфесіі час, калі каталіцкіх храмаў у Расійскай імперыі амаль не будавалі.


ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

Лепель нагадвае **гарадкі Балтыі і Скандынавіі.**

Герасімчыка ў № 8/2020 «Нашай гісторыі»). Уявіце: 1833 год, толькі што скончылася паўстанне, эліта на эміграцыі альбо ў высылцы... Сапраўдны выхаванец Віленскага ўніверсітэта, цяпер зачыненага, Чачот адразу ж бярэцца за навуку, хай сабе і пад наізраннем паліцыі: запісвае песні ў ваколіцах Лепеля.


ФОТА ПАЎЛА БУЛАТАГА

**Леў Сапега**, гаспадар Лепеля.

## Губіна

Куды ехаць далей — вызначаюць азёры. Мы рушым між імі ўздоўж мяжы 1772 года на Улу. Мінаем калгасныя руіны і трапляем у цэнтр вёскі Губіна, а ў ёй, як аголены ікол, узвышаецца па-над ваколіцамі велічны аскепак. Уяўленне адразу дамалёўвае ўвесь будынак, яго формы і дэталі... Гэта былы касцёл Святога Антонія.

Мураваны касцёл у Губіне быў пабудаваны полацкім стольнікам Янам Пакошам у 1714 годзе: у вёсцы была рэзідэнцыя гэтага шляхецкага роду. На грошы таго ж Яна Пакошы быў узведзены і кляштар францішканцаў.

Гэтая вёска нейкі час была цэнтрам каталіцызму, бо тутэйшая парафія пасля паўстанняў XIX стагоддзя аб'ядала некалькі скасаваных і налічвала каля 2000 вернікаў.


ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

Апошняя імша ў касцёле адбылася ў 1929 годзе. Нейкі час храм, з якога паскідалі крыжы, стаяў забіты, але пасля ў ім зрабілі клуб. Пасля вайны на загад мясцовага старшыні калгаса храм разбурылі танкам, а цэглу выкарысталі на будоўлях.

## Ула

26 студзеня 1564 года на рацэ Ула адбылася бітва паміж маскоўскімі і літоўскімі войскамі: войска пад камандаваннем вялікага гетмана Мікалая Радзівіла Рудога, Рамана Сангушкі і Рыгора Хадкевіча перамагло армію Пятра

Лепель — з тых шчаслівых гарадоў, дзе **ўсе вуліцы вядуць да ўзбярэжжа.**

Шуйскага. Але бітва была вышэй па рацэ, каля Чашнікаў. Тым не менш у мястэчку Ула таксама ёсць напамін ▸



**Касцёл у Губіне.** Малюнак Язафата Жыскара.



ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

**Некалі касцёл у Губіне быў фарным для 2000 вернікаў.** Цяпер яго велічны аскепак узвышаецца над ваколіцамі, як аголены ікол.

**Руіны храма ў Губіне.** Святло.

ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

▶ аб падзеях Інфлянцкай кампаніі. Гэта Ульскі замак.

Калі ў 1563 годзе Іван Жахлівы захапіў Полацк, Улу сталі спешна ўмацоўваць: на тутэйшы замак ускладаліся задачы абароны вусця ракі Улы і кантролю за рухам па Дзвіне. Не паспелі: раптоўным нападам маскоўцы захапілі мястэчка і забілі будаўнікоў. А праз некалькі гадоў самі пачалі будаваць адразу некалькі абарончых замкаў: Улу, Сокал, Сітна і іншыя. Будавалі з дрэва, а таму аднойчы Раман Сангушка абарончы маскоўскі замак узяў і спаліў. Сёння ад замка, натуральна, нічога не захавалася, акрамя замчышча. Туды варта завітаць, каб з вышыні сузіраць сутокі рэк і памроіць аб часах Стэфана Баторыя.

Побач з замчышчам стаіць мураваны Траецкі касцёл сярэдзіны XIX стагоддзя, які маляваў акварэллю Напалеон Орда. Што праўда, сучасны стан вельмі адрозніваецца ад таго, якім яго бачыў мастак. І не скажаш, што



**На Ульскім замчышчы** існаваў толькі адзін замак — драўляны, збудаваны маскоўцамі. А вось гэты **праект мураванага замка** так і застаўся на паперы.



ФОТА ПАУЛА БУЛАТАГА


ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

**І не скажаш, што перад табой культавы будынак**: вежы знеслі бальшавікі.


**Такім яго маляваў Напалеон Орда.**

перад табой культавы будынак: вежы знеслі бальшавікі.

Ад касцёла добра бачна яшчэ адна святыня Улы — Траецкая царква. Гэта тыповая «пернікавая мураўёўка» — храм, пабудаваны ў другой палове XIX стагоддзя з цэглы ў рэтраспектыўна-рускім стылі. Мястэчка малое, а царква вялізная. Ёй тут цесна.

Велічны храм быў пабудаваны на сродкі аднаго чалавека — уладальніка Улы Аляксандра Хвастова, гэта ён у сваім мястэчку захацеў царкву маштабаў губернскага горада. Яго пачэсна пахавалі тут жа, на яе падворку. І хоць ідэйна храм не ўпісваецца ў гістарычны кантэкст магдэбургскага мястэчка, але помнік архітэктуры годны: шмат цікавых дэталяў і няма напышлівага золата на купалах.

## Слабодка і Свяча

Амаль па суседстве, у вёсках Слабодка і Свяча, стаяць зняважаныя цэрквы. Будавалі гэтыя «мураўёўкі» ў канцы XIX стагоддзя па тыповых для Расійскай імперыі праектах, а закрылі іх у 1930-я. У 1990-х прыходскае жыццё тут не адрадзілася. Прынамсі, іх не разабралі на цэглу спрытныя вяскоўцы, не раскатаў бульдозер і не знішчыла выбухоўка.

На царкве ў Слабодцы захавалася высокая вежа-званіца з драўляным купалам. На яе, калі быць асцярожным, можна нават забрацца. Наверсе з-пад арачных праёмаў адкрываецца чароўны ▶


ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

**Траецкай царкве ў Уле** цесна.


ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

**Хату ў Уле** можна купіць за пару тысяч долараў.


Царква ў Свячы.
ФОТА ВІКТАРА МАЛЫШЧЫЦА

▶ від на возера — нагода пазайздросціць тутэйшаму званару, які сотню гадоў таму біў тут у званы. На могілках побач з зямлі расце вялікі каменны крыж, а побач — камень з надпісам.

### Полцева

У Полцеве, крыху вышэй па Дзвіне за Бешанковічы, захаваліся сляды заможнага шляхецкага двара.


**На званіцу царквы ў Слабодцы** можна падняцца.
ФОТА ПАЎЛА БУЛАТАГА

Маёнтак тут вядомы яшчэ з XVII стагоддзя. А росквіт яго быў у пачатку XX стагоддзя. Ініцыятыўны пан, праўдзейны сябар Віцебскага таварыства сельскіх гаспадароў Віктар Баршчэўскі паставіў бровар: шмат зямлі вакол, каб вырошчваць ячмень, і вады шмат. Будынкі бровара добра захаваліся, на беразе Дзвіны яшчэ значное млынішча і паромішча. Толькі нядоўга пану Баршчэўскаму давялося варыць тут піва: спярша Першая сусветная вайна, а потым і 1917-ы...

1772 год падараваў гэтаму краю не толькі мяжу, але і дарогу ўздоўж яе, па якой вазілі пошту з Масквы праз Віцебск у Рыгу. Тут, у Полцеве, і сёння можна прайсці па ёй. Штотыдзень туды і назад курсіравалі паштовыя экіпажы, але ў 1860-х усходней, праз Віцебск, прайшла чыгунка — і полцеўская дарога стала часткай соннага тракта паміж Віцебскам і Лепелем.


ФОТА ПАЎЛА БУЛАТАГА
**Бровар у Полцеве.**


ФОТА ПАЎЛА БУЛАТАГА
**На «расійскім» беразе** ў Бешанковічах дагэтуль ляжыць брукаванка.

### Бешанковічы

Найлепей граніцу 1772-га можна адчуць у Бешанковічах.


ФОТА ПАЎЛА БУЛАТАГА
**Старая паштовая дарога** ў Полцеве.




**Палац Храптовічаў**, які наведвалі два імператары.



**Акварэль Напалеона Орды.**




**Дуб, пад якім Напалеон пазіраваў мастаку**, абкарналі ў кастрычніку 2010 года, але ён яшчэ стаіць. Дрэву было 400 гадоў.




**Габрэйскія могілкі** ў Бешанковічах.

Падзел прайшоў па Дзвіне, яна ж дзяліла (дзеліць і цяпер) мястэчка на дзве часткі. Адна частка магдэбургскага места аказалася ў Расійскай імперыі, а другая засталася ў Вялікім Княстве Літоўскім. От ужо ж нагрэлі людзі рукі на кантрабандзе...

Сёння раку можна перайсці па пантонным мосце, які штогод наводзяць беларускія вайскоўцы (дзеці пішчаць ад радасці, нідзе больш такога не бачылі), але яшчэ не так даўно тут курсіраваў паром... На «літоўскім» беразе побач з пераправай узвышаюцца старасвецкія муры былой рымарскай фабрыкі, на «расійскім» — дагэтуль ляжыць брукаванка.

У «літоўскай» частцы варты ўвагі палац. Ён быў пабудаваны ў 70-я гады XVIII стагоддзя ў стылі ранняга класіцызму новым уладальнікам Бешанковічаў, графам, маршалкам Галоўнага трыбунала Вялікага Княства Літоўскага, апошнім канцлерам ВКЛ Яўхімам Літаворам Храптовічам. Палац гэты мелі гонар наведаць два імператары: некалькі дзён у 1812 годзе тут размяшчаўся штаб Напалеона, а ў 1821 годзе сюды завітваў расійскі імператар Аляксандр I. Французскі імператар пакінуў па сабе памяць — дуб Напалеона, які ўсё яшчэ стаіць, хоць ужо нежывы. Сам жа палац цяпер аднаўляюць.

Яшчэ ў Бешанковічах варта схадзіць на могілкі. Габрэйскі некропаль займае плошчу каля 4 гектараў, а самы стары надмагільны камень датуецца 1703 годам. У адрозненне ад соцень беларускіх мястэчак, дзе *beit shalom*, «дом міру», як называюць могілкі ў габрэйскай традыцыі, знішчаныя і зняважаныя, тут яны дагледжаныя.

Вока турыста пацешаць земляныя ўмацаванні часоў вайны 1812 года, Ільінская царква і старая местачковая забудова. На рускім беразе была мытня, але ніякіх слядоў яе вы не знойдзеце. Так некалі не застанецца слядоў і цяперашніх мытняў і граніц. ◆




**Карта маршруту па Падзвінні.**

# Батумі



Нават у шторм **мора цягне да сябе людзей.**

ФОТА СЯМЁН ПЕЧАНКО

# Субтропікі, сабакі, хача і пуры

**Беларускую мову тут цяпер пачуеш не радзей, чым у Гродне. Адзін толькі мясцовы беларускі чат у тэлеграме налічвае больш за 700 падпісчыкаў, піша Сямён Печанко.**

Беларусы тут здымаюць кватэры, купляюць нерухомасць. У вокнах і на балконах трапляюцца нашы сцягі, нярэдка заўважаеш людзей з беларускімі выявамі на футболках і байках. Беларускія сляды бачныя і ў батанічным садзе: у надпісах на ствалах бамбуку ды налепках на слупах. Пастрыгчыся ці зрабіць дублікат ключоў у беларусаў? Лёгка.

## «Нэт ужэ таво Батумі»

«Пэрвій раз в Батумі?» — спытаў мяне таксіст у першы дзень пасля майго прылёту ў Грузію. Я адказаў, што быў тут у дзяцінстве. Калі дакладней — у жніўні 1990-га. Кіроўца на гэта засмяяўся: «Значыт — пэрвій. Нэт ужэ таво Батумі».

Мясцовыя гіды любяць паказваць турыстам сучасныя гмахі на гарадскім узбярэжжы і з гонарам казаць: «Усяго гэтага яшчэ дзесяць-пятнаццаць год таму не было».

Але ўвогуле, канешне, гісторыя гэтага горада пачалася не сёння і не ўчора. Ёй шмат стагоддзяў.

## Ад рымскіх фарпостаў

На гэтых землях высаджваліся старажытныя грэкі і рымляне. Ужо ў II стагоддзі нашай эры ў ваколіцах сучаснага Батумі дзейнічалі рымскія фарпосты.

А першыя пісьмовыя згадкі пра сучасны Батумі з’явіліся ў сярэдзіне XVI стагоддзя. Мясцовыя землі ў той час належалі княжацкаму роду

Гурыэлі. Ім давялося не адзін раз змагацца за свае ўладанні з войскамі Асманскай імперыі. Турэцкае панаванне доўжылася каля трох стагоддзяў.

Ёсць меркаванне, што сучасны Стары горад у Батумі, што месціцца каля порта, абавязаны сваім з'яўленнем пасяленцам з Грэцыі. Лічыцца, што пры мэру-грэку Іллі Ефрымідзі, які кіраваў горадам у сярэдзіне XIX стагоддзя, тут з'явіліся першыя вуліцы і першыя камяніцы. Турэцкая адміністрацыя дала грэкам дазвол збудаваць сваю царкву. Так тут у 1865 годзе з'явілася царква Святога Мікалая, якая амаль паўстагоддзя была кафедральным храмам горада.

### Грузіны, але мусульмане

Многія памятаюць эпізод з «Дванаццаці крэслаў» Ільі Ільфа і Яўгена Пятрова, у якім айцец Фёдар, вывозячы з дачы інжынера Брунса пад Батумам частку мэблевага гарнітура генералíхі Паповай («в котором, надо признаться, ни черта нет»), нецярпліва крычыць на беразе мора флегматычнаму фурману-аджарцу: «Стой! Стой, мусульманін!»

Сапраўды, Аджарыя — гэта рэгіён, дзе людзі гаварылі па-грузінску, але былі мусульманскага веравызнання. У часы, апісаныя ў рамане, мусульмане складалі тут большасць.

Ісламізацыя аджарцаў пачалася ў пачатку XVII стагоддзя, калі іх тэрыторыя была заваяваная Асманскай імперыяй. Да прыходу туркаў насельніцтва тагачаснай Аджарыі пераважна было, як і большасць грузін, хрысціянскім. Менавіта веравызнанне большасці мясцовага насельніцтва стала падставай для Турцыі патрабаваць ад Масквы надання гэтаму рэгіёну аўтаноміі.

Праўда, ісламізацыя мясцовых грузін праз адлегласць часу выявілася дастаткова павярхоўнай, што выразна праявілася ў апошнія дзесяцігоддзі. Апошнія апытанні выявілі цікавы феномен: калі ў 1991 годзе мусульманамі лічылі сябе 75% аджарцаў, то ў нашы дні 75% жыхароў Батумі і навакольных паселішчаў ужо заяўляюць аб прыналежнасці да Грузінскай праваслаўнай царквы. Такія змены за няпоўныя 30 гадоў!

Тым не менш мусульманства ў рэгіёне яшчэ жывое. Сёння ў Батумі дзейнічае мячэць Орта Джаме, збудаваная ў 1866 годзе. У гады Другой сусветнай у ёй, праўда, зрабілі склад боепрыпасаў, але пасля вайны мячэць аднавіла сваю працу. Штодня можна пачуць заклік муэдзіна да малітвы.

Ды і ў курортны сезон ладную частку турыстаў складаюць мусульмане. У батумскіх крамах прадаецца халяльная прадукцыя, адпаведнае меню прапануюць мясцовыя кавярні.



ФОТА СЯМЁН ПЕЧАНКО

У Грузіі любяць нагадваць пра арганаўтаў. Прычым **не саромеюцца пазалоты.**



ФОТА СЯМЁН ПЕЧАНКО

### Батумі сёння

Сталіца аўтаномнай рэспублікі Аджарыя. Другі па колькасці насельніцтва (169 тысяч чалавек) горад Грузіі. Найбуйнейшы порт Грузіі. Турыстычная сталіца Грузіі: Гагры ды іншыя курорты Абхазіі грузінам недаступныя. Клімат у Батумі — субтрапічны, як і на паўднёвым беразе Крыма ці Лазурным Беразе Францыі. Але калі ў апошніх субтропікі сухія, то ў Батумі — вільготныя.

### Ключы прымаў Святаполк-Мірскі

Канец асманскага панавання ў 1878 годзе стаў пачаткам панавання расійскага. Паводле Сан-Стэфанскага мірнага пагаднення Аджарыя перайшла да Расіі, тут была створана Батумская вобласць. Ключы ад горада прымаў генерал Дзмітрый Святаполк-Мірскі (выхадзец са старога беларускага роду, пра які гл. больш у артыкуле Цімафея Акудовіча ў №5/2020 «Нашай гісторыі»). ▸

▶ Наступным разам туркі захопяць гэты край у 1918 годзе, але ненадоўга. Пасля трох гадоў бурлівых ваенных падзей на руінах былых Расійскай і Асманскай імперый, якія непасрэдна закранулі і тэрыторыю Паўднёвага Каўказа, 16 сакавіка 1921 года ў Маскве быў падпісаны дагавор паміж урадам РСФСР і прадстаўнікамі Вялікага нацыянальнага сходу Турцыі. Паводле яго паўночная частка былой Батумскай вобласці Расійскай імперыі з горадам Батумі рабілася часткай Грузінскай ССР. Але пры гэтым туркі вытаргавалі наданне мясцоваму мусульманскаму насельніцтву «шырокай мясцовай аўтаноміі ў адміністрацыйных адносінах». На практыцы гэта ўвасобілася ў стварэнні ў ліпені 1921 года Аджарскай Аўтаномнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, якая праіснавала да самага канца СССР.

У часы Савецкага Саюза Батумі быў памежным горадам з адпаведным рэжымам — да мяжы з Турцыяй адсюль усяго 15 кіламетраў. Таму сюды нікога на адпачынак не пускалі, а галоўным аджарскім турыстычным цэнтрам быў горад Кабулеці, трохі на поўнач. Пуцёўкі ў Кабулеці прадавалі і беларусам.

Аўтаномія захавалася ў Аджарыі і пасля набыцця Грузіяй незалежнасці. У адрозненне ад іншых дзвюх аўтаномных адзінак, Абхазіі і Паўднёвай Асеціі, Аджарыя засталася пад кантролем Тбілісі, хоць у 1990-я і першай палове нулявых і тут адзначаліся пэўныя прыкметы сепаратызму, якія праяўляўся перадусім у эканамічнай сферы. А падчас «рэвалюцыі ружаў» у 2003 годзе тагачасны кіраўнік аўтаноміі Аслан Абашыдзэ адкрыта падтрымаў зрынутага Эдуарда


ФОТА СЯМЁН ПЕЧАНКА

Штодня можна пачуць **заклік муэдзіна да малітвы.**

Шэварднадзэ, што непазбежна прывяло яго да канфлікту з новым прэзідэнтам Міхаілам Саакашвілі.

Той канфлікт увайшоў у гісторыю краіны пад назвай «Аджарскі крызіс». Абашыдзэ меў добрыя адносіны з кіраўніцтвам расійскай вайсковай базы, што месцілася тады ў Аджарыі. Акрамя таго, ён за гады грузінскага постсавецкага бязладдзя паспеў стварыць нават падабенства ўласнай арміі. Чым магло скончыцца тое супрацьстаянне, можна ўявіць на прыкладзе Абхазіі ці Паўднёвай Асеціі.



ФОТА СЯМЁН ПЕЧАНКА

Тое-сёе ў сучасным Батумі яшчэ нагадвае, што **тры дзесяцігоддзі таму тут была савецкая ўлада.**

Але ў гэтым змаганні ўрэшце перамог Саакашвілі. Ён дзейнічаў хутка і рашуча, і такая тактыка ў выпадку Аджарыі сябе цалкам апраўдала. Пасля непрацяглага супраціву ў пачатку мая 2004 года Абашыдзэ, якога ягоныя апаненты называлі ўдзельным князьком, пайшоў у адстаўку і разам з сынам Георгіем выехаў у Расію. У Маскве ён жыве да гэтай пары.

### Батумі будуецца

Батумі ў апошнія 15 гадоў перажывае будаўнічы бум. Часам можна нават пачуць, што горад захапіў турэцкі бізнэс. Туркі гэтым разам прыйшлі з іншай зброяй — інвестыцыямі.

Колькі гадоў таму тут з'явіліся новыя аўта- і чыгуначны вакзалы, у 2007-м рэканструявалі мясцовы аэрапорт. У 2010 годзе ў Старым горадзе з'явілася плошча П'яца — такая сабе маленькая Італія. Крытыкі, праўда, кажуць, што яна надта нагадвае копію вядомых еўрапейскіх плошчаў у кітайскіх гарадах. Тым не менш гэта адно з самым папулярных у турыстаў месцаў у горадзе. Да пандэміі тут давалі канцэрты сусветныя зоркі — ад Стынга да Пласіда Дамінга.

У снежні будзе дзесяць гадоў, як паміж колам агляду і старым маяком з'явілася 130-метровая Алфавітная вежа. Яе збудавалі па праекце іспанскага архітэктара Альберта Дамінга Каба. Вежа аздобленая выявамі 33 літар грузінскага алфавіту, у ёй месціцца рэстаран і аглядная пляцоўка.


DEPOSITPHOTOS.COM, BY VRVALERIAN

**Атмасфера новай-старой П'яцы** ў Батумі.

### Парк цудаў і сямікіламетровы бульвар

Вежа адносіцца да Парку цудаў. Побач узвышаецца 55-метровае — як 22-павярховы дом — кола агляду, бліжэй да мора прыцягвае ўвагу мясцовая гарадская славутасць — рухомая скульптура Алі і Ніно. Гэта падарунак гораду ад архітэктаркі Тамары Квесітадзэ, якая жыве ў ЗША.

Прататыпам скульптуры сталі героі рамана «Алі і Ніно» нямецкага пісьменніка яўрэйскага паходжання родам з Азербайджана Льва Нусінбаўма (1905–1942), які пісаў пад псеўданімам Курбан Саід. Твор — гісторыя кахання паміж азербайджанцам-мусульманінам і грузінкай-хрысціянкай. Скульптурныя Алі і Ніно кожныя 10 хвілін сходзяцца-зліваюцца ў адно цэлае, каб ізноў расстацца.

Адной з галоўных адметнасцяў горада з'яўляецца бульвар працягласцю сем кіламетраў. Ён пачынаецца ў Парку цудаў і заканчваецца каля ракі Чарохі, акурат насупраць узлётна-пасадачнай паласы аэрапорта. Бульвар месціцца на ўзбярэжжы мора.

Гістарычная частка бульвара была закладзеная ў 1881 годзе. Да яго стварэння прыклалі руку нямецкія адмыслоўцы, а таксама ▶


DEPOSITPHOTOS.COM, BY YOUATLAS

**Панарама Батумі.**

французскі садавод-дэкаратар Міхаіл д'Альфонс, якому ўдзячныя батумцы паставілі бронзавы помнік.

На бульвары і побач з ім месцяцца фантаны, спартыўныя і забаўляльныя пляцоўкі, атракцыёны і рэстараны.

З гісторыяй краю можна азнаёміцца ў археалагічным музеі, а таксама ў Дзяржаўным музеі Аджарыі імя Харытона Ахвледыяні (дырэктар музея цягам амаль паўстагоддзя, у 1939–1987 гадах). У мясцовым мастацкім музеі можна пабачыць працы грузінскіх і еўрапейскіх мастакоў, у тым ліку славутага майстра наіўнага мастацтва Ніко Пірасмані.

**Крэпасць у Гоніа**

Многія з экспанатаў батумскіх музеяў былі знойдзеныя на тэрыторыі крэпасці ў Гоніа, курортным пасёлку на поўдні ад Батумі. Даехаць сюды можна на гарадскім аўтобусе, маршрутцы або таксі.

У свой час крэпасць належала Рыму, потым Візантыі і Асманскай імперыі. У савецкі час тут месцілася вайсковая база, аж пакуль на тэрыторыі крэпасці не знайшлі каштоўны скарб. Пасля таго базу перавялі ў іншае месца, а сюды прыйшлі археолагі.

З фартэцыяй звязваюць некалькі легендаў. Першая датычыць знакамітага старажытнагрэчаскага міфа пра арганаўтаў і залатое руна. Нібыта менавіта тут Ясон



ФОТА СЯМЕН ПЕЧАНКО

і забіў прынца Калхіды, які кінуўся ў пагоню за сваёй сястрой Медэяй і выкрадальнікамі руна.

Другі міф расказвае пра магчымае паходжанне назвы мястэчка. Нібыта сюды ў часы Рыма прыходзілі гандлёвыя караблі з італьянскай Генуі. Адсюль і назва Гоніа.

Паводле трэцяй легенды, на тэрыторыі форта нібыта знаходзіцца магіла апостала Матфея, які заняў месца Іуды.

Пяціметровыя сцены крэпасці ўяўляюць сабой прастакутнік, які мае 900 метраў даўжыні па перыметры. Тут можна пабачыць фрагменты старажытных лазняў, а таксама рэшткі керамічных

DEPOSITPHOTOS.COM. BY SIMURG

**Асаблівасць скульптуры «Алі і Ніно» — што яна рухаецца.** Постаці мужчыны і жанчыны то сыходзяцца, то разыходзяцца.



DEPOSITPHOTOS.COM. BY SIMFALEX2

**Статуя Медэі** з залатым руном.

трубаў, што ўтваралі складаную водаправодную сістэму.

На тэрыторыі крэпасці месціцца невялікі музей, у якім захоўваецца частка тутэйшых артэфактаў.

### Панарама з розных ракурсаў

Ёсць некалькі варыянтаў палюбавацца панарамай горада. Марская прагулка на карабліку або палёт на парашуце — для аматараў вострых адчуванняў. Сюды ж аднясём і паездку па канатнай дарозе.

Выдатная панарама адкрываецца з пляцоўкі царквы Святой Тройцы на гары Самеба, што за дзесяць кіламетраў ад цэнтра горада. Назад можна спусціцца пешшу, гэта падорыць вам дадатковыя незабыўныя ўражанні.

Як варыянт, можна таксама пешшу абысці гару, на якую ўздымаецца канатка. Плюс такога падарожжа — можна пазнаёміцца з побытам перадгорных вёсак, на свае вочы пабачыць мандарынавыя сады, дрэвы хурмы, ківі і гранатаў.

Яшчэ адна папулярная аглядная пляцоўка — крыж на гары ў Гонія. Сюды можна дабрацца на таксоўцы ад крэпасці, а назад вярнуцца ізноў жа пешшу.

### Батанічны сад

Ён месціцца за горадам у Зялёным мысе (акурат там, дарэчы, знаходзілася дача інжынера Брунса з «Дванаццаці крэслаў»). У даведніках пішуць, што на знаёмства з садам спатрэбіцца 2–3 гадзіны, але на практыцы лепш планаваць 5–6 гадзін, узяўшы з сабой перакус.

Сюды варта ехаць не толькі дзеля знаёмства з раслінамі, якія большасць беларусаў можа ўбачыць хіба толькі ў выглядзе фота або відэа. Яшчэ гэта і некалькі гадзін інгаляцыі сярод



ФОТА СЯМЁН ПЕЧАНКО

**Паездка на гарадскім аўтобусе** каштуе на нашы грошы ўсяго 25 капеек.

экзатычных сосна ў і эўкаліптаў. Паветра тут неймавернае!

### Горад кантрастаў

Гэты махровы савецкі штамп штораз прыходзіць у галаву, калі гуляеш па вуліцах горада. Шыкоўныя «поршэ» і «мустангі» тут нярэдка прыпаркаваныя побач з бюджэтнымі «таётамі». Дарагія гатэлі могуць стаяць сцяна да сцяны з паўразбуранымі будынкамі з распісанымі графіці сценамі. Фонам да шпіляў і вежаў навюткіх бізнэс-цэнтраў ідуць іржавыя парэнчы балконаў, залапленыя бляхай дахі старых дамкоў. ▶

### Карысныя парады

- Калі вы збіраецеся на адпачынак у Батумі, улічыце мясцовыя кліматычныя асаблівасці: улетку тут спякотна, але нярэдка здараюцца працяглыя дажджы. Парасон ад іх ратуе слаба, таму варта адразу ж набыць дажджавік.
- Адпачынак на галечным пляжы — а тут менавіта такі бераг — тое яшчэ выпрабаванне для ног. Таму трэба мець адмысловы абутак. Каб ашчадзіць грошы на ім і тых жа дажджавіках, адыдзіце ад берага ўглыб горада, бо там будзе не горшы выбар і больш прыемныя цэны. Як, дарэчы, і на віно ды садавіну.
- Таксі ў Батумі можна выклікаць як па тэлефоне, так і праз мабільны дадатак. Тут гэта даволі танны від транспарту, арэнда таго ж электрасамаката абыдзецца даражэй. Гарадскія аўтобусы каштуюць каля 25 беларускіх капеек, але трэба набываць пластыкавую картку.
- Моладзь у Батумі амаль не размаўляе па-руску. З гэтым часта сутыкаешся ў вялікіх крамах, у банках ды афіцыйных установах. Па-англійску — *no problem*.



ФОТА СЯМЁН ПЕЧАНКО

**Выдатная панарама адкрываецца з-пад царквы Святой Тройцы на гары Самеба**, што за дзесяць кіламетраў ад цэнтра горада. Назад можна спусціцца пешшу, гэта падорыць вам дадатковыя незабыўныя ўражанні.

**Горы закалыхваюць і зачароўваюць** раўніннага беларуса.



ФОТА СЯМЁН ПЕЧАНКО

▶ І паўсюдныя шнуры з бялізнай — яшчэ адна адметнасць грузінскіх гарадоў.

Ці вось такая сцэнка. Каля аэрапорта на беразе мора сабраліся людзі, што фатаграфуюць узлёты і пасадкі самалётаў. Побач грае ды-джэй на перарobленай са старога савецкага аўтобуса музычнай пляцоўцы. Узлятае чарговы самалёт, і ў гэты самы момант уздоўж агароджы аэрапорта ідзе статак кароў.

А яшчэ — усюдыісны самабуд. Яскравы прыклад — адзін з першых вышынных жыллёвых комплексаў на бульвары Белая магнолія. Будынак меўся быць дзевяціпавярховым, але ў выніку стаў на пяць паверхаў вышэйшы. Апошні паверх будаваўся ўвогуле без дазволу ўладаў. Кажуць, што менавіта праз гэта апарт-гатэль на 900 кватэр дагэтуль афіцыйна не здадзены ў эксплуатацыю, хоць першыя паверхі ўжо пачалі разбурацца.

Што яшчэ ўражвае — частыя змены надвор'я і звыкласць да іх месцічаў. Асабліва гэта заўважна напрыканцы курортнага сезону. Здавалася б, пайшлі дажджы, заўважна пахаладала. Бульвар апусцеў, апусцелі кавярні. Трэба ўжо хіба што развітвацца да наступнага лета. Але варта ізноў прыгрэць сонейку, як тут жа, нібы той фенікс з попелу, з'яўляюцца вулічныя гандляры, уладальнікі пракату электрасамакатаў і веласіпедаў, ажываюць атракцыёны і ціры.



DEPOSITPHOTOS.COM_BY UPSLIM




ФОТА СЯМЁН ПЕЧАНКО

## Горад вольных сабак

Асобная гісторыя — сабакі. Тут яны — і пародныя, і беспародныя — літаральна паўсюль. На пляжах і на бульвары, каля кавярняў і рэстаранаў, у батанічным садзе і на дзіцячых пляцоўках. І нават у крамах ды абменніках — у пошуках прахалоды або цяпла, у залежнасці ад пары года.

Сабак у Грузіі не крыўдзяць. Гэта адчуваецца па тым, як яны паводзяць сябе сярод людзей. Смела ляжаць на дыванку на ўваходзе ў краму, пасярод бегавой дарожкі і на рэцэпцыі гатэля. Не ўскідваюцца і не ўцякаюць ад рэзкіх гукаў або пры набліжэнні чалавека. Прыходзяць адпачываць на пляж сярод людзей як роўныя з роўнымі. Часам, гледзячы на гэтых беспрытульнікаў, пачынаеш злёгку зайздросціць іхняму пачуццю свабоды.

Колькі месяцаў міжвольнага назірання за паводзінамі батумскіх сабак навялі на думку, што ў іх асяродку шмат што нагадвае чалавечыя завядзёнкі. Напрыклад, падзел тэрыторыі. Некалькі ранішніх прагулак уздоўж мора мяне суправаджаў адзін і той жа сабака, часам адзін, часам у кампаніі іншых.


Рагулі абыходзяць агароджу аэрапорта (справа).

ФОТА СЯМЕН ПЕЧАНКО

Праводзіў мяне які кіламетр, збочваў разам са мной на найбліжэйшую вуліцу, падціскаў хвост і знікаў. І тут жа з’яўляўся новы «экскурсавод», які «перахопліваў» мяне і вёў далей. Як тут не прыгадаць «дзяцей лейтэнанта Шміта» з «Залатога цяляці» Ільфа і Пятрова з іхняй Сухараўскай канвенцыяй?

Беспрытульных сабак у Грузіі лечаць, стэрылізуюць і пазначаюць адмысловым чыпам, які служыць сведчаннем таго, што сабака абследаваны і бяспечны для навакольных. Такі парадак




ФОТА СЯМЕН ПЕЧАНКО

дзейнічае тут ужо некалькі гадоў. Робіцца гэта за кошт мясцовых бюджэтаў.

Але ўсё ж дасканаласці нідзе няма. Грузінскія абаронцы жывёл наракаюць, што праблема бадзяжных жывёл далёкая ад вырашэння. Хоць нам застаецца толькі зайздросціць таму, што ў іх ужо зроблена.

Зрэшты, дзеля справядлівасці — нараканні грузін не на пустым месцы. Пандэмія каранавіруса значна зменшыла колькасць турыстаў, адпаведна, скарацілася колькасць тых, хто дзяліўся з сабакамі рэшткамі ежы. Корму стала менш, а колькасць едакоў толькі расце. Адсюль і рост сабачай агрэсіі.



ФОТА СЯМЕН ПЕЧАНКО

## Рынак Боні

Яшчэ адна кропка на мапе Батумі, якую абавязкова трэба наведаць, — рынак Боні. Спецыі, зеляніна, гародніна, свежая і сушаная садавіна ўтвараюць ▸

## Купата

Сабакі ёсць і ў Тбілісі, і ў Кутаісі. Але толькі ў Батумі ёсць Купата — зорка сацсетак і *YouTube*. Колькі год таму гэты дварняк звярнуў на сябе ўвагу тым, што пачаў пераводзіць праз пешаходны пераход групы дзяцей з дзіцячага садка. Пры гэтым ён брахаў на аўто, якія не спяшаліся прапускаць маленькіх пешаходаў.

Відэа з чатырохлапым «дарожным паліцыянтам» трапіла ў сацсеткі,



а неўзабаве і ў выпускі навінаў. Гандляр з мясной крамы, які частаваў сабаку косткамі, даў яму мянушку Купата (Каўбаса) — за ўкормлены выгляд.

Мясцовыя ўлады хутка зрэагавалі на з'яўленне новай гарадской зоркі: сабаку падарылі новую буду, а праграму дапамогі бяздомным жывёлам назвалі «праграмай Купаты».




▶ неперадавальную камбінацыю пахаў, якую запомніш на ўсё жыццё. Тут набываюць хатнія напоі: віно, чачу і каньяк. А таксама сыр, тварог, свежае мяса.

Ісці на рынак трэба на ясную галаву, каб па магчымасці не даць задурыць сябе мясцовым гандлярам. Будзьце гатовыя пакаштаваць мясцовы прадукт — ад салёнага і падвэнджанага сулугуні да хатняга кіндзмараулі. Вас абавязкова таксама пачастуюць вяленай хурмой і чурчхелай — арэхамі і курагой у абалонцы з варанага соку.

На рынку варта быць пільным: часам гандляры намагаюцца падсунуць разамлеламу ад некалькіх пробнікаў каньяку і віна паточаную насякомымі хурму ці ссохлую чурчхелу.

У любым выпадку рынак падорыць вам не толькі духмяныя пакункі з сушанай аджыкай, сванскай соллю і вязанкай хурмы. Гэта і эмоцыі ад гандлю. «Слушай, брат, лутшый віно! Папробуй, увідіш! Чурчхела, свежый, толька утрам завезлі!»

Калі ў Батумі вы не на адзін-два тыдні, пазнаёмцеся са «сваім» гандляром. Гэта знізіць рызыку несумленных паводзін прадаўца, а таксама падорыць вам




**Грузінскі хатні сыр.**



### Пабачыць Эльбрус з Батумі

У яснае надвор'е з Батумі добра бачныя горы Вялікага Каўказа, у тым ліку найвышэйшая яго вяршыня Эльбрус, што знаходзіцца на мяжы расійскіх Кабардзіна-Балкарыі і Карачаева-Чаркесіі. У халодную пару можна няўзброеным вокам пабачыць горныя хрыбты, адлегласць да якіх па прамой сягае за 200 км.

рэгулярныя зніжкі як сталаму пакупніку.

Увогуле, Батумі — горад-сэрца. Пра гэта тут кажуць скульптуры і графіці. Напэўна, гэта невыпадкова, бо горад гэты западзе вам у сэрца абавязкова, незалежна ад таго, прабудзеце вы тут тыдзень або паўгода. Гэта адчулі і беларусы, што наведваюць кавярню «Сэрца Батумі» — на імправізаванай дошцы аб'яваў і водгукаў беларускія запіскі адныя з самых частых. ◆




«Той Батумі» захаваўся далей ад прыморскага праменаду.

ФОТА СЯМЕН ПЕЧАНКО

# Аджарская кухня: хача і пуры

Гэта тое, па чым большасць гасцей гэтага краю гарантавана будзе сумаваць пасля вяртання дамоў. Але гэты фрагмент нашага артыкула не прызначаны для тых, хто сочыць за таліяй. Прабачце, але што зробіш. Галоўныя адметнасці мясцовага рацыёну — шмат мучнога, малочнага (ад сыру да сметанковага масла), мяснога і вострага.

Сапраўдны сімвал аджарскай кухні — **хачапуры** ў выглядзе лодкі.

Ядуць аджарскае хачапуры рукамі — адрываюць краі «лодкі» і мачаюць у «сонца» — яйка, пад якім хаваецца ладная порцыя сыру. Назва стравы ўтвораная словамі «хача» (тварог) і «пуры» (хлеб). Для прыгатавання выкарыстоўваецца менавіта тварожны сыр, з якога, дарэчы, варыцца правільны сулугуні.

Ёсць яшчэ некалькі відаў хачапуры. Напрыклад, па-мегрэльску (**мегрулі**): у ім сыр кладзецца не толькі ўсярэдзіну, але і зверху. А ў вулічных міні-пякарнях прадаюць звычайнае хачапуры — слаёнае цеста, запечанае канвертам з сырам усярэдзіне.

На сняданак можна замовіць **чырбулі** — аджарскую яечню. Яйкі пякуцца ў таматным соусе з зелянінай і грэцкімі арэхамі.

**Барано** — надзвычай каларыйная страва. І не дзіва, бо гатуецца наступным чынам: найперш трэба растапіць і давесці да кіпення масла, аж пакуль не выступіць цёмная, нават чорная пенка. Потым у растопленым масле плавіцца аджарскі сыр. Ядуць барано з **мчадзі** (кукурузнымі праснакамі) або **шоці** (традыцыйны грузінскі хлеб).



DEPOSITPHOTOS.COM, BY UPSLIM

**Рыба.** Тут яе можна купляць на адмысловым рынку ў порце. Набыўшы рыбу на рынку, можна перайсці ў кавярні і рэстаранчыкі па суседстве, дзе вам яе прыгатуюць. Падобная практыка існуе і ў рыбных крамах у горадзе. Таксама рыбу па вашай просьбе могуць пачысціць — добры варыянт, улічваючы, якой слізкай можа быць тая ж стронга.

У Аджарыі папулярная рыбная страва **хамса** — засмажаныя ў паніроўцы невялікія рыбкі, якія падаюцца з лімонам.

**Аджахуры** — страва для тых, хто засумаваў па бульбе. Гатуецца і падаецца, як і многія гарачыя стравы, на глінянай патэльні — кецы. Тушаная, а затым падпечаная да ружовай скарыначкі бульба, мяса — курыца, свініна або цяляціна. У Аджарыі ў аджахуры дадаюць свежую цыбулю і зеляніну.

Ну і на заканчэнне — **кава па-батумску**. Насамрэч, гэта турэцкая кулінарная спадчына. Але тым не менш яна рэкамендуецца аматарам натуральнай кавы. Гатуецца на гарачым пяску ў турцы, моцная і духмяная.

# СУХАЯ, 28

## Рэцэпты Фіры Сямёнаўны, легенды прафесара Леуса...

ФОТА СВЯТЛАНЫ ВОЦІНАВАЙ



ФОТА СВЯТЛАНЫ ВОЦІНАВАЙ

**Рэспубліканская клінічная стаматалагічная паліклініка —** *alma mater* беларускіх стаматолагаў ад 1963 года.

***Alma mater* усіх стаматолагаў Беларусі месціцца ў Мінску каля Юбілейнай плошчы. Падзеі гісторыі адбіваліся на лёсах яе працаўнікоў, але і супрацоўнікам паліклінікі часам удавалася змяніць да лепшага чыюсьці будучыню. Пра Рэспубліканскую клінічную стаматалагічную паліклініку, сваё першае месца працы, піша Святлана Воцінава.**

### Фіра Сямёнаўна

Яна любіла называць свой стаж працы ў гэтай паліклініцы ў якасці санітаркі: 20 гадоў. Не без гонару дадавала, што пачаўся ён ужо на пенсіі. Я прыкідвала, колькі ёй можа быць. Атрымлівалася каля 80. А калі ўлічыць, што я прыйшла працаваць у 18 (адразу пасля медвучылішча), а звальнялася ў 26 (на апошнім курсе біяфака), і яна яшчэ працягвала працаваць...

Кім яна была да гэтага, я не ведаю. Фіра Сямёнаўна Мінакер часам уздыхала, успамінаючы, як марыла звязаць сваё жыццё з музыкай. Адразу пасля гэтых слоў ішлі ўспаміны пра вайну і яўрэйскае гета. Яно ж якраз тут і было: будынкі паліклінікі, стары і новы, стаяць акурат на яго тэрыторыі.

Бывала, усім сярэднім медперсаналам паверха збяромся ў стэрылізацыйнай. Санітарачкі ачышчаюць інструменты, а медсястрычкі ўкладаюць у крафтпаперу наборы (пінцэт,

шпаталь, штопфер, зонд, экскаватар, ручка для люстэрка, гладзілка двухбаковая — усяго павінна быць сем найменняў) і адпраўляюць у стэрылізатар. Справіўшыся з гэтым, сядаем гуртам вакол стала і або круцім усе з ваты валікі, або вырабляем з марлі трохкутнічкі (хоць называем іх шарыкамі).

Старэйшыя пускаюцца ва ўспаміны, а мы, каму плюс-мінус 20, моўчкі слухаем. Не моўчкі не атрымліваецца. Неўзабаве ўвогуле ўсталёўваецца цішыня. Хвіліна маўчання. Толькі бачок, які пераганяе водаправодную ваду ў дыстыляваную, раз-пораз пыхкае, здраднік.

Расказвалі нам, як яўрэі хаваліся падчас пагромаў і як у адной такой хованцы няшчасная маці задушыла сваё немаўля, бо яно плакала і магло ўсіх выдаць.

Пішу гэтыя радкі — і быццам зноў бачу светлыя-светлыя, малочна-блакітныя вочы Фіры Сямёнаўны.


WIKIMEDIA COMMONS

**Экскаватар, пінцэт, люстэрка, шпаталь** — самыя лёгкія для запамінання стаматалагічныя інструменты.

### Наталля Аляксееўна

— Бор, дрыльбор, пульпаэкстрактар, каналанапаўняльнік. Гэта штопфер малы, гэта штопфер вялікі, гэта гладзілка, а гэта экскаватар.

У медыцынскім вучылішчы медсёстраў стаматалогіі не вучаць наогул. Таму я не ведаю ніводнага з тых інструментаў, з якімі давядзецца мне працаваць. А гэтая драбяза — дрыльборы з пульпаэкстрактарамі і каналанапаўняльнікамі — нічым для мяне адна ад адной не адрозніваецца. А не, усё ж пачынаю розніцу прыкмячаць. У дрыльбора спіралька плоская, у каналанапаўняльніка аб'ёмная, а пульпаэкстрактар мае калючкі. Толькі цяпер яшчэ дадаецца мне інфармацыі: некаторыя з гэтых маленечкіх інструментаў ручныя, а іншыя машынныя. Як адрозніць? Спасцігаю і гэта.



WIKIMEDIA COMMONS

**А пульпаэкстрактар** мае калючкі.

Вучыць мяне ўсяму Наталля Аляксееўна Бандарык. Да пенсіі яна 30 гадоў адпрацавала медыцынскай сястрой у стаматалогіі ў Віцебску, а на пенсіі выйшла нанава замуж, пераехала ў Мінск і працуе цяпер на Сухой. Больш дасведчанай медсястры, бадай, не знойдзецца, і таму мяне да яе прымацавалі.

З Наталляй Аляксееўнай мы пасябравалі адразу. Яна была жанчынай з вялікім гумарам. Гаварыла яна вельмі па-руску, на настолькі чыстай рускай мове, што і перакладаць не хочацца, бо так і стаіць у вушах яе гаворка. «Ты чё пригорюнилась? — пыталася ў мяне, калі я раптам чым-небудзь засмучалася. — С парнем поссорилась? Ничё, найдем еще кудрявее!» ▶


D-FREE.RU

Яшчэ ў 1990-я **зубы лячылі вось так.**

▸ Бывала, трэба ёй адбегчы на пошту — адправіць дзецям у Віцебск пасылкі — і яна вось так просіць мяне замяніць яе на гэты час: «Меняю дислокацию, следи за объектом». У размовах на прафесійныя тэмы яна ўжывала лаціну. Увогуле карысталася ёю часта. Не скажа пра доктарку, што тая збіраецца ў дэкрэт, а гаворыць: «У Татьяны Сергевны *graviditatis*».

Дзяцей Наталля Аляксееўна называла карасікамі. Як толькі дзіця трапляла ў яе поле зроку, яна пачынала з ім жартаваць і гуляць, ды так, што дзіцяці развітвацца з ёй не хацелася. У мяне таксама быў карасік, якога я вадзіла ў дзіцячы садок пад самымі вокнамі паліклінікі. Мы з ёй разам глядзелі, як ён гуляе на пляцоўцы са сваёй групай.

### Рэцэптурная кніга

Прыйшоўшы на другую змену а 14-й, Фіра Сямёнаўна абыходзіла свае ўладанні, пераконвалася, што ўсё ў парадку, і пачынала расказваць, што яна гатавала за суткі, прабеглыя ад часу, калі мы з ёй не бачыліся: ад канца ўчарашняй першай змены. Безумоўна, у характэрнай манеры, з адмысловай інтанацыяй, з частымі зваротамі да мяне, з хапаннямі за руку.

«Слухай! Такая атрымалася фаршыраваная рыба!»

«Я табе раскажу, як я зрабіла фаршмак».

«Мяса кісла-салодкае выйшла как нікагда».

І пералічвала кампаненты і што з імі трэба рабіць. Мая кніга рэцэптаў пачынала пісацца ў стэрылізацыйнай, на карычневых лапіках крафтпаперы, з якіх я пасля пераносіла ў нататнік і фаршмак, і фаршыраваную рыбу, і кісла-салодкае мяса... Увогуле, з рэцэптаў, пачутых на Сухой, можна было складаць кулінарную кнігу.

Па цотных датах я працавала ў першую змену, па няцотных — у другую. На 31 снежня, такім чынам, кожны год прыпадала другая змена. Якія пацыенты 31 снежня па абедзе? Толькі тыя, хто звяртаецца па хуткую дапамогу, але на гэта ёсць асобны кабінет на першым паверсе. Таму традыцыяй было хадзіць па кабінетах — «у госці», адно аднаго віншаваць і абменьвацца рэцэптамі страў, якія яшчэ можна паспець прыгатаваць на навагодні стол або ўжо 1 студзеня. Так мая рукапісная кулінарная кніга папаўнялася вельмі незвычайнымі пазіцыямі: капуста Арыфы Канстанцінаўны, рыба па-грэчаску Міры Аляксееўны, аладкі з морквай і яблыкамі Ганны Якаўлеўны, селядзец пад шубай Доры Яфімаўны, варэнікі Вольгі Мінаўны...

Вольга Мінаўна працавала ліфцёркай. Час ад часу пакідаючы сваю камору, яна выходзіла пагаварыць. Але пра што б ні завязвалася гаворка, а павярочвала заўсёды на тэму варэнікаў, дакладней — новых начынак, якія Вольга Мінаўна прыдумляла для свайго мужа Ціта Мінавіча, вялікага аматара гэтай стравы. Апантанасць іх абаіх варэнікамі не ведала межаў, Вольга Мінаўна вынаходзіла і вынаходзіла. Часта ў начынках фігуравала бульба, але якіх толькі з ёй не было варыянтаў! Памятаю, што, калі замарожаныя варэнікі пачалі з'яўляцца ў продажы і сярод іх — з бульбай і цыбуляй, з бульбай і шкваркамі, з бульбай і грыбамі, — мяне не пакідала думка, што гэта гастранамічная спадчына Вольгі Мінаўны.

наша страва

### Піражкі з каўбасой

Не памятаю, чый гэта быў рэцэпт. Не запісала. Але ў паўгалодныя 1990-я такія піражкі былі шэдэўрам. Яны і цяпер павінны быць смачнымі. Прынамсі, нештачка незвычайнае. Трэба ўзяць па шчопаці солі, цукру і соды, дадаць кефіру і трошкі алею і замясіць густое, але мяккае цеста. Начынка: зварыць яйкі, абсмажыць парэзаную цыбулю і ўсё пракруціць на мясарубку разам з любой «магазіннай» варанай каўбасой. Піражкі смажыць у алеі да румянай скарыначкі.

### Кісла-салодкае мяса, або эсік-флейш

Мяса (ялавічыну) парэзаць на кавалкі, пасаліць і абсмажыць да румянасці. Потым перакласці з патэльні ў які-небудзь глыбокі таўстасценны посуд (лепш за ўсё ў чыгунны, напрыклад у качачніцу), дадаць дробна пакрышаную цыбулю, заліць вадой і каля гадзіны тушыць. Пасля дадаць чорнага перцу, лаўровы ліст, цукар і лімонную кіслату, пакрышаны дробненька пернік і сухары. Тушыць яшчэ з паўгадзінкі. Калі ялавічына немаладая, то вытушваюць яе даўжэй. На кілаграм мяса трэба 2 цыбулькі, 1 сталовую лыжку цукру, 2 сталовыя лыжкі сухароў, 1 пернік, перцу і лімоннай кіслаты патрошкі, солі на смак. Мяса выходзіць мяккае і ў смачным густым соусе.



## Прафесар Леус

Кабінет чалавека-легенды Пятра Андрэевіча Леуса, у 1990-я галоўнага стаматолага Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, знаходзіўся на нашым паверсе, і я хадзіла паўз яго кожны дзень і чула, што ён на месцы, працуе. Але ўбачыць знакамітага прафесара мне давялося толькі праз больш чым дваццаць гадоў, калі па запрашэнні часопіса «Стаматолаг» я прыйшла браць у яго юбілейнае інтэрв'ю.

Ён належыць да тых людзей, чыя дзейнасць адбіваецца на ўсёй нацыі, хоць імёны іх ні пра што гэтай нацыі не гавораць. Шмат гадоў ён працаваў у штаб-кватэры Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ў Жэневе і таму меў магчымасць атрымаць сапраўднае разуменне таго, што ёсць арганізацыя аховы стаматалагічнага здароўя па міжнародных стандартах. У Жэневе яго непасрэднай працай было абагульненне сусветнага досведу і напісанне праграм стаматалагічнай прафілактыкі і дапамогі для краін так званага трэцяга свету (па стане на 1970-я). У асноўным гэта былі краіны Блізкага Усходу. Ён ездзіў туды ў камандзіроўкі, аглядаў дзяцей і дарослых, рабіў для іх заключэнні пра тое, якая стаматалагічная дапамога ім патрэбна ў першую чаргу.

Напісаныя ім алгарытмы працавалі ў Сірыі, Тайландзе, Іарданіі, Егіпце і Саудаўскай Аравіі. Натуральна, што спачатку трэба было вывучаць, як працуюць такія праграмы ў развітых краінах, таму спачатку ён ехаў на Захад, а потым ужо пад блакітным сцягам СААЗ вёз ідэі туды, дзе яны больш патрэбныя. Вярнуўшыся ў Савецкі Саюз, Пётр Леус напісаў такую праграму і для сваёй краіны.

Вярнуўся ён, канечне, у Маскву. А на маё пытанне, як ён трапіў у Мінск, пачаў адказваць жартам: «Вы хочаце ведаць, выслалі мяне ці заслалі? Гэта многіх цікавіла... У адрозненне ад Масквы, дзе працавалі заскарузлыя кансерватары, якіх цікавіў толькі матэрыяльны бок справы, у Мінску мне бачылася развіццё. І факультэт тут быў — не параўнаць з многімі. Мяркую, што ў СНД ён быў найлепшым».

Я была непасрэднай сведкай тых перамен, якія надышлі ў беларускай стаматалогіі са з'яўленнем у ёй Пятра Леуса, бачыла гэтыя перамены з самай што ні ёсць блізкай адлегласці. Першае з відавочнага: у студэнтаў з'явіўся новы прадмет — «Камунальная стаматалогія». Ён пачаў выкладацца ў нас, на Сухой. У яго курс увайшло тое, без чаго дыплом нашага доктара не мог канкурыраваць з замежным: ён даваў веданне таго, як уводзіць у грамадства метады прафілактыкі і ажыццяўляць маніторынг іх эфектыўнасці, урэшце нават тое, колькі фтору павінна ўтрымліваць зубная паста і як навучыць пацыента правільна чысціць зубы. Каб пераканаць усіх, хто скептычна глядзеў на такі прадмет, у яго неабходнасці, доктар Леус паехаў з рэктарам у Капенгаген, дзе той прайшоў тыднёвы курс гэтай самай камунальнай стаматалогіі


WIKIMEDIA COMMONS

**На матавае шкельца капалі кропельку эўгенолу**, дадавалі на кончыку шпаталя белай гліны і дасыпалі, увесь час расціраючы, парашок аксіду цынку.




**Фтарыраваную соль** пераканаў выпускаць Пётр Леус.

і атрымаў дыплом. Вярнуўшыся, ён на пасяджэнні сказаў: «Калегі, такі курс нам патрэбен».

Я памятаю, як гэты курс зацікавіў нашых дактароў: дацэнтаў яны распытвалі пра яго ва ўсіх падрабязнасцях. Неўзабаве на кожным століку з'явіліся мадэлі сківіц і зубныя шчоткі, кожнаму пацыенту на іх паказвалі, як чысціць зубы правільна — не заганяць налёт у міжзубныя прамежкі, а «вымятаць» яго з іх. Тут жа з'явіліся і флосы — зубныя ніткі.

Дарэчы, пра фтор. У тым, што ў 1990-я пачалі выпускаць фтарыраваную соль, таксама «вінаваты» доктар Леус. Ён прасоўваў такую ідэю як неабходную для прафілактыкі карыесу ў насельніцтва. Пасада, якую ён займаў, і аўтарытэт былога супрацоўніка Сусветнай арганізацыі аховы здароўя дазвалялі яму ісці з гэтай ідэяй і ў міністэрства, і ў СМІ. Выпуск такой солі быў наладжаны ў Мазыры.

А памятаеце, калі знік мыш'як? Гэта прафесар Леус прыйшоў аднаго дня на кафедральнае пасяджэнне і сказаў як адрэзаў: «Мыш'як — адмяняецца».

## Red root canals *vs* гутаперча

У пачатку 1990-х мы раз на месяц атрымлівалі кавалачак мыш'яку памерам з буйную гарошынку: нам яго выдавала на складзе ў падвале малога корпуса згаданая Арыфа Канстанцінаўна, галоўная медсястра. А прыйшоўшы на працоўную змену, першай справай замешвалі цынк-

▶ эўгенолевую пасту для пламбавання каналаў: на матавае шкельца (ад празрыстага яно адрознівалася тым, што паста па ім не слізгала, бо паверхня яго шурпатая) капалі кропельку эўгенолу (спецыяльнага алею з моцным гваздзіковым пахам), дадавалі на кончыку шпаталя белай гліны і дасыпалі, увесь час расціраючы, парашок аксіду цынку. Некалькі сутак пасля пламбавання цынколем без абязбольвання было не заснуць, для аблягчэння пацыентам прапісвалі фізіяпрацэдуры. Гэта быў не адзіны сродак для пламбавання каналаў, але другі — рэзарцын-фармалінам, які мы таксама замешвалі ўласнаручна, — быў значна горшы: запламбаваныя ім зубы, якія называліся рэзарцыненымі, або шклянымі, мелі ружовае адценне і далейшаму лячэнню не падлягалі (іх можна было толькі выдаліць), і па іх за мяжой лёгка пазнавалі савецкага пацыента. «Яны да гэтай пары называюцца *red root canals* — з намёкам на тое, што зуб чырвоны, значыць, савецкі», — прызнаваўся мне ізраільскі прафесар Уладзіслаў Мірошнік.

I вось у сярэдзіне 1990-х са столікаў стаматолагаў знік мыш'як — яго замянілі еўрапейскія дэвіталізуючыя пасты з рознымі тэрмінамі дзеяння. Некаторыя з іх таксама ўтрымлівалі мыш'як, але гэта ўжо не было так кепска і небяспечна. Бо ад мыш'яку, пакуль пульпа яшчэ жывая, зуб баліць, а потым, калі ператрымаць яго ў зубе хоць трошкі больш, чым трэба, пачынаюць адміраць вакольныя тканкі, якія патрэбны жывымі. Недалечаны зуб, у якім мыш'як пакінуты і «забыты», чакае пагібель. Галоўная праблема была ў тым, што мыш'як нельга было трымаць у зубе больш чым тры



RSRFINANSIAL.COM

**У другой палове 1990-х старыя савецкія стаматалагічныя ўстаноўкі змянілі на «касмічныя»**, з крэсламі, у якіх пацыенты ўжо не сядзелі, а ляжалі.

дні, і трэба было старацца трапіць да доктара ў патрэбны дзень, што не заўсёды магчыма. З новымі ж дэвіталізуючымі пастамі ўсе праблемы вырашаліся. Па-першае, яны ўтрымлівалі лідакаін і ментол, што абязбольвала, па-другое, існавалі ў розных варыянтах тэрмінаў дзеяння, былі і такія, з якімі можна спакойна адправіцца на месяц у камандзіроўку: трэба дык трэба.

А замест цынколю з'явілася гутаперча: біясумяшчальная з арганізмам і нетаксічная, бактэрыястатычная і рэнтгенакантрасная. Нават ватныя валікі мы ўжо не круцілі: дактары пачалі карыстацца «фабрычнымі». Прарыў заўважаўся і ў тым, што на змену старым савецкім стаматалагічным устаноўкам у кабінетах з'явіліся «касмічныя» крэслы, у якіх пацыенты ўжо не сядзелі, а ляжалі. Цяпер не стаялі на століках шклянкі з вадой з апушчанымі ў іх «грушамі», а пацыенты перасталі чуць адвечнае «сплюньце»: да ўстановак прымацоўваліся



WIKIMEDIA COMMONS

**Новае — гэта добра забытае старое.** Крэсла Фрэдрыка 1904 года, адно з першых з масляна-гідраўлічным пад'ёмам, — яўны правобраз сучасных.

літровыя балоны з вадой, якая трапляла ў рот пацыента праз «пісталет» і потым знікала скрозь трубку аднаразовага слінацяга. Працаваць на такой устаноўцы ўжо трэба было ў чатыры рукі, і медсястра, якая так працавала, пачала называцца асістэнтам стаматолага. У мяне да гэтай пары вельмі моцныя рукі: на працягу ўсёй лячэбнай маніпуляцыі, якая магла доўжыцца 20 хвілін, трэба было трымаць іх у напружанні.

## Вучэбныя — таксама лячэбныя

Рэспубліканская клінічная стаматалагічная паліклініка —

і сёння «тры ў адным». Па-першае, гэта звычайная паліклініка са сваім участкам абслугоўвання. Але, у адрозненне ад іншых паліклінік, тут пацыент можа выбраць, запісацца яму ў лячэбны кабінет, дзе прыём вядзе доктар, ці ў вучэбны, дзе лечаць студэнты старэйшых курсаў, але пад кіраўніцтвам кафедральных выкладчыкаў, ардынатараў і дацэнтаў.

У маёй працоўнай кніжцы напісана: «Медыцынская сястра вучэбных кабінетаў». Хаця працавала я і ў вучэбным, і ў лячэбным, як і ўсе: за кожнай медсястрой былі замацаваныя адзін лячэбны кабінет на два крэслы з двума дактарамі і адзін вучэбны на пяць крэслаў з адным выкладчыкам і дзясяткам студэнтаў.

Па-другое, тут кансультацыйны цэнтр для «цяжкіх» пацыентаў з усёй краіны. І па-трэцяе, *alma mater* усіх беларускіх (і не толькі беларускіх) стаматолагаў пачынаючы з канца 1963 года, калі адзін з карпусоў, маленькі, на той час адзіны, рашэннем міністра аховы здароўя БССР Івана Інсарава перастаў належаць зубаўрачэбнай школе (яе перавялі ў Гомель) і адышоў стамфаку пад кіраўніцтвам доктара Юдэля Калманавіча Мятліцкага. Апошні вучыўся яшчэ ў Паўла Даўге, першага пасля ўсталявання савецкай улады арганізатара стаматалагічнай дапамогі насельніцтву.

## Доктар Вялічка

У адным кабінеце з Мятліцкім працаваў Леанід Вялічка, будучы доктар навук, адна з легенд айчыннай стаматалогіі, чалавек, дзякуючы якому зубныя пратэзы набылі так званую электрахімічную аднароднасць: хрома-нікелевы сплаў метадам іонна-прамневай апрацоўкі пакрываўся нітрыд-тытанавай


ФОТА СВЯТЛАНЫ ВОЦІНАВАЙ

**Мацэвы** з яўрэйскіх могілак.

плёнкай. За распрацоўку тэхналогіі і абсталявання Леанід Сцяпанавіч у 1985 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР. Сёння гэтага доктара ўжо няма сярод нас, але на Сухой ён працаваў да апошняга. «Проста адчуваю, што я патрэбны», — гаварыў ён. Калі я размаўляла з ім у 2015-м, ён, ужо 90-гадовы, ведаючы, што перад ім галоўны рэдактар часопіса «Маладосць», распавёў, узрадаваны такой сустрэчай, пра Аляксея Кулакоўскага, самага першага «маладосцеўскага» галоўрэда. Аказалася, што Кулакоўскі і Вялічка сваякі, і малы Лёня з кошыкам у руках бегаў да Кулакоўскіх па вішні.


MINSK-OLD-NEW.COM

**Зусім побач даўней былі яўрэйскія могілкі, якія дзейнічалі з 1868 да 1946 года і былі знесены ў 1970-я (часткова) і 1990-я (канчаткова).** Уваходная брама на іх была неймаверна прыгожая. А ў вайну тут было яўрэйскае гета: і стары, і новы будынкі паліклінікі — проста на яго тэрыторыі.

## A posteriori

З паліклінікай на Сухой, 28 я развіталася ў пачатку 1999 года — перад заканчэннем універсітэта. Калі б не клікала нешта ўнутры мяне штурмаваць хоць якія-небудзь вяршыні, я ніколі не пакінула б тое месца, дзе мне было надзвычай камфортна, дзе я адчувала сябе як рыба ў вадзе. ◆

# ВІТАЎТ супраць УЛУГБЕКА

«Гібрыдная вайна» за трон Залатой Арды

**У пачатку XVI стагоддзя Мікола Гусоўскі ў сваёй «Песні пра зубра» напісаў пра вялікага князя Вітаўта: «Грознай Ардзе мог прыцыкнуць: знай меру, татарын!» Мы памятаем гэты ўрывак са школы. Але мала хто, здаецца, задумваўся: а калі ж гэта Вітаўт сапраўды «прыцыкваў» на Арду? На памяць прыходзяць хіба толькі катастрафічная бітва на Ворскле 1399 года (ох, і далі там нашым ардынцы!..) ды яшчэ, можа, Джалал ад-Дзін са сваім атрадам пад Грунвальдам… Увогуле ж татарскія справы Вітаўта застаюцца ў нас збольшага па-за ўвагай. А дарма, піша Сяргей Лукашанец.**

### «Прасілі ў яго цара на царства»

Гусоўскі наконт Арды меў рацыю, і ён быў не адзіны, хто адзначаў гэты кірунак дзейнасці славутага вялікага князя. Роўна на сто гадоў раней за яго безыменны кніжнік-смаленец, патрыёт Вялікага Княства Літоўскага, напісаў панегірык «Пахвала Вітаўту», у які ўключыў асобны раздзел пра татарскія справы. Напісаны твор быў у самыя апошнія гады жыцця вялікага князя — у 1428 годзе. Вітаўт тады быў у зеніце славы, памяць пра фіяска пад Ворсклай за 30 гадоў даўно паблякла, «парасла быллём». А ў «Пахвале» гаворка ідзе пра самыя нядаўнія часы.

У панегірыку пішацца, што чатыры разы прыходзілі да «слаўнага гаспадара Аляксандра, званага Вітаўтам», калі той быў у Кіеве, «вялікія князі ардынскія, паручаючыся верна служыць яму, і прасілі ў яго цара на царства». Вітаўт даваў ім «цара» аж чатыры разы. І кожны з тых «цароў» «ніяк не смеў не слухацца слаўнага гасудара: дзе і калі яму загадае, ён туды і качуе». Вось імёны гэтых «цароў»: **Салтан, Салтан Малы, Даўлад-Бердзі і «Магнет» (Махмед)**.

Што гэта былі за «цары», дзе яны панавалі, якая роля ў іх узвышэнні належала сыну Кейстута і што з усяго гэтага выйшла — пра тое летапісец не кажа. Панегірык — не той жанр, у якім лезуць у дэталі… То давайце ў гэтым паспрабуем разабрацца мы.

### Смерць «шэрага кардынала»

У 1419 годзе Залатая Арда ўскалыхнулася ад краю да краю, а ўслед за ёю — і сумежныя дзяржавы. У заволжскім стэпе, у бітве з мяцежнымі кланамі склаў галаву легендарны цёмнік (найвышэйшы военачальнік) Залатой Арды Ідзігей.

Не належачы да роду Чынгісхана (а толькі такія маглі афіцыйна рабіцца ханамі), Ідзігей свабодна саджаў паслухмяных яму ханаў на «залаты трон» у ардынскай сталіцы — Сараі. І такім чынам фактычна кіраваў дзяржавай. Калі ж стаўленікі пачыналі бунтаваць супраць яго (а гэта рабіў урэшце амаль кожны), то Ідзігей скідаў іх і знаходзіў пераемнікаў. Сфера дзейнасці Ідзігея раскінулася па ўсім стэпе, ад Кіева і Масквы да далёкага Харэзма ў Сярэдняй Азіі. Пасля смерці пра яго склалі эпас — такую меў славу.

З Вітаўтам яны былі даўнія зацятыя праціўнікі. Пасля паразы на Ворскле вялікі князь даў у Літве прытулак дзецям галоўнага ворага Ідзігея — хана Тахтамыша. Старэйшы з іх, Джалал ад-Дзін (**першы Салтан з «Пахвалы»**), адзначыўся ў Грунвальдскай бітве. Праз год пасля яе, у 1411-м, Вітаўт дапамог яму на пэўны час вярнуць бацькоўскі трон. А пазней, у 1416 годзе, валадар Літвы напусціў на Ідзігея другога сына Тахтамыша — Джабар-Бердзі. Усёмагутны цёмнік адбіў напад і ў адказ страшна зруйнаваў Кіеў.

І вось цяпер ён быў мёртвы — яго галаву адсеклі ворагі, а цела кінулі ў возера, побач з якім ён хаваўся, паранены ў бітве, у зарасніках чароту. Ці адчуваў ▸

### Залатая Арда

дзяржава з цэнтрам у ніжнім Паволжы, заснаваная ў 1243 годзе мангольскім ханам Батыем, унукам Чынгісхана. Распаўсюджаная ў сучаснай гістарыяграфіі назва з'явілася толькі ў XVI стагоддзі, а ў тагачасных крыніцах гэтая дзяржава звычайна звалася проста Арда.

У часы найбольшай магутнасці ўлада ханаў Залатой Арды ахоплівала значную частку сучаснай Расіі, паўночны і заходні Казахстан, усходнюю і паўднёвую Украіну, частку Узбекістана і Туркменістана. Многія землі, якія ў склад Арды фармальна не ўваходзілі, плацілі ардынскаму хану даніну. Сталіцай Залатой Арды быў горад Сарай, які месціўся на тэрыторыі сучаснай Астраханскай ці Валгаградскай вобласці Расіі (дакладнае месца не вызначанае, ёсць розныя версіі, сталіцы качавых народаў пакідалі мала слядоў).

Росквіт Залатой Арды прыпаў на першую палову XIV стагоддзя, кіраванне ханаў Узбека (1313–1341) і Джанібека (1342–1357). Пасля гэтая дзяржава неаднаразова трапляла ў крызісы і смуты, якія ўрэшце прывялі да яе аслаблення і распаду. У пачатку 1420-х утварылася асобнае Сібірскае, у 1428-м — Узбекскае, у 1438-м — Казанскае, у 1441-м — Крымскае, у 1465-м — Казахскае ханствы, у 1440-я — Нагайская арда. Пераемніцай Залатой Арды пасля таго засталася Вялікая Арда, якая ўключала ніжняе Паволжа, землі паміж Волгай і Донам і стэпы Паўночнага Каўказа, але ў пачатку XVI стагоддзя і яна спыніла сваё існаванне.




**Феадосія.** Мастак Канстанцін Багаеўскі. 1930 год.

▶ Вітаўт маральную асалоду? Магчыма. Але, як сапраўдны палітык, перадусім ён думаў пра новыя магчымасці, якія адкрывала гэта гібель. Бо сітуацыя ўзнікла рэдкая: Арда засталася без хана. Апошні сын Тахтамыша, малады царэвіч Кадыр-Бердзі (гэта ён вёў мяцежнікаў на Ідзігея), загінуў у той жа бітве.

### Кантроль над Крымам

Амбіцыі штурхалі Вітаўта на поўдзень, да цёплых берагоў Крыма — туды, дзе над марскімі хвалямі ўзвышаліся сцены генуэзскай калоніі Кафы (сучасная Феадосія). Там завяршаўся Вялікі шоўкавы шлях, і праз Кафу працякалі велізарныя багацці, асядаючы ў кішэнях генуэзцаў. Сам паўвостраў быў татарскі, і купцы шчодра плацілі татарам за мір і абарону. Таму ханскі намеснік у Салхаце (цяпер горад Стары Крым) па даходах не саступаў свайму гасудару ў Сараі.

У Хроніцы Яна Длугаша сказана: у 1418 годзе Вітаўт каранаваў у Вільні татарскага цара па імені *Betsubulan*. З годам выйшла памылка — гэта магло здарыцца толькі пасля смерці Ідзігея. Але сам факт праўдзівы: у масарыях (бухгалтарскіх кнігах) Кафы з 1419 года сапраўды з'яўляюцца выплаты на імя *Bescuff ogolano* — Бек-Суфі.

**Мэтай Літвы было ператварыць Крым у незалежную саюзную дзяржаву**

Гэтага чынгісіда (нашчадка Чынгісхана) добра ведалі ў Крыме. Ягоны бацька, Таш-Цімур, ужо быў крымскім намеснікам пры Тахтамышу, які кіраваў Залатой Ардой у 1380–1395 гадах. Бек-Суфі і сам нейкі час займаў гэтую пасаду ў 1411 годзе, пры Джалал ад-Дзіне. Аднак цяпер ён тут у новай ролі. Генуэзцы называюць яго «імператарам Салхата» — суверэнным гасударом. На сваіх манетах ён пазначае сябе як «султан, сын султана» — гэта і ёсць **Салтан Малы з «Пахвалы Вітаўта»**.

Бек-Суфі добра ведаў, каму абавязаны сваім узвышэннем. Фламандскі рыцар-падарожнік Жыльбер дэ Лануа называе яго «даўнім сябрам Вітаўта». Гаспадар ВКЛ скарыстаўся смутай у Ардзе і паставіў Бек-Суфі на чале самай багатай правінцыі, адарваўшы яе ад Сарая. Мэтай Літвы было ператварыць Крым у незалежную саюзную дзяржаву.

### Самарканд у гульні

Тым часам у Ардзе таксама адбыліся перамены. Пакончыўшы з Ідзігеем, татарскія бекі мелі патрэбу ў новым хане. Іх правадыр, Кадыр-Бердзі, загінуў, а больш у Тахтамыша сыноў не было. Выбар прыпаў на малазначнага чынгісіда Мухамеда, чый бацька «славіўся» буйнымі казінымі статкамі. Ён быў далёкім сваяком Тахтамыша. Каб адрозніць гэтага Мухамеда ад шматлікіх цёзак, яго сталі называць Улуг-Мухамед, што значыць «старэйшы».

Улуг-Мухамед быў пасрэдным палкаводцам, але разумным палітыкам. Ён навучыўся кансалідаваць вакол сябе ардынскую эліту. Яго галоўнай апорай сталі моцныя крымскія кланы — Шырыны і Кунграты, а іх лідары, Тэгінэ і Хайдар — яго першымі паплечнікамі.

Як прадстаўнік заходняга крыла Арды, Улуг-Мухамед не мог прымірыцца з існаваннем асобнага «царства» Бек-Суфі пад патранатам Літвы.

Аднак не толькі Вітаўт умешваўся ў татарскія справы. З далёкага Самарканда за падзеямі ў Ардзе ўважліва сачыў Улугбек. Мы ведаем яго перадусім як астранома, але ён, унук славутага Цімура (Тамерлана) Кульгавага, быў і валадаром памежнай з Ардой Сярэдняй Азіі, дзяржавы, якая тады звалася Маверанахр. Калі Вітаўта цікавіў Крым, то Улугбека турбаваў багаты Харэзм — яблык разладу паміж Сараем і Самаркандам. Толькі зусім нядаўна, у 1412 годзе, дзецям Цімура ўдалося адбіць яго ў Ідзігея. І цяпер непасрэдны інтарэс Улугбека быў у тым, каб мець на «залатым троне» залежнага хана.

Пратэжэ Улугбека стаў Барак, прынц з сібірскай галіны Чынгісавага роду. Пры жыцці Ідзігея ён трымаўся ўбаку, але ў пачатку 1419 года з'явіўся ў Самаркандзе. Але вось купцы з Залатой Арды данеслі пра новую смуту, і Барак ужо ідзе на поўнач — адваёўваць Сарай. З падтрымкай Цімурыдаў ён адразу стаў моцным кандыдатам.

## Па схеме маятніка

Улетку 1421 года па крымскіх стэпах у бок Кафы рушыў атрад фламандскага рыцара, пасланца бургундскага герцага і англійскага караля Генрыха V, Жыльбера дэ Лануа. Ён вяртаўся з дыпламатычнай місіі да каталіцкіх гасудароў Усходняй Еўропы. За два дні шляху ад Салхата ён і яго спадарожнікі трапілі ў татарскую засаду. Аднак на дэ Лануа была шапка і адзенне з колерамі Вітаўта — яны нядаўна сустракаліся ў Крамянцы на Падоллі, — таму татары адразу адпусцілі яго і світу, хоць і забралі ўсе падарункі: золата, срэбра, віно, куніц. Стэпавы Крым быў ужо ў сферы ўплыву Літвы. ►



**Улугбек (1394–1449)** сярэднеазіяцкі валадар, унук знакамітага палкаводца Цімура (Тамерлана). У 1409 годзе стаў правіцелем рэгіёна Маверанахр паміж рэкамі Амудар'я і Сырдар'я, збольшага на тэрыторыі цяперашняга Узбекістана. Ягоны бацька, Шахрух, быў эмірам усёй імперыі Цімурыдаў, сталіца якой была перанесена з Самарканда ў Герат (цяпер на тэрыторыі Афганістана). Улугбек вядомы не толькі як палітычны дзеяч, але і як выдатны матэматык, астраном, асветнік і паэт свайго часу. Заснаваў пад Самаркандам адну з найважнейшых абсерваторый Сярэднявечча. Аўтар аднаго з найбольш аўтарытэтных астранамічных даведнікаў таго часу. Складзеныя ім астранамічныя табліцы вызначаліся найбольшай дакладнасцю сярод сучаснікаў. Быў таксама шчодрым мецэнатам, аказваў падтрымку культуры. Шмат увагі надаваў асвеце, пры ім заснаваныя некалькі медрэсэ, якія адыгрывалі важную ролю ў тагачаснай ісламскай адукацыі.



▶ Якраз тады дэ Лануа і даведаўся, што «даўні сябар Вітаўта» Бек-Суфі нядаўна памёр. На яго месца быў пастаўлены ягоны брат — Даўлад-Бердзі **(трэці з чатырох цароў, узгаданых у «Пахвале»)**. Меркавалася, што ён будзе працягваць палітыку па адасабленні Крыма ад Залатой Арды. Але на практыцы ўсё выйшла трохі іначай...

Пра падзеі тых гадоў добра напісаў сучаснік, каірскі саноўнік і храніст Аль-Айні: у Ардзе «было вялікае бязладдзе ў адсутнасць старэйшага... Уверх узняліся некалькі асоб ханскага роду. Кожны валадарыў сваім краем, і ні ў аднаго з іх справы не ішлі на лад». Вітаўт у пісьме да магістра Ордэна пісаў у студзені 1425 года тое ж самае: у «імперыі Татарыі... знаходзяцца шэсць высакародных цароў, кожны дабіваецца царства». Найбольш значнымі былі трое: фармальны хан Улуг-Мухамед, стаўленік Улугбека Барак і кліент Вітаўта Даўлад-Бердзі.

Найлепшыя пазіцыі меў Улуг-Мухамед, за якім стаялі моцныя заходнія кланы (Шырыны і Кунграты). Яны забяспечылі яго палітычнае выжыванне, але не маглі даць яму поўнай перамогі. Вайна ішла па схеме маятніка. Улуг-Мухамед прыходзіць у Крым і без праблем выганяе Даўлад-Бердзі. І ў той жа самы момант на Сарай з-за Волгі наступае Барак. Улуг-Мухамед ідзе на яго на ўсход, а Даўлад-Бердзі імгненна вяртаецца ў Салхат. Падобнае паўтараецца раз на паўгода на працягу некалькіх гадоў.



**Манета Даўлад-Бердзі.**

## Сарайская авантура

Улуг-Мухамед добра разумеў, што і Барак, і Даўлад-Бердзі моцныя знешняй падтрымкай. Каб раскалоць альянс Барака з Цімурыдамі, ён слаў паслоў у Персію, да бацькі Улугбека Шахруха, запэўніваў, што хоча мець з ім трывалы мір. Але Барак працягвае ціснуць. Па звестках, якія прыходзілі да Шахруха і Улугбека, у 1423 годзе «большая частка ўлуса... схілілася і падпарадкавалася яму» (Бараку).

І ў той жа час дзёрзкая думка закралася ў галаву Даўлад-Бердзі: а чым я сам не хан? Чаму мне не паспытаць удачы? Увесну 1423 года, узяўшы ў генуэзцаў Кафы велізарны крэдыт у 60 тысяч безантаў*, Даўлад-Бердзі адправіўся з Крыма заваёўваць Сарай. Наўрад ці гэта было тое, чаго ад яго чакаў Вітаўт... У кожным разе выправа гэтая скончылася поўным фіяска. Баварскі рыцар Ёган Шыльтбергер, які 30 гадоў правёў у палоне на Усходзе, паведамляе: Даўлад-Бердзі прасядзеў на «залатым троне» ўсяго тры дні. З Сарая яго выгнаў Барак, і ён як пабіты сабака вярнуўся назад у Салхат.

## «Махмед, наш сябар»

Пасля сарайскай авантуры Вітаўт расчараваўся ў сваім пратэжэ. Даўлад-Бердзі аказаўся інтрыганам і няўдачнікам. Вялікі князь вырашыў прыгледзецца да Улуг-Мухамеда. Ці не будзе той лепшым саюзнікам? Чым мець васальны Крым, ці не лепей здабыць паслухмяную Арду?

Для Улуг-Мухамеда такі альянс таксама быў вельмі прывабны. Па-першае, гэта здымала праблему крымскага сепаратызму. Па-другое, з літоўскай падтрымкай узнікае шанец разграміць Барака. Збліжэнне двух уладароў было заканамерным. У чэрвені 1424 года Вітаўт хваліцца ў пісьме магістру Ордэна, што «татарскі цар ... Махмед, наш сябар, ... поўную ўладу разам з усім царствам з нашай зямлі заняў і авалодаў». Імаверна, Улуг-Мухамед і ёсць той самы **чацвёрты «цар» Махмед (Магнет) з «Пахвалы Вітаўту»**.

Аднак патрэбен быў час, каб хаўрус хана і вялікага князя пачаў прыносіць плён. У Крыме (з перапынкамі) працягваў сядзець Даўлад-Бердзі. Кар'ера ж Барака зімою 1424–1425 гадоў дайшла да найвышэйшага пункта. Яго пасланец, царэвіч Джумадук, прывез Улугбеку крэчатаў, пародзістых скакуноў і звесткі, што Барак заняў «залаты трон». Цар-астраном быў узрадаваны. Ён у адказ таксама паслаў свайму саюзніку багатыя падарункі (шытыя золатам халаты, карону, паясы, калчаны, шаблі з залатымі тальмахамі (перавязямі), сцяг, літаўры, дынары і дзырхемы), а таксама віначэрпаў, музыкаў, кухараў, рамеснікаў — усё, што трэба для палаца. Здавалася, Улугбек дасягнуў сваіх мэтаў. Але гэта было толькі часова.

## Стаўка сыграла

Улуг-Мухамед увесь 1425 год заставаўся ў Падняпроўі — у полі зроку Вітаўта — і запасіў сілы. Толькі ў лютым 1426-га ён наважыўся выступіць на ўсход.

На жаль, пра тую вайну не засталося ніякіх звестак, нават

* **Безант** — еўрапейская назва візантыйскага соліда і іншых залатых манет усходніх дзяржаў. Слова паходзіць ад скажонай назвы Візантыі.

у татарскіх паданнях. Вядома толькі, што Барак пацярпеў у 1426 годзе скрышальную паразу. Прычынай мог быць не толькі абноўлены саюз Улуг-Мухамеда з Вітаўтам, але і недарэчная спрэчка паміж Баракам і Улугбекам за памежны горад у Сярэдняй Азіі — Сыгнак (цяпер на поўдні Казахстана). Стаўшы ханам, Барак забраў яго сабе, і пакрыўджаны Улугбек у вырашальны момант адмовіў яму ў падтрымцы.

Разгромлены Барак адступіў у казахскі стэп, бліжэй да Улугбека. Абодва бакі расчараваліся ў сваім хаўрусе. Каб кампенсаваць няўдачы на захадзе, Барак у 1427 годзе раптоўна напаў на свайго нядаўняга патрона. Ягоныя войскі ўчынілі страшэнны пагром Цэнтральнай Азіі. Улугбек выступіў на яго з войскам, але цару-астраному бракавала вайсковых талентаў яго дзеда. Татары разбілі яго ўшчэнт, так што той ледзь паспеў уцячы з поля бою. Толькі прыход з Персіі бацькі Улугбека, сына Тамерлана Шахруха, з усімі сіламі адагнаў варожыя тумены прэч. А праз год Барак загінуў ад рук уласных нукераў.

Прыблізна ў той жа самы час на захадзе закацілася зорка Даўлад-Бердзі. Пакуль Улуг-Мухамед граміў Барака, ён ціхенька вярнуўся ў Крым. «Імператар Салхата» ўсімі сіламі шукаў знешнюю падтрымку. Генуэзцам у Кафе ён падарыў каня. Напісаў мудрагелістае пісьмо егіпецкаму султану (каірскія саноўнікі так і не змаглі разабраць, што ён хацеў сказаць). Але галоўнае — вярнуць прыязнасць вялікага князя! Вітаўту, заступаючыся за Даўлад-Бердзі, піша з Кафы армянін-францысканец Аванес. Запэўнівае, што разлад паміж імі выйшаў не па віне Даўлад-Бердзі, а праз інтрыгі благіх саноўнікаў.



**Фэнтэзійны партрэт Улуг-Мухамеда** ад сучаснага казанскага мастака Рыфката Вахітава.

Але ўсё было марна. Стаўка Вітаўта на Улуг-Мухамеда не змянілася. Даўлад-Бердзі прызнаў вяршэнства хана. Яму дазволена было мірна дажыць свае дні. Так бясслаўна скончылася першая спроба стварыць незалежнае Крымскае ханства.

## Усё пайшло на глум

Са смерцю Барака Улуг-Мухамед атрымаў над Ардой поўную ўладу. Хан-трыумфатар апавясціў аб тым мусульманскіх валадароў: асманскага султана Мурада II і егіпецкага Барсбая. Але гэта была і перамога Вітаўта таксама: на чале ўсёй Арды (не толькі Крыма, а да самай Волгі) стаяў прыязны яму гаспадар. Вось як ён пісаў магістру Ордэна: «Цар Махмед, наш сябар, ... валодае ўсім царствам і Ардой».

У Вітаўта былі прычыны ганарыцца сабой. Мала таго, што ён узяў рэванш за Ворсклу 1399 года, спыніліся набегі на літоўскія землі, а татары, наадварот, бралі ўдзел у яго вайсковых выправах, як на Пскоў у 1426 годзе. Вітаўт ушчыльную падышоў да таго, каб завалодаць Кафай! Ён пагражаў генуэзцам нацкаваць на іх Улуг-Мухамеда, калі яны не пяройдуць пад яго руку. Дайшло да таго, што пасол Кафы Баціста Джэнціле паабяцаў дабіцца адпаведнага дазволу ад «Рэспублікі Святога Юр'я», як тады часта называлі Геную. Здаецца, яшчэ вось-вось — і «Пагоня» са штандарам Вітаўта залунае на сценах старажытнай Феадосіі...

Але смерць вялікага князя ў 1430 годзе абарвала ўсе гэтыя смелыя планы. Крым так і не стаў літоўскім. Пераемнікі хутка змарнавалі ўсе Вітаўтавы дасягненні. Адносіны паміж Ардой і Літвой дэградавалі, а сам Улуг-Мухамед у канцы 1430-х страціў уладу (ён уцячэ ў Казань, дзе стане заснавальнікам мясцовай дынастыі). Да пачатку 1440-х з палітычнага ландшафту зніклі ўсе сляды бліскучай перамогі Вітаўта над Улугбекам у «гібрыднай вайне» за трон Залатой Арды. ◆



# З вяршкамі і за чытаннем навін

## Нашы продкі пілі каву па-еўрапейску

**У XVIII стагоддзі кава зрабілася не толькі ўлюбёным напоем еўрапейцаў, але таксама сімвалам эпохі Асветніцтва, а кафенгаўзы сталі важнай публічнай пляцоўкай для фармавання грамадскай думкі. Піша Кірыл Карлюк.**

Еўрапейцы ведалі, што арабы п'юць каву, але самі палюбілі яе толькі з сярэдзіны XVII стагоддзя (гл. пра пашырэнне кавы ў Еўропе артыкул Андрэя Дзмітранка ў № 12/2020, а як упадабала каву наша шляхта — у артыкуле Алеся Белага ў № 4/2018 «Нашай гісторыі»). Аднак мінулае кавы — не адно гісторыя самога напою, але і культура кавярань. А з ёй у XVIII стагоддзі звязана экспансія перадавых грамадска-палітычных ідэй эпохі.

### Не такія страшныя туркі

Аж да XVIII стагоддзя Турцыя была найбуйнейшым вытворцам кавы. Туркі пілі яе з XII стагоддзя, увесь гэты час кантактавалі з еўрапейцамі, аднак мода на гэты напой захапіла кантынент толькі ў другой палове XVII стагоддзя. Адкрыліся першыя кавярні, «кафенгаўзы», у Венецыі (1647), Оксфардзе (1651), Лондане (1652), Марсэлі (1659), Амстэрдаме (1663), Гаазе (1664), Парыжы (1672), Брэмене (1673), Гамбургу (1677) — карацей, у самых багатых гарадах. Акурат тады скончылася Трыццацігадовая вайна і быў падпісаны Вестфальскі мір 1648 года, які спыніў гегемонію Габсбургаў у Заходняй Еўропе ды паклаў нарожны камень для сучаснай сістэмы міжнародных адносін. Падставамі для яе сталі дзяржаўны суверэнітэт, баланс сіл і адыход ад канфесійнага фактару ў палітыцы — у Еўропе канчаткова скончылася Сярэднявечча.

Яшчэ стагоддзе да таго турэцкі звычай не мог здабыць такой папулярнасці сярод хрысціян: еўрапейцы баяліся турак як агню і пісалі пра іх крыважэрнасць удвая часцей, чым, скажам, пра адкрыццё Новага Свету. З канца




**Кафенгаўз на Калверстрат у Амстэрдаме.** Малюнак Ісаака Людвіка Ляфарга ван Нюланда, 1761 год.
Тыповы інтэр'ер еўрапейскага кафенгаўза ў вялікім горадзе. Ужо ў 1700 годзе ў Амстэрдаме іх было 32. Кавярні выконвалі функцыі месца адпачынку, чытальнай залы, прасторы для дыскусій і бізнэс-перамоў. Іх наведвалі не адно дваране, заможныя купцы, палітыкі, вядомыя мысляры ці праўнікі, але і рамеснікі, найманыя працоўныя, слугі і інш. Праўда, сядзенне жанчын у кавярнях не віталася: хоць многія кафенгаўзы трымалі і абслугоўвалі жанчыны, паненкі наведвалі іх рэдка, пераважна ў кампаніі сяброў ці сваякоў.

XVII стагоддзя ўсё змянілася, бо з таго часу з туркамі актыўна ваявалі пераважна толькі Аўстрыя і Расія.

Але і аўстрыйская сталіца неўзабаве пасля перамогі над туркамі караля Рэчы Паспалітай Яна III Сабескага пад Венай у 1683 годзе далучылася да агульнаеўрапейскага трэнду, бо ў абозе турэцкага войска сярод багатых трафеяў знайшлося некалькі соцень мяхоў кававых зерняў. У найбліжэйшыя гады ў Вене адкрыліся адразу некалькі кавярняў, сярод уласнікаў якіх былі армянін Аствацатур і легендарны авантурыст Юрый Францішак Кульчыцкі. Апошні быў ці то русінам, ці то палякам, ці то сербам, размаўляў на сямі мовах, доўгі час жыў і працаваў у Бялградзе ды выдатна ведаў турэцкія звычаі. Папулярныя байкі прыпісваюць яму яшчэ і вынаходніцтва дадаткаў да кавы (вяршкі, мёд) і круасанаў.

**Кажуць, што круасан не выпадкова мае форму месяца**

### Праз марскую браму Рэчы Паспалітай

Мы мусім дзякаваць за каву не так Яну Сабескаму, як прадпрымальным купцам, што гандлявалі з Асманскай ▶

### Універсітэт за пені

Першыя кавярні былі аднымі з нямногіх эгалітарных публічных пляцовак, дзе маглі сустракацца людзі розных станаў і дастатку. Незвычайна вольная атмасфера прываблівала многіх у поўным сацыяльных бар'ераў грамадстве. Паўстала новая публічная прастора, запыт на якую ўзнік з распаўсюджаннем асветніцкіх ідэй: для чытання навін, абмену думкамі, дыскусій.

Усяго за кошт аднаго кубка кавы наведвальнікі маглі пачытаць свежыя газеты і ўлёткі, абмеркаваць апошнія навіны, грамадскія ідэі, падзяліцца думкамі, заключыць угоду і інш. У Англіі, дзе ў другой чвэрці XVIII стагоддзя налічвалася ўжо больш за паўтысячы кафенгаўзаў, кубак кавы каштаваў усяго адно пені, таму гэтыя ўстановы пачалі звацца «ўніверсітэтамі за пені». Менавіта ад іх вядуць сваю генеалогію Лонданская фондавая біржа, рынак страхавання Ллойд, аўкцыённыя дамы «Сотбіс» і «Крысціс».

Яшчэ адна характэрная асаблівасць часу — распаўсюд перыядычных газет, у тым ліку штодзённых. Кафенгаўзы стымулявалі попыт на навіны, а ўсе самыя свежыя навіны канцэнтраваліся тут, у кафенгаўзах.

▶ імперыяй: пераважна грэкам, армянам, сербам, габрэям.

Ад самай Люблінскай уніі галоўным портам Рэчы Паспалітай быў Гданьск. Праз гэты горад на Віслe да нас трапляла не толькі ўласна кава, але таксама і апошнія павевы заходнееўрапейскай моды, найноўшыя тэхналогіі і грамадскія ідэі. Кафенгаўзы не сталі выключэннем.

## Акрамя кавы, Момбер прапаноўваў гасцям свежыя газеты з Гаагі і Парыжа ды магчымасць пагартаць геаграфічны атлас

І менавіта тут, на тагачаснай вуліцы Пагенпфуль, прыкладна ў 1700 годзе адкрылася першая кавярня на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Уладальнік — менаніт* Антон Момбер, продкі якога паходзілі з Нідэрландаў.

Кафенгаўз быў арганізаваны паводле найлепшых еўрапейскіх прыкладаў і сам стаў узорным для ўсяго рэгіёна. Акрамя кавы, Момбер прапаноўваў гасцям свежыя газеты з Гаагі, Амстэрдама, Гамбурга і Парыжа ды магчымасць пагартаць геаграфічны атлас. Тут можна было прыдбаць нават квіткі ў тэатр. Кавярня стала важнай гарадской лакацыяй, якую наведвалі людзі без увагі на станавае**, рэлігійнае ці этнічнае паходжанне. Галоўнае, каб ты меў у кішэні грошы на каву ці алкаголь.

Неўзабаве ў Гданьску адчыніліся іншыя кафенгаўзы, асабліва імкліва іх колькасць павялічылася ў апошнюю траціну XVIII стагоддзя. У 1706 годзе з'явіўся першы і ў блізкай Торуні, на радзіме Капэрніка. Яскрава пазначылася іх роля як асяродкаў інтэлектуальнага жыцця: пляцоўкі для дыскусій, чытальніцкія клубы, некаторыя сталі сцэнамі для канцэртаў. У гэты ж час у Гданьску пачынаецца выданне асветніцкіх часопісаў на нямецкай мове.

### Для Варшавы дзве кавярні замнога

Адным з асноўных культуртрэгераў традыцыйна быў каралеўскі двор. Саскія часы не былі выключэннем (падрабязней пра іх чытайце ў № 5/2020 «Нашай гісторыі»), і не без уплыву двара ў шырокі ўжытак увайшлі сталовыя прыборы і абрусы, парцалянавы посуд, распаўсюдзіўся звычай піць мінеральныя воды, якія першапачаткова завозілі з Саксоніі. А таксама піццё кавы і шакаладу.

Для тагачаснай Саксоніі кафенгаўзы былі ўжо звычайнай справай: першы, у Лейпцыгу, функцыянаваў з 1694 года. За любоў да гэтага напою насельнікаў курфюрства іншыя немцы здзекліва звалі *Kaffeesachse* («кававымі саксонцамі»). Таму не дзіўна, што ў Варшаве першы кафенгаўз «За Жалезнай брамай» з'явіўся ў адным з дамоў ля Саскага саду ў 1724 годзе з ініцыятывы саксонца Маергофера, прыдворнага службоўца Аўгуста II Моцнага. Меў ён даволі сціплы выгляд, складаўся з аднаго пакоя, некалькіх столікаў, а з «атракцый» былі більярд ды гадзіннік.




**Кароль Аўгуст III.** Ян Матэйка, 1892 год.
Цікавы вобраз Аўгуста III, створаны Янам Матэйкам у серыі партрэтаў польскіх уладароў. Кароль выяўлены ў строі ордэна Белага Арла з майсэнскай фарфоравай філіжанкай з кавай або шакаладам у руцэ. У яго панаванне кава нарэшце стала папулярным напоем не адно сярод шляхты, але «ўсяго паспольства» — ад рамесніка да галоты.

Восенню таго ж года на Рынку Старога места адкрылася яшчэ кавярня француза Анры Дзюваля. Тагачасныя кансерватыўныя варшавякі, відаць, абмяркоўваць у шырокай кампаніі палітыку не любілі і пілі чорны напой дома, так што двух кафенгаўзаў аказалася забагата. Кавярня Маергофера неўзабаве зачынілася з-за нястачы кліентаў, а ўстанова Дзюваля

* **Менаніцтва** — пратэстанцкая плынь з Нідэрландаў, у аснове філасофіі якой ляжыць пацыфізм. Штораз, калі ўлады намагаліся прымусіць менанітаў служыць у войску, тыя масава эмігравалі ў іншую краіну.

** Слова **стан** тады ў Беларусі мела і тое значэнне, што і расейскае слова «сословие». Існавалі станы шляхты, духавенства, сялянства, мяшчанства. Асаблівы статус мелі яўрэі.

праіснавала аж да 1770-х гадоў. Вось такі спецыфічны барометр грамадскага жыцця ў краіне...

## Эпоха кавы і рэформаў

Затое хваля кафенгаўзаў ахапіла краіну за панаваннем Станіслава Аўгуста Панятоўскага, у час энергічных спробаў рэформаў і бурлівых публічных дыскусій вакол іх, што нарэшце ўвасобіліся ў Канстытуцыі 3 мая 1791 года. У 1792-м у Варшаве і ваколіцах было ўжо болей за сто кавярняў.

Адзін з найбольш папулярных варшаўскіх кафенгаўзаў станіслаўскай эпохі — *«Вясковая кава»* — адкрыўся ў 1779 годзе. Сваю назву ён атрымаў ад вуліцы Вясковай ва Уяздове — любімага месца загараднага адпачынку, асабліва зімовымі святамі. Кавярня знаходзілася ў драўляным будынку: зала з упрыгожанымі кветкамі вялікімі вокнамі змяшчала некалькі дзясяткаў столікаў, канап і крэслаў, клеткі з птушкамі і стары клавікорд. Абслугоўвала гасцей сама гаспадыня, удава купца Нойберта, з дапамогай некалькіх афіцыянтак. Як звярталі ўвагу сучаснікі, тут можна было спаткаць прадстаўнікоў розных станаў і прафесій, моладзь і цэлыя сем'і.

Часам кафенгаўзы станавіліся своеасаблівымі палітычнымі клубамі. Такой была, напрыклад, установа пані Окунь на Наваліп'і — месца папулярызацыі прагрэсіўных ідэй інтэлектуальнага згуртавання Гуга Калантая, званага «Кузняй».

Як і цяпер, кожны кафенгаўз мусіў мець уласную «фішку». Так, кавярня пані Кальсон, што ўпершыню расчыніла свае дзверы ў 1788 годзе (пачатак працы Чатырохгадовага сойма), размяшчалася ў садзе за горадам, была вядомая сваімі выдатнымі інтэр'ерамі і балконам. Тут ладзіліся ўрачыстыя вячэры і карнавалы. Натуральна, што публіка была пераважна элітарная. Пра яшчэ адну з такіх папулярных гарадскіх лакацый пісалі ў 1786 годзе: «на Кракаўскім прадмесці... знаходзіцца кафенгаўз і цукерня, дзе не толькі можна пакаштаваць кавы... але месца гэта вельмі пачцівае з некалькімі прыгожа мэбляванымі пакоямі... дзе кожны можа атрымаць задавальненне ад чытання розных газет, варшаўскіх перыядычных выданняў...»

**Гуга Калантай**
(1750–1812), палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, філосаф, педагог, публіцыст.
Адзін з аўтараў Канстытуцыі 3 мая 1791 года. Прыхільнік ідэі вызвалення сялян ад прыгону, забеспячэння правоў мяшчан і абмежавання ўлады духавенства.




**Фарфоравы кафейнік.**
Майсэнская мануфактура, 1720-я гады.
Такі шыкоўны посуд для кавы выраблялі ў Саксоніі. Натуральна, дазволіць сабе яго маглі заможныя людзі. Пад саксонскім уплывам адмысловая кававыя сервізы рабілі і на мясцовых радзівілаўскіх мануфактурах у Свержані, Белай і Жоўкве. Гандлёвая сцэна, выяўленая тут, нагадвае пра заморскі шлях кавы ў Рэч Паспалітую. Пэўны час гэта быў турэцкі гандаль (мока з Емена). Пасля перапынку ў апошняй чвэрці XVII стагоддзя, выкліканага ваеннымі дзеяннямі, гандаль з Асманскай імперыяй аднавіўся ў пачатку наступнага стагоддзя. Аднак ужо праз два дзесяцігоддзі турэцкую каву ў Польшчы і Літве значна пасунуў марскі імпарт з галандскай Ост-Індыі (Інданезіі) і французскай Марцінікі, які ішоў пераважна праз Гданьск. Толькі за час панавання Аўгуста III праз гэты порт у краіну трапіла 170 тон кавы і амаль 30 тон чаю. Папулярнасць кавы ў Рэчы Паспалітай прывяла да таго, што на яе было ўведзена адмысловае мыта.

## Паставы, Слонім, Зэльва і Друя маглі б аднавіць самыя старажытныя кавярні Беларусі

З Варшавы мода на кафенгаўзы пайшла па ўсёй краіне. У 1770 годзе першы адчыніўся ў старажытным Кракаве на Галоўным рынку, прыкладна ў той жа час — у Львове, Познані (кавярня Геслера ў 1784-м) і іншых гарадах Кароны. Зусім не адставала і Літва. ▶

## Паўсотні кавярняў

Дакладныя даты адкрыцця большасці кафенгаўзаў на абшарах Вялікага Княства Літоўскага невядомыя, а згадкі пра іх звычайна пазнейшыя. Але паводле крыніц, першы кафенгаўз у ВКЛ з'явіўся ў 1763 годзе з ініцыятывы Міхала Казіміра Агінскага ў Слоніме і меў вельмі экстравагантны інтэр'ер (падрабязней чытайце ў артыкуле Ягора Сурскага ў № 11/2019 «Нашай гісторыі»).

У каралеўскім Гродне кафенгаўз быў створаны дзякуючы намаганням Антонія Тызенгаўза (пра яго дзейнасць — у матэрыяле Андрэя Вашкевіча ў № 1/2018 «Нашай гісторыі»). Першая выяўленая згадка — 1780 год, хоць гісторык Наталля Сліж лічыць, што з'явіўся ён прыкладна на дзесяцігоддзе раней. У гэты ж час Тызенгаўз стварыў кафенгаўзы ў Ласосне, Крынках і Паставах.

Не засталася ўбаку і сталічная Вільня. Упершыню кафенгаўз тут згадваецца ў 1786 годзе ў сувязі з нападам на трымальніцу ўстановы на Антокалі, што належала Ордэну латэранскіх канонікаў. Захаваўся інвентар 1795 года яшчэ аднаго антокальскага кафенгаўза з зялёнай кафлянай печчу, які знаходзіўся каля палаца Сапегаў. Таксама вядома, што ў 1787 годзе без дазволу гарадскіх уладаў Шымон і Барбара Клюкоўскія адкрылі сваю ўстанову з шыльдай і прадавалі каву. А ў пачатку XIX стагоддзя віленскіх кавярняў было ўжо пад паўсотню.

Увогуле, геаграфія літоўскіх кафенгаўзаў у XVIII стагоддзі багатая. Гэта яшчэ Свіслач (1782), Зэльва і Мерач (1770-я), Панявеж (1788), падвіленскія Веркі (1780-я), Жагоры на поўначы Літвы (1779), Расейны. Існуе архітэктурны план вялікага кафенгаўза са стайнямі ў Друі аўтарства Міхала Кадо, які, напэўна, планавалася ажыццявіць па вялікім пажары 1776 года. Як бачна, кафенгаўзы адкрывалі ў заходніх ваяводствах ВКЛ у месцах, звязаных важнымі дарогамі і паштовымі станцыямі.

**Алкаголь быў бічом кафенгаўзаў. У некаторых краінах з гэтым спрабавалі змагацца на дзяржаўным узроўні, але не ў Рэчы Паспалітай**

## Размова за кавай і газетай

У кафенгаўзах не толькі чыталі газеты, стымулюючы попыт на прэсу, але часта і самі навіны для выданняў збіраліся ў іх сценах. І гэта не адно чуткі з шумнай кампаніі. Для адукаванай публікі кафенгаўзы ў дадатак да мясцовых прапаноўвалі і выбраныя замежныя выданні. Паведамленні з іх перадрукоўваліся ў тутэйшых газетах. Зрэшты, гэта не адзіная сувязь кавярняў з газетамі: такія важныя варшаўскія выданні, як *«Патрыёт польскі»* і *«Манітор»,* папулярызавалі піццё кавы як альтэрнатыву алкаголю, запэўнівалі ў яе карысці для здароўя.

З'яўленне кафенгаўзаў і перыядычных выданняў арганічна ішло поруч. У 1760 годзе ў Вільні езуіты паводле прывілея Аўгуста III пачалі друкаваць першую ў ВКЛ перыядычную газету «Кур'ер літоўскі» з чатырма дадаткамі. За ёй з'явіліся і іншыя.


XXXIX.
GAZETA
GRODZIENSKA
Roku 1779. Dnia 23 Wrzesnia.

BIBLIOTEKA UNIWERSYTECKA W WARSZAWIE

**«Гродзенская газета»** за 23 верасня 1779 года. Першая рэгулярная газета на сучасных беларускіх землях, пачала выходзіць у 1776 годзе па ініцыятыве Антонія Тызенгаўза.

### Сакрэт смачнай кавы — свая кароўка

Спецыфіка кафенгаўза шмат у чым залежала ад яго гаспадара і кола наведвальнікаў. З ростам колькасці фармат кафенгаўзаў мяняўся ад максімальна дэмакратычнага да большай спецыялізацыі і аж да паўзакрытых клубаў. Кожны інтэр'ер быў асаблівым: ад звычайных сціплых фарбаваных сцен да прадметаў раскошы і дзівосаў. Заўзятая каваманка пані Людвіка Бышэўская, якая наведала Вільню ў 1786 годзе, адзначае выдатна мэбляваную драўляную ўстанову на Пагулянцы, дзе яны з сябрамі правялі «добрыя дзве гадзіны».

Звычайна падавалі або слабую каву «па-нямецку», або (часцей) моцную з вяршкамі ці малаком і цукрам «па-польску». Каб мець найлепшыя інгрэдыенты, пры



ŽYGIMANTAS BURŽINSKAS, MERKINĖS KRAŠTO MUZIEJUS

**Кафенгаўз Агінскага на рынку ў Мерачы** ў апошняй чвэрці XVIII стагоддзя. Сучасная рэканструкцыя Жыгімантаса Буржынскаса паводле тагачасных крыніц. Мерач (суч. Мяркіне, Літоўская Рэспубліка) знаходзілася на важным шляху паміж Вільняй і Гародняй (і далей — Варшавай). Вялікая колькасць падарожнікаў натхніла тагачаснага мерацкага старасту Матэвуша Агінскага пабудаваць насупраць ратушы на Рынку буйны драўляны кафенгаўз з мураванымі скляпеннямі. Гэтая ўстанова славілася сваёй добрай кавай.

кафенгаўзе ў Мерачы трымалі сваю кароўку. І, відаць, нездарма, бо нават вядомыя падарожнікі кшталту Георга Форстэра, удзельніка другога кругасветнага плавання Джэймса Кука, ці швейцарскага навукоўца Ёгана Бернулі адзначалі ў 1770-я гады выдатны смак мясцовай кавы. Акрамя кавы, у Мерачы можна было пачаставацца французскім вінам, пітным мёдам, півам і гарэлкай...

Алкаголь быў бічом кафенгаўзаў. У некаторых краінах з гэтым спрабавалі змагацца на дзяржаўным узроўні, але не ў Рэчы Паспалітай. Гаспадары, натуральна, імкнуліся да максімальнага прыбытку. Гульня ў карты і п'янкі былі распаўсюджанай справай. Часам правесці лінію паміж кафенгаўзам і карчмой было не так проста. Так пісаў Леан Патоцкі пра Свіслач: «кафенгаўз або шынок, салідны, з більярдам, для забавы прыезджых». Акрамя більярдных сталоў, якія звычайна былі ў кафенгаўзах, госці любілі яшчэ табаку, звычцы да якой тыя значна паспрыялі.

Усё гэта не заставалася без наступстваў. Так, у 1786 годзе трымальніца кафенгаўза на віленскім Антокалі Кацярына Боя атрымала цялесныя пашкоджанні з-за нападу на яе шляхціча Пятра Стронскага, які быў вінны вялікія грошы за выпіты тут алкаголь. ◆

Аўтар выказвае падзяку **Жыгімантасу Буржынскасу** за прадстаўленую рэканструкцыю кафенгаўза ў Мерачы.



**Медны траяк 1766 года.** Варшаўская менніца. «За шэсць медных грошаў атрымаў філіжанку кавы з малаком і цукрам», — пісаў мемуарыст эпохі Енджэй Кітовіч. Адпаведна, ён заплаціў дзве такія манеты. На аверсе манеты выяўлены профіль караля Станіслава Аўгуста, які быў прыхільнікам асветніцкіх ідэй і дзяржаўных рэформаў.

Акрамя кавы, кафенгаўзы маглі прапанаваць слодычы (якія з-за кошту цукру былі дарагія), выпечку, садавіну, ліманады, алкаголь (лікёры, пуншы, віно, піва, пітны мёд, гарэлку і інш.).




**У выдавецтве «Кнігазбор» выйшаў насценны «Каляндар па-беларуску» на 2022 год з малюнкамі і словамі на кожны дзень**

Пазітыўныя малюнкі стварылі мастачка Дар'я Мандзік і дызайнер Анатоль Лазар, якія раней працавалі над календаром «Не маўчы па-беларуску», які выходзіў шмат год запар.

Адкрываюць каляндар як ніколі актуальныя словы на тэму здароўя і медыцыны. Яны дапамогуць стасавацца па-беларуску з доктарам тым, хто дагэтуль не наважваўся.

На старонках вясновых месяцаў выдатная падборка словаў з назвамі раслін і жывёл па-беларуску. Кастрычніцкая старонка календара дапаможа выказаць па-беларуску свае эмоцыі, а лістападаўская падкажа, як называюцца на роднай мове розныя элементы адзення.

Таксама з календара можна даведацца, як па-беларуску «размаўляюць» хатнія жывёлы, як правільна па-нашаму паклікаць каня, коціка ці куранят.

А яшчэ ў календары ёсць шмат цікавых устойлівых выразаў на роднай мове. Вось, напрыклад: загінуць як тая рудая мыш; кульгавы як твая цешча; сагнуцца ў дугу; цыбаты як жэрдка.

Набыць каляндар можна ў кнігарнях ва ўсёй Беларусі.

# Якой была газета сакрэтнага савецкага прадпрыемства

**Цэнзура стражэйшая, чым у цэнтральнай прэсе, і тры этапы ўзгаднення тэкстаў. Успамінаюць першы рэдактар баранскай шматтыражкі «Чырвоны Кастрычнік» Кастусь Севярынец і былы завадчанін, краязнаўца Віктар Міхасёў.**

### Якое «княства» без газеты?

У 1980-я гады завод «Чырвоны Кастрычнік», што ў горадзе Барань Аршанскага раёна, быў самым вялікім і магутным заводам гэтага рэгіёна. Тут працавала восем з паловай тысяч чалавек — можна сказаць, усё насельніцтва Барані, плюс шмат хто прыязджаў на працу з Оршы ды з навакольных вёсак.

Завод выпускаў сродкі сувязі для міліцыі, войска, флоту і практычна ўсіх дзяржаўных службаў. Прадпрыемства лічылася рэжымным, было так званай «**паштовай скрыняй**»: так у савецкія часы называліся прадпрыемствы, якія выпускалі прадукцыю падвойнага прызначэння — заказы на патрэбу абароннай прамысловасці і звычайныя народнагаспадарчыя вырабы. У такіх заводаў не было сапраўднага адраса, яны не пазначаліся на картах, а ўся карэспандэнцыя ішла на паштовую «скрыню» з лічбавым індэксам. Былі выпадкі, калі заказчыкі з далёкіх краёў гадзінамі віхлялі на машынах па Оршы ў пошуках «сакрэтнага» прадпрыемства.

Баранскі завод падпарадкоўваўся наўпрост Маскве — саюзнаму Міністэрству прамысловасці сродкаў сувязі.

Асноўныя цэхі працавалі ў дзве змены, а некаторыя вытворчасці згодна з тэхналогіяй — бесперапынна. Са сканчэннем змены з прахадной выходзілі



**Былы завад «Чырвоны Кастрычнік»**, былы цэх мікрасхем сёння.

### Сакрэтны завод у Барані

Завод у маёнтку Барань на Аршаншчыне, які належаў Мянжынскім, з'явіўся ў 1873 годзе, на ім выраблялі дрот і цвікі. Абсталяванне для гэтага закупілі ў Германіі, а для арганізацыі вытворчасці запрасілі замежных спецыялістаў. Да Першай сусветнай вайны вытворчасць бесперапынна расла і дротава-цвікавы завод стаў паспяховым прыватным прадпрыемствам.

Пасля рэвалюцыі яго нацыяналізавалі і далі назву «Чырвоны Кастрычнік». У 1920–1930-я гады на заводзе працягвалі выраблць цвікі і абсталяванне для сельскай гаспадаркі, а ў 1948-м распачалі вытворчасць першай у БССР хатняй швейнай машыны «Чырвоны Кастрычнік».

У 1952-м прадпрыемства пераходзіць на вытворчасць радыётэхнікі і засвойвае выпуск радыёстанцый для для арміі, міліцыі і гаспадаркі. З гэтага часу завод і стаў рэжымным ды заставаўся такім да 1990-х гадоў.

«Чырвоны Кастрычнік» рабіў тэхніку для Алімпійскіх гульняў у Маскве (1980) і для касмічнай праграмы СССР. З рацыямі завода ўзыходзілі на найвышэйшыя горныя вяршыні свету, у тым ліку на Эверэст.

Цяпер гэта — ААТ «Тэхніка сувязі», адно з вядучых прадпрыемстваў абароннага комплексу Беларусі, вытворца сродкаў сувязі ды іншага абсталявання.

тысячы людзей, на прыпынку натоўп штурмаваў аўтобусы.

Дырэктара завода Мікалая Пакідзіна ў гаркаме партыі (зразумела, цішком) называлі тады «баранскім князем», а Барань, адпаведна, «княствам». Бо і падпарадкаваны Маскве дырэктар завода, і заводскі гарадок былі фактычна незалежнымі ад мясцовых улад.

Пакідзін, чалавек амбіцыйны і валявы, горача падтрымаў ідэю выдання заводскай газеты.

Навошта заводу была газета? На прадпрыемстве ў той час працаваў радыёвузел, і кожны дзень па заводскім радыё перадавалі ў вызначаны час не толькі заняткі «вытворчай гімнастыкі», але таксама аб'явы, віншаванні супрацоўнікаў ды песні «па просьбах працоўных». Гэта, канечне, таксама быў сродак інфармацыі, але вельмі абмежаваны, а тут — сапраўдная газета, якую можна трымаць у руках.

Гэта была справа прэстыжу і статусу, бо газеты выдавалі на самых вялікіх прадпрыемствах краіны. У Оршы на льнокамбінаце была свая шматтыражка, а чым Барань горшая?


**Рабочая заводскай друкарні** за працай.

## Рэдакцыйныя адзінкі

— Не мела баба клопату — купіла парася, — сустрэў навіну пра заснаванне заводскай шматтыражкі намеснік дырэктара па кадрах.

— І што не так? — здзівіўся сакратар парткама. — Вось пастанова ЦК КПБ, дзе ўсё рэгламентавана і распісана: фармат у палову фармату газеты «Правда», тыраж — 2 000 экзэмпляраў, перыядычнасць — раз на тыдзень. Вось, бачыш, тут і штат зацверджаны: рэдактар і карэспандэнт. Трэба іх аформіць належным чынам.

Кадравік жа з досведу ведаў, што дзвюма штатнымі адзінкамі справа не абыдзецца:

— Вось пабачыш: праз які час твой рэдактар папросіць адказнага сакратара, потым машыністку, потым яшчэ карэспандэнта...

І як у ваду глядзеў. Праз паўгода, не зважаючы на цэкоўскую пастанову, у рэдакцыі з'явілася машыністка, а праз год яшчэ два супрацоўнікі.

Гэта былі так званыя «падснежнікі»: чалавек працаваў на адным месцы, а па штатным раскладзе быў запісаны ў іншым. Тыповая з'ява бадай што на ўсіх больш-менш буйных прадпрыемствах Савецкага Саюза. І што там тры рэдакцыйныя «адзінкі», калі «падснежнікамі» была ўся заводская футбольная каманда «Тэмп», якая выступала ў чэмпіянаце БССР: хлопцы днямі толькі ганялі мяч, а па дакументах лічыліся токарамі, слесарамі, наладчыкамі, прычым самых высокіх разрадаў. У цэх свой яны прыходзілі, толькі каб атрымаць заробак.

## Бонусы рэдактару

Першым і самым сур'ёзным прэтэндэнтам на пасаду рэдактара амбітнай шматтыражкі быў ▸

карэспандэнт прамысловага аддзела аршанскай газеты «Ленінскі прызыў» Яўхім Ардзін. Аднак хоць афіцыйна антысемітызму тады не існавала, «пятая графа» мела істотнае значэнне пры вылучэнні на кіроўныя пасады. Таму рэдактарам шматтыражкі быў прызначаны той журналіст згаданай аршанскай газеты, які меў бездакорнае пралетарскае паходжанне і прыдатную «пятую графу». Гэтым параметрам цалкам адпавядаў адзін з аўтараў гэтага артыкула, Кастусь Севярынец.

Галоўным бонусам рэдактарскай пасады было пазачарговае атрыманне жылля. Гэта была трохпакаёўка з усімі камунальнымі выгодамі ў васьмікватэрніку на ціхмянай Камсамольскай вуліцы ў самым цэнтры Барані. Рукой падаць да заводскіх карпусоў, побач — дзве школы, Дом культуры, садкі і яслі, крамы, нават швейнае атэлье і адзіны ў горадзе рэстаран. Усё гэта ў часы, калі многія сем'і чакалі ў кватэрнай чарзе паляпшэння жыллёвых умоў і па дзесяць, і па пятнаццаць, а то і больш гадоў.

Значным прывілеем для рэдактара быў вольны ўваход і выхад на тэрыторыю завода і бесперашкодны доступ у цэхі і службы прадпрыемства, на дзвярах якіх меліся кодавыя замкі і куды патрапіць можна было толькі са спецыяльнага дазволу.

Разам з тым рэдактарская пасада вымагала членства ў партыі і прадугледжвала абавязковае дэпутацтва ў гарсавеце.

### Цэнзура і самацэнзура

Кантроль за газетнымі публікацыямі карпаратыўнай газеты быў трохбаковы.

Спачатку матэрыялы чарговага нумара наўпрост з друкаркі трэба было аднесці ў так званы «першы аддзел» прадпрыемства. Такія аддзелы ў той час існавалі ва ўсіх арганізацыях і прадпрыемствах, якія мелі дачыненне да сакрэтнай інфармацыі ці рабілі прадукцыю для войска. Працавалі там былыя супрацоўнікі КГБ і іншых падобных структур. У гэтым аддзеле матэрыялы правяраліся на прадмет таго, ці не ўтрымліваюць яны якіх звестак, не прызначаных для друку.

Кантрольныя адбіткі палос газеты чытаў сакратар парткама альбо яго намеснік. Яны ж давалі дабро на друкаванне накладу.

Раз на квартал з прафілактычнай гутаркай і разборкай публікацый прыходзіў кагэбэшнік, замацаваны за заводам. Ён складаў тлумачальную запіску і адпраўляў *«куда следует»*.

Пры такім шматузроўневым кантролі пра тое, каб выказаць на старонках газеты нешта ўразрэз з лініяй партыі або данесці да чытача асабістае меркаванне па той ці іншай праблеме, не ўзнікала нават і думкі.



**Кастусь і Таццяна Севярынцы з дзецьмі** на першамайскай дэманстрацыі.

Вольнасці калі і рабіліся, то толькі па нейкіх нязначных прыватных пытаннях. Дый тое з аглядкаю на асобы і пасады.

З цягам часу стары адстаўнік з першага аддзела, праўда, знямогся чытаць газетныя матэрыялы і перакінуў цэнзарскія абавязкі на рэдактара. Так што першую цэнзуру ён рабіў сабе сам. Але і астатнія пільныя вочы не выпускалі шматтыражку з поля зроку.

## На старонках газеты завод вырабляў не радыёстанцыі, а ананімныя «изделия»

Сакрэтнасць была наколькі татальнай, настолькі ж і абсурднай. Ні ў якім разе, напрыклад, нельга было пазначаць, што завод знаходзіцца ў Барані, і ўсе падзеі, з заводам звязаныя, — баранскія. Безназоўнымі на старонках шматтыражкі былі гарсавет, гарадскі аддзел міліцыі і ўсе ўстановы.

Нельга было таксама называць нумары цэхаў — трэба было замест канкрэтнай і ўсім зразумелай лічбы пісаць: «падраздзяленне, якім кіруе імярэк». На старонках газеты завод вырабляў не радыёстанцыі, а нейкія ананімныя *изделия*. Выключэннем быў радыёпрымач «Свирель» — цывільнае прыкрыццё для сапраўднай прадукцыі, у першую чаргу вайсковага прызначэння.


Красный Октябрь

60

В ДОБРЫЙ ЧАС!

СЛОВО К ЧИТАТЕЛЯМ

НАСЛЕДНИКИ ОКТЯБРЯ

**Першы нумар шматтыражкі.**

### Адбіткі фота — за «валюту»

Па цяперашнім камп'ютарным часе тагачасны выпуск газеты ўяўляецца сапраўдным подзвігам Геракла.

Спачатку матэрыялы друкаваліся на друкарцы на звычайных аркушах і дасканальна вычытваліся. Асноўны масіў газетнага тэксту набіраўся на лінатыпе — капітальных памераў агрэгаце, які адліваў свінцовыя радкі зададзенага памеру і шрыфтоў. Загалоўкі набіраліся ўручную. Усё гэта, згодна з рэдактарскай вёрсткай, адбівалася лінейкамі, заключалася ў форму, якая адпавядала газетнай паласе.

Потым гэты важкі набор адпраўляўся на друкарскі станок. Спачатку рабіліся кантрольныя адбіткі палос. Яны зноў вычытваліся і толькі тады адпраўляліся ў друк. З друкарні газета трапляла на пошту, а пасля разносілася па паштовых скрынках аршанцаў ды бараньцаў.

Шматтыражка ішла па падпісцы, яе таксама распаўсюджвалі на прадпрыемстве. Быў той час, калі партыя казала, а непарушны блок камуністаў і беспартыйных дружна адказваў: «Ёсць!»

Затое нямала клопату было з фотаздымкамі для газеты. Іх часцей за ўсё рабіў заводскі фатограф Генадзь Стэег, сын аўстрыйскага жаўнера часоў Другой сусветнай. Яго бацька ахоўваў падманны аэрадром з муляжамі самалётаў паблізу Барані, упадабаў сустрэтую падчас гэтай службы Генадзеву маці, яна звязала яго з партызанамі — так аўстрыяк і застаўся ў Беларусі.

Але проста сфатаграфаваць — гэта быў толькі пачатак. Здымкі трэба было адвезці ў Віцебск на цынкаграфію і зрабіць адпаведныя металічныя формы. Каб заахвоціць майстроў-цынкографаў да аператыўнага выканання заказу, даводзілася выкарыстоўваць заводскі спірт. Як тады казалі, вадкую валюту. Спрацоўвала безадмоўна.

### Піў нават конь

Яшчэ адным з рэдактарскіх прывілеяў была магчымасць прысутнічаць на штотыднёвых лятучках у дырэктара завода.

На такія нарады збіралася ўсё кіраўніцтва прадпрыемства, начальнікі цэхаў, аддзелаў, службаў, вайсковай і дзяржаўнай прыёмак. На адну з такіх лятучак быў запрошаны і начальнік жыллёва-камунальнай гаспадаркі горада. Фармальна ён падпарадкоўваўся гарсавету, аднак усе ведалі, што фактычным гаспадаром не толькі завода, але і горада быў дырэктар завода.

— Гэта на тваім кані вывозяць з Барані бытавыя адкіды? — сурова спытаў галоўнага камунальніка Пакідзін.

— Так, на маім. А што з ім не так?

— Усё не так! Іду сёння раніцай на працу, на вуліцы ні душы, ▶

толькі твой конь пахропвае. Ды як дыхне на мяне перагарам!

— А-а-а, гэта, — чамусьці з палёгкай узрадаваўся камунальнік. — Дык гэта мае работнікі прывучылі яго да таннага віна. Ён цяпер без шклянкі чарніла ні тпру ні но... Упарты, скаціна...

Дырэктар даў даручэнне неадкладна механізаваць вывазку бытавога смецця. А каня-алкаголіка адправілі ў падшэфны саўгас на выпраўленне.

У тыя часы, названыя цяпер брэжнеўскім застоем, пілі не толькі коні. Многія заводскія цэхі выкарыстоўвалі спірт у вытворчых мэтах. Ён цёк не толькі па «вусах» правадоў і правадочкаў, як таго патрабавала тэхналогія, але і трапляў на вусны завадчан. У рэдактарскім сейфе таксама заўсёды стаяла бутэлька гэтай агнявой вадкасці. Канечне ж, не для таго, каб праціраць рэдакцыйныя друкаркі.

## У тыя часы, названыя цяпер брэжнеўскім застоем, пілі не толькі коні

I хаця спірт называўся тэхнічным, для савецкага чалавека гэта не было непераадольнай перашкодай. У асноўным ён выкарыстоўваўся для прамывання пры пайцы дэталяў і выдаваўся рабочым змешаным з бензінам. Але ўмельцы аваладалі тэхналогіяй: у халодным месцы ставілі такую спіртовую сумесь для адстою, каб спірт і бензін падзяліліся на дзве фракцыі. Хоць пах бензіну ў такім спірце ўсё адно заставаўся.

## Пілі і сумесь спірту з каніфоллю, якую пяшчотна называлі «елачкай»

Пілі на вытворчасці таксама і сумесь спірту з каніфоллю (для пайкі паяльнікам), якую пяшчотна называлі «елачкай» і якую таксама раздзялялі на фракцыі з дапамогай солі.

Спірт і ягоныя сурагаты ў тыя 1980-я шмат людзей адправілі на той свет.

### Кантрабандны «Гусак»

I ўсё-ткі аднойчы карпаратыўнай газеце ўдалося прарвацца праз цэнзуру да вольнага слова.

Абышоўшы парткамаўскую пільнасць, у газету быў заверстаны фельетон «Гусак» з крытыкай у адрас аднаго з кіраўнікоў завода, а заадно і на ўсю кіраўнічую вярхушку. Закраналіся тэмы, якія цішком абмяркоўваліся на кухнях завадчан ды ў курылках. Эзопава мова была настолькі празрыстай, што крылатыя персанажы вызначаліся са стапрацэнтнай дакладнасцю.

Але ў друкарні знайшліся пільныя вочы, якія ўгледзелі ў гэтым ідэалагічную дыверсію. Па тых часах пісаць пра асобныя недахопы дазвалялася, а вось сістэмную крытыку нішчылі на корані. Сакратару парткама данеслі неадкладна.



**Узнагароджванне пераможцаў спартакіяды.**

Рэдактар адмовіўся здымаць фельетон, але наклад усё адно аддрукавалі без фельетона і без рэдактарскага ўмяшання. Вось толькі гісторыя мела працяг: малады друкар Паша Дублеўскі ўпотай ад начальства дадрукаваў дадатковы тыраж, ужо з «Гусаком», а добраахвотнікі разнеслі яго па цэхах і кватэрах.

Вось тут грымнуў сапраўдны скандал. Тэрмінова склікалі пасяджэнне парткама. Да яго пачатку многія адабральна паляпвалі рэдактара па плячы, маўляў, праўда за табой, мы за цябе заступімся... Аднак на самім пасяджэнні фельетон і яго аўтар былі аднадушна асуджаныя, а рэдактару аб'явілі строгую вымову.

Невядома, як бы ўсё развівалася далей, ды тут безадносна да гэтых падзей рэдактару прапанавалі месца ўласнага карэспандэнта БелТА-ТАСС па Віцебскай вобласці. Так і скончылася прыватная гісторыя адной шматтыражкі ў творчай біяграфіі аднаго беларускага журналіста. ◆

Суаўтар гэтага артыкула Кастусь Севярынец памёр ад кавіду 31 верасня 2021 года. Яму было 69 гадоў.

# «ЛЯЦКАЯ ВЕРА» ў Маскве

## Сапраўднае і легендарнае

**Пра тое, як у маскоўскае рэлігійнае жыццё цягам XIII–XVII стагоддзяў спрабавалі ўшчаміцца ідэі аб'яднання цэркваў і што з гэтага ўрэшце выйшла, піша Уладзімір Камінскі.**

### Легенда пра Нікана-адступніка

У асобных жыціях шанаванага Каталіцкай царквой святога Язафата Кунцэвіча расказваецца пра тое, як у час вайны Маскоўскага царства з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гадоў у маскоўскім палоне апынулася шмат «палякаў». У турме іх нібыта наведаў патрыярх Нікан і, убачыўшы ў аднаго з іх сшытак з выявай уніяцкага пакутніка, адабраў яго, кінуў на зямлю і патаптаў нагамі. За гэта Нікан быў пакараны хваробай — паралюшам. Тады нямоглы патрыярх загадаў прынесці абраз святога Язафата і пачаў маліцца аб выбачэнні грэшнага ўчынку. У выніку Нікан атрымаў ацаленне і, перакананы ў праўдзівасці каталіцкай веры, нібыта пакінуў патрыяршы палац, перайшоўшы ў збудаваны ім манастыр, дзе праводзіў далейшае аскетычнае жыццё ў уніі з Рымам. А на царкоўным саборы ў Маскве былога патрыярха, маўляў, выклялі за ерась.

Гэтая легенда пра пераход патрыярха Нікана ў каталіцкую веру па малітвах святога Язафата Кунцэвіча сфармавалася да пачатку XVIII стагоддзя. У тым, што патрыярх маскоўскі здрадзіў праваслаўнай веры на карысць «папежнікаў», не сумняваўся ніхто са шматлікай масы расійскіх стараабрадцаў, ці старавераў, як яны называлі самі сябе. І маскоўскія царкоўныя ды свецкія ўлады ў той час нібыта спецыяльна рабілі ўсё, каб гэтую чутку пацвердзіць. Але ці мела гэтая легенда пад сабой хоць якія рэальныя падставы?

### Маскоўскі «папа»

Рэальны вобраз патрыярха Нікана (1605–1681), які ў свецкім жыцці зваўся Мікітам Мінавым, як гэта і бывае звычайна, адрозніваецца ад агіяграфічнага, то-бок выкладзенага ў жыціях святых. Паходзячы па бацьку нібыта з фіна-вугорскага народа марыйцаў (часам кажуць, праўда, яшчэ і пра яго мардоўскае паходжанне), айцец Мікіта спачатку служыў звычайным жанатым бацюшкам. Але пасля заўчаснай смерці сваіх дзяцей ён пастрыгся ў манахі на А́нзерскім востраве ў Белым моры, дзе ў той час былі найбольш аскетычныя ўмовы для манаскага жыцця. Там ужо Нікан (імя Мікіты пасля пастрыгу) разышоўся з настаяцелем манаскага скіта ў поглядах на мэты ахвяраванняў і манастырскага будаўніцтва і ў выніку гэтага канфлікту быў вымушаны вярнуцца на мацярык.

Як аказалася, гэтая сітуацыя стала для маладога манаха цудоўным трамплінам для імклівай кар'еры ў Царкве. Будучы вельмі начытаным для свайго часу чалавекам, у час падарожжа ў Маскву Нікан быў заўважаны царом Аляксеем Міхайлавічам і ўжо праз тры гады стаў ноўгарадскім мітрапалітам. У Ноўгарадзе ён разгарнуў шырокую сацыяльную дзейнасць, у тым ліку рэгулярнае наведванне вязняў у турмах.

Найвышэйшай міласцю Нікану нават было дадзена паўнамоцтва з царскага дазволу вызваляць вязняў, якія каяліся ў сваіх злачынствах. Скарыстаўшыся з гэтага свайго права, ён вызваліў з Салавецкага манастыра і зрабіў сваім паплечнікам адукаванага авантурыста, ахрышчанага яўрэя Арсенія Грэка, які раней вучыўся ў Венецыі, уніяцкім калегіуме святога Апанаса ў Рыме, вывучаў медыцыну ў Падуанскім універсітэце (праз сто гадоў пасля Францыска Скарыны), а пасля выкладаў у Канстанцінопалі, дзе з-за ўдзелу ў палітычных інтрыгах трапіў у турму і фармальна прыняў іслам. Пасля ўцёкаў з турмы Арсеній бадзяўся па Рэчы Паспалітай, а неўзабаве з'явіўся ў Маскве ў якасці перакладчыка. На Салаўках жа ён апынуўся пасля таго, як у Маскве даведаліся ▸





**Язафат Кунцэвіч.** Гравюра Аляксандра Тарасовіча, другая палова XVII стагоддзя.

**Язафат Кунцэвіч** (1580–1623) царкоўны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, які ўвайшоў у гісторыю як актыўны праваднік ідэі яднання Каталіцкай і Праваслаўнай цэркваў.

Кунцэвіч нарадзіўся на ўкраінскай Валыні, але ягоны род каранямі паходзіў з беларускіх земляў Вялікага Княства Літоўскага. У пачатку XVII стагоддзя прыняў манаства і далучыўся да ўніяцкага ордэна базыльянаў. Быў ігуменам і архімандрытам у быценскім і віленскім Траецкіх манастырах, у 1617 годзе стаў віцебскім епіскапам, а праз год — полацкім архіепіскапам.

Прапагандаваў унію з вялікім запалам і ў яе прасоўванні не спыняўся нават перад гвалтоўнымі метадамі. На тэрыторыі сваёй епархіі ён зачыняў праваслаўныя цэрквы, не дазваляў праваслаўным набажэнствы нават у дамах ці ў будынках па-за населенымі месцамі. Неразборлівасць у метадах прыводзіла да выніку, процілеглага ад запланаванага. Нават канцлер ВКЛ Леў Сапега ў 1621 годзе перасцерагаў Кунцэвіча ў лісце: «Вы Вашым неразважным гвалтам падбухторылі і, скажу, прымусілі народ рускі да адпору і зламання ўчыненае яго каралеўскай міласці прысягі».

Але Кунцэвіч да крытыкі не прыслухоўваўся, і ўсё гэта ўрэшце скончылася тым, што 12 лістапада 1623 года абураныя віцебскія мяшчане забілі яго, а цела кінулі ў Дзвіну. За гэта ўдзельнікі выступлення былі пакараныя смерцю, а Віцебск быў на некалькі дзесяцігоддзяў пазбаўлены магдэбургскага права. Забіты ж арцыбіскуп быў кананізаваны Каталіцкай царквой. Адносна ягонай постаці і да сёння не сціхаюць спрэчкі.

пра яго мусульманства і сувязь з грэка- і рыма-каталікамі.

У 1652 годзе Нікана абралі на маскоўскі патрыяршы пасад, на якім ён пачаў рэалізоўваць сваё бачанне царкоўных рэформаў, у першую чаргу выпраўленне кніг для набажэнства па грэчаскіх арыгіналах. У гэтай «кніжнай справе» рэй вялі паплечнікі Нікана: «беларусец» Епіфаній Славінецкі і ўжо згаданы вышэй Арсеній Грэк.

Новы патрыярх быў апантаны ідэяй вызвалення праваслаўных народаў ад іншавернай улады — грэкі і паўднёвыя славяне тады знаходзіліся пад ярмом Асманскай

імперыі, — аб’яднання іх пад уладай маскоўскага цара, які мусіў у Канстанцінопалі стаць імператарам. Але цэнтрам вагі ў гэтым новым «рускім» свеце павінен быў быць сам «з Божай ласкі Вялікі Гасудар, архіепіскап цароўнага горада Масквы і ўсёй Вялікае, і Малое, і Белае Расіі, і ўсёй Паўночнай краіны, і Памор’я, і многіх гаспадарстваў патрыярх» (афіцыйны тытул) Нікан, але ўжо ў чыне Усяленскага патрыярха.

Для гэтай мэты і патрэбна была звязаная з іменем Нікана ўніфікацыя з Канстанцінопалем царкоўнага набажэнства, якое ў тагачаснай Масковii захоўвала шмат архаічных рысаў: напрыклад, хрышчэнне двума пальцамі, шматлікасць зямных паклонаў і іншыя абрадныя моманты.

## Патрыяршую ўладу Нікан лічыў вышэйшай і за ўладу самога цара



**Цар Аляксей Міхайлавіч і патрыярх Нікан перад грабніцай свяціцеля Філіпа.** Карціна Аляксандра Літоўчанкі, 1889 год. Нікан у патрыяршым уборы з бел-чырвона-белымі «струмянямі» (што яны азначаюць, гл. у артыкуле Дзяніса Лісейчыкава ў № 9/2020 «Нашай гісторыі»).



Уяўленне Нікана пра патрыяршую ўладу шмат у чым супадала з ідэалогіяй таго самага папізму, за які праваслаўныя палемісты крытыкавалі Рым. Патрыярх лічыў сябе вышэйшым за астатніх епіскапаў і непадсудным іх сабору. Пры Нікане кожны нававысвечаны архірэй падпісваў грамату пра тое, што не будзе нічога гаварыць без ведама маскоўскага патрыярха, у адваротным выпадку ён меўся быць пазбаўленым святарскага сану. Патрыяршую ўладу Нікан лічыў вышэйшай і за ўладу самога цара (знакамітае: «царскай дапамогі не хачу і не патрабую, ды і на царскую ўладу плюю і смаркаю»), што ўрэшце прывяло яго да канфлікту з Аляксеем Міхайлавічам і кар’ернага краху — такога ж імклівага, як і ўзыходжанне. Але да пары, застаючыся царскім сябрам («сабінным другам»), патрыярх захоўваў уплыў на палітычнае жыццё Масковіі.

### «Вялікі Гасудар» плюе і смаркае

Верагодна, Нікан пэўным чынам паўплываў на рашэнне Аляксея Міхайлавіча пачаць у 1654 годзе вайну з Рэччу Паспалітай. У час адсутнасці цара ў Маскве ён сканцэнтраваў у сваіх руках усю паўнату грамадзянскай улады, атрымаўшы права тытулавацца «Вялікім Гасударом» і настроіўшы супраць сябе баярскі істэблішмент. Пасля першых ▶

▶ перамог маскоўскага войска «Вялікі Гасудар» зрабіў спробу паўплываць на далейшую хаду вайны, выступіўшы за ўкладанне хаўрусу з Рэччу Паспалітай і пачатак вайны са Швецыяй, каб вярнуць тэрыторыі на поўначы Расіі, але не быў пачуты і таму перанёс усю сваю энергію ў сферу рэлігійнай дзейнасці.

## «Рукі тоўстыя, сцёгны тоўстыя, і ўвесь як немец пузаты»

Маскоўскі патрыярх асабіста ўзначаліў прыняцце ў праваслаўе ўніяцкіх святароў з «вызваленых» тэрыторый Рэчы Паспалітай. Пасля захопу Полацка і Смаленска Нікан паставіў туды сваіх епіскапаў, на што не меў права, бо гэтыя гарады знаходзіліся ў юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха. Брацію аршанскага Куцейнаўскага манастыра (семдзесят чалавек) разам з друкарняй і майстрамі-кафлярамі з Оршы, Мсціслава і Копысі патрыярх перавёў у збудаваны ім валдайскі Іверскі манастыр на Наўгародчыне, дзе манахі працягнулі сваю друкарскую дзейнасць.

Яшчэ ў 1654 годзе Нікан загадаў канфіскаваць у жыхароў Масквы ўсе абразы «новай» (заходнееўрапейскай) манеры малявання. Арабскі дыякан Павел Алепскі, які знаходзіўся тады ў Маскве, пісаў, што гэтыя абразы з выкалатымі вачыма насілі для паказу па горадзе. На наступны год у патрыяршым саборы ў Крамлі Нікан выкляў «новых» мастакоў і, паказваючы «новыя» абразы вернікам, біў іх аб падлогу. Адзін з пераемнікаў Нікана патрыярх Іакім (1674–1690) забараніў купляць і прадаваць папяровыя абразы. Хутчэй за ўсё, менавіта гэтыя рэальныя эпізоды і паўплывалі на жыційны аповед пра знявагу абраза Язафата Кунцэвіча.

Што ж раздражняла Нікана ў абразах новага тыпу? Рэч у тым, што заходнееўрапейскае мастацтва пасля эпохі Рэнесансу пачало вельмі рэалістычна выяўляць прыроду чалавека на сакральных выявах, што было недапушчальным у кананічным выяўленчым мастацтве. Канон патрабаваў праз аскетычныя індывідуальныя рысы перадаваць невыяўнае боскае ззянне. Выяўленчую навіну (на прыкладзе абраза Ісуса Хрыста) трапна акрэсліў апанент Нікана, адзін з тагачасных духоўных лідараў стараабрадцаў пратапоп Авакум: «Твар азызлы, вусны чырвоныя, валасы кучаравыя, рукі і цягліцы тоўстыя, пальцы надутыя, таксама і ў нагах сцёгны тоўстыя, і ўвесь як немец пузаты і тоўсты ўчынены, толькі шаблі той на сцягне не намалявана». Але нават стараабрадцы, не прымаючы «новага» мастацтва, не дапускаліНіканавых метадаў барацьбы з ім.




**Нікан разбівае старыя абразы.** Выява са стараабрадніцкага выдання.

### «Прыезджыя няхаі псуюць кнігі»

«Пазбавіла розуму недасканалая іх граматыка ды прыезджыя няхаі... засмуціліся і кнігі псуюць, таму і пруцца сваёй дурною граматыкай», — так абураныя маскоўцы адгукнуліся на запаланенне «кніжнай справы» выхадцамі з Рэчы Паспалітай, якія царкоўнаславянскую мову маскоўскіх кніг для набажэнства прыводзілі ў адпаведнасць з нормамі «Граматыкі» Мялеція Сматрыцкага, былога полацкага архіепіскапа.

Зварот да грэчаскага арыгінала насамрэч зводзіўся да амаль дакладнага капіявання выданняў «літоўскага друку», ці, як тады пісалі, «з лядскіх трэбнікаў Пятра пана Магілы». Так, тэкст маскоўскага «Служэбніка» 1655 года супадаў з тэкстам львоўскага «Служэбніка» Гедэона Балабана 1602 года, які, у сваю чаргу, звяраўся з грэчаскім арыгіналам, выдадзеным у Венецыі.

Недавер маскоўскіх кансерватараў да кніг «літоўскага друку» грунтаваўся на падазрэнні ў іх наўмысным псаванні каталікамі праз іхніх таемных агентаў у лагеры праваслаўных. За такіх агентаў успрымаліся Мялецій Сматрыцкі, які перайшоў з праваслаўя ў унію, і кіеўскі праваслаўны мітрапаліт (з 1632 па 1647 год) Пятро Магіла. Магіла ўдзельнічаў у распрацоўцы праекта новай уніі (адрознай ад рэалізаванай у 1596 годзе ў Берасці), які прадугледжваў стварэнне на тэрыторыі Рэчы Паспалітай ні больш ні менш як грэка-каталіцкага патрыярхату.

Супраціў ужо наяўнай уніяцкай структуры на чале з Язэпам Руцкім і смерць самога Пятра Магілы, праўда, пахавалі гэтую задуму, але каталіцкі след па ёй застаўся ў шматлікіх запазычаннях з лацінскага набажэнства ў праваслаўных выданнях кіеўскай друкарні.

У 1627 годзе ў Маскве адбыліся дыскусіі наконт друкаваных кніг беларуска-ўкраінскіх аўтараў Лаўрэнція Зізанія («Катэхізіс») і Кірыла Транквіліёна-Стаўравецкага («Евангелле Вучыцельнае»). У тэксце былі знойдзеныя «лацінскія ерасі», а друкаваныя асобнікі спаленыя. З гэтага часу шэрагам указаў у Маскоўскім царстве былі забароненыя абсалютна ўсе кнігі «літоўскага друку», што, праўда, не перашкодзіла распаўсюду «Катэхізіса» Зізанія ў рукапісным выглядзе.

Дадаткова ўскладняла задуманую Ніканам кампанію па ўдакладненні царкоўных кніг тое, што многія ягоныя паплечнікі з ліку адукаваных грэкаў і прыезджых за царскай міласцінай усходніх іерархаў мелі кепскую ідэалагічную рэпутацыю. І не толькі ўжо згаданы Арсеній Грэк.

Так, былы канстанцінопальскі патрыярх (двойчы ў 1634 і 1652 гадах) Афанасій III Патэлар, які рабіў Нікану пераклады з грэчаскай мовы, у час жыцця ў Італіі меў кантакты з папам і атрымаў ад яго прапанову стаць кардыналам, але, седзячы на патрыяршым троне, ад каталіцтва адмяжоўваўся.

Антыяхійскі патрыярх-араб Макарый III (аз-Заім; з 1647 па 1672 год), які па просьбе Нікана выкляў тых, хто хрысціцца двума пальцамі, не грэбаваў прасіць міласціны ў караля Францыі каталіка Людовіка XIV і пісаць лісты папу ў Рым. У Маскве Макарый абураўся практыкай перахрышчвання каталікоў, а пасля Андрусаўскага перамір'я з Рэччу Паспалітай у 1667 годзе разам з александрыйскім патрыярхам Паісіем удзельнічаў у перамовах аб царкоўнай еднасці.

Удзельнік Маскоўскага сабора 1656 года сербскі патрыярх Гаўрыіл прасіў матэрыяльнай дапамогі ў Рыме і вёў перамовы аб уніі.

Мітрапаліт горада Газы ў Палесціне Паісій Лігарыд наогул быў спачатку ўніяцкім святаром, высвечаным мітрапалітам Рафаілам Корсакам у Рыме.

Усе гэтыя людзі актыўна падтрымалі ніканаўскую рэформу, чым толькі замацавалі ў вачах кансерватыўных маскоўцаў эмацыйную характарыстыку «ніканіянства», дадзеную пратапопам Авакумам, што яно — «рымская б...дзь».

Уплывала і тое, што маскоўцы мелі моцную крыўду на сваіх


ГРАММАТІКИ
Славенскиѧ правилное
Сѵнтаґма,
Мелетіѧ Смотрискогѡ,
Правѧщꙋ Апⷭ҇лскій престол
великиѧ Божіѧ Константінопо-
лскиѧ Церкве Вселенскомꙋ Па-
тріарсѣ
Ѿцꙋ Леѡнтію Карповичꙋ
Архімандрітꙋ.

WIKIMEDIA COMMONS

**Тытульны ліст «Граматыкі славенскай» Мялеція Сматрыцкага**, выдадзенай у Еўі ў 1619 годзе.

заходніх суседзяў, палякаў і ліцвінаў, за нядаўнюю інтэрвенцыю ў сваю дзяржаву, якая суправаджалася спробай прывесці маскоўскую Царкву да уніі з Рымам. Дзед цара Аляксея Міхайлавіча Фёдар Раманаў, які ў 1619–1633 гадах быў маскоўскім патрыярхам пад іменем Філарэт, доўгі час прабыў у палоне ў Рэчы Паспалітай. Там ён толькі ўзмацніў сваё і раней негатыўнае стаўленне да каталіцтва і уніі. У 1620 годзе патрыярх Філарэт узначаліў сабор, які пастанавіў хрысціць католікоў, што пераходзяць у праваслаўе, нягледзячы на практыку іншых праваслаўных Цэркваў, дзе католікоў прымалі праз мірапамазанне (канфірмацыю, бежмаванне). Пры Нікане гэтая пастанова на саборы 1655 года была фармальна адменена. Але праз год і сам Нікан благаславіў хрысціць палоннага ўкраінскага гетмана Паўла Патоцкага.

Урэшце, непрыязнасць у Масквы была не толькі да «літоўскага» праваслаўя. Збіранне паўночна-ўсходніх земляў Русі пад сваёй уладай і доўгі час перабывання ў ізаляцыі з-за царкоўнай схізмы выгадавалі ў праваслаўных маскоўцаў уяўленне пра сваю выключную веліч (ідэя «Масква — трэці Рым») і сапсаванасць веры ў праваслаўных іншых краёў. Пры патрыярху Філарэце прыезджых праваслаўных грэкаў нават не пускалі ў цэрквы без мірапамазання (як схізматыкаў), да якога ім патрэбна было рыхтавацца сорак дзён.

## Двойчы каталіцкая Масква ў схізме

Традыцыйна жорсткая антыкаталіцкая рыторыка маскоўскіх аўтараў XVII стагоддзя затуліла памяць пра двухразовыя спробы прымання ▸

▸ ў ранейшыя стагоддзі Рускай царквой каталіцтва. Першы раз гэта адбылося ў 1274–1283 гадах на ўмовах II Ліёнскага сабору (так званая Ліёнская унія), калі праваслаўныя маскоўцы разам з вернікамі іншых раз'яднаных рускіх княстваў і жыхарамі Вялікага Княства Літоўскага ўваходзілі ў адзіную Кіеўскую мітраполію Канстанцінопальскага патрыярхата. Ніякіх пратэстаў супраць свайго патрыярха-ўніята тады не выказаў ніводзін епіскап ці князь. Мітраполія тады абсалютна абыякава прыняла каталіцтва і таксама маўкліва вярнулася ў праваслаўе, калі Ліёнскую унію неўзабаве адмянілі зверху ў выніку зменаў на імператарскім троне ў Візантыі.

Крыху інакш адбылося другім разам — пасля Фларэнтыйскага сабору 1439 года (Фларэнтыйская унія), у якім удзельнічалі кіеўскі мітрапаліт грэк Ісідар і суздальскі епіскап Аўраамій, што паставіў кірылічны подпіс пад унійным актам. Унію без спрэчак падтрымалі ў Вялікім Княстве Літоўскім, Вялікім Княстве Цвярскім і, хутчэй за ўсё, у Ноўгарадскай зямлі. У Маскве ж, якая супернічала з Цвер'ю, фларэнтыйскі акт прынялі, але, каб не дапусціць пераносу кафедры мітрапаліта ў Цвер і паставіць на гэты пасад свайго кандыдата, Ісідара абвінавацілі ў здрадзе праваслаўю, дазволіўшы збегчы з турмы на Захад. Адначасова маскоўскі князь Васіль II Цёмны (родны ўнук вялікага князя літоўскага Вітаўта, гл. пра гэта ў артыкуле Сяргея Палехава ў №12/2020 «Нашай гісторыі») прасіў «Вялікага Айца», уніяцкага канстанцінопальскага патрыярха, дазволіць узысці на мітраполію свайму кандыдату Іёну. На мове царкоўнага права гэта азначала заяву пра царкоўную лучнасць і кананічнае



**Патрыярх Ігнацій.** Мініяцюра з «Тытулярніка» 1672 года.

падпарадкаванне ўніяцкаму патрыярху. Не дачакаўшыся дазволу, Іёну ўрэшце паставілі ў Маскве самастойна.

Але і тут уніяцкая эпапея скончылася вельмі хутка, ужо ў 1454 годзе, калі ў Канстанцінопалі зноў сеў праваслаўны патрыярх. Аднак гэтых пятнаццаці гадоў вялікаму князю маскоўскаму хапіла, каб адчуць салодкі смак царкоўнай самастойнасці. Таму пераемнікаў Іёны пачалі ставіць самастойна, учапіўшыся за абвінавачванні Канстанцінопаля ў здрадзе праваслаўю, тым самым моцна пасварыўшыся з грэкамі і астатнім праваслаўным светам.

У 1466 годзе ўніяцкі кіеўскі мітрапаліт Грыгорый, называны Балгарынам, перайшоў у праваслаўе і ў Канстанцінопалі быў прызнаны мітрапалітам Кіеўскім і ўсяе Русі. Цяпер яму, з рэзідэнцыяй у Наваградку, павінны былі падначальвацца вернікі не толькі ў Літве, але і ў Масковіі. Але маскоўскі князь Іван III не мог дапусціць кіравання Царквой у сваім княстве з варожага краю — у адносінах паміж Масквой і Вільняй тады ўжо моцна іскрыла — і адмовіўся прызнаваць Грыгорыя. У выніку ў 1467 годзе Маскоўская царква падпала пад патрыяршае адлучэнне і амаль сто гадоў, аж да 1560-га, перабывала ў схізме — царкоўным адшчапенстве.

Маскоўская схізма скончылася ў 1560 годзе фармальнай адмовай ад некананічнай аўтакефаліі і прыняццем мітрапалітам Макарыем тытула патрыяршага экзарха. Сама ж аўтакефалія, адначасова з усталяваннем патрыяршаства, была дадзена Маскоўскай мітраполіі ў 1589–1590 гадах дзякуючы дыпламатычнай дзейнасці ўрада Барыса Гадунова.

Кіеўская і ўсяе Русі («Расіі», як на грэчаскі манер пісалі ў старабеларускіх дакументах) мітраполія з рэзідэнцыяй у Наваградку засталася ў складзе Канстанцінопальскага патрыярхата. А пасля лакальнай Берасцейскай уніі 1596 года значная частка вернікаў Кіеўскай мітраполіі далучылася да Каталіцкага касцёла на ўмовах Фларэнтыйскага сабору («сусветнага» ў каталіцкай традыцыі). З гэтага часу важнай задачай папскага пасаду стала далучэнне да уніі Царквы ва ўсё мацнейшым Маскоўскім царстве. У 1605 годзе ў Маскву ўвайшоў падтрыманы касцёлам і Рэччу Паспалітай Ілжэдзмітрый I. Маскоўская аўтакефалія з патрыяршаствам аказаліся ўведзенымі ў вельмі цяжкі для Маскоўскай дзяржавы час.

### Сапраўдны ўніят з маскоўскіх патрыярхаў

Сабор расійскіх епіскапаў змясціў у чэрвені 1605-га першага маскоўскага патрыярха Іава з пасаду за адмову прызнаць

Ілжэдзмітрыя царом. Патрыярхам быў пастаўлены разанскі архіепіскап грэк Ігнацій, які каранаваў самазванца з польскай шляхцянкай Марынай Мнішак.

Але каранацыя прайшла няўдала. Каталічка Марына павінна была, згодна з маскоўскімі законамі, прыняць праваслаўе ахрысціўшыся, на што яна прынцыпова не згаджалася. Тады хітрун Ігнацій надумаў дагадзіць усім, сумясціўшы тры абрады (прыняцце ў праваслаўе, шлюб з самазванцам і каранацыю) у адным. Марына была памазаная мірам, што для праваслаўных мусіла значыць пераход у праваслаўе, а для каталікоў — памазанне на царства. Але каранаваная царыца («лацінская дзеўка Марынка») разам з мужам адмовілася прыняць прычасце, што вельмі негатыўна было ўспрынята народам і ўрэшце прывяло да забойства Лжэдзмітрыя, якое стала кар’ерным крахам і для Ігнацыя, скінутага з патрыяршага пасаду і адпраўленага ў манастыр простым манахам. Праўда, праз некалькі гадоў яму ўдалося вызваліцца і ўцячы ў Рэч Паспалітую. Былога маскоўскага патрыярха кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III Ваза пасяліў у віленскім Траецкім манастыры і выкарыстоўваў яго асобу як козыр ва ўсходняй палітыцы.

## Патрыярх Нікан неўзабаве ператварыўся з «сабіннага друга» цара ў «б…на сына»

Пасля канчатковага заканчэння Смутнага часу ў Маскве Ігнацій застаўся жыць у Вільні, прыняў унію і пасля смерці ў 1640 годзе быў пахаваны ў Траецкім манастыры. Тут, у Вільні, з былым маскоўскім патрыярхам-уніятам пазнаёміўся і меў сувязі Язафат Кунцэвіч. Ад’язджаючы на полацкую кафедру, ён узяў з сабой аднаго з людзей, набліжаных да Ігнація, — грэка Эмануіла Кантакузена, які стаў сведкам забойства Кунцэвіча.

А пасля вобраз патрыярха Ігнація, з якім меў знаёмства будучы святы Язафат, у агіяграфічнай паралельнай рэальнасці сумясціўся з вобразам патрыярха Нікана, каб у выніку атрымалася цудоўная і ў асобных дэталях праўдзівая легенда.

Для рэальнага ж «Вялікага Гасудара» Нікана жыццё падрыхтавала вялікія выпрабаванні. Ён не доўга «пляваў» на царскую ўладу, неўзабаве ператварыўшыся з «сабіннага друга» цара ў «б...на сына». У 1658 годзе пакрыўджаны Нікан самахоць пакінуў патрыяршы трон і пасяліўся ў збудаваным ім самім падмаскоўным манастыры з прэтэнцыёзным назовам «Новы Іерусалім». А ў 1666 годзе на Маскоўскім саборы яго пазбавілі патрыяршага сану ды выслалі ў манастыр у Белазёрскім краі (цяперашняя Валагодчына). Памёр Нікан у 1681 годзе па дарозе з высылкі, памілаваны царом. ◆




**Томас М. Бон, Аляксандр Далгоўскі, Маркус Кшоска. Зубрыны неруш і сусветная спадчына: гісторыя польска-беларускага нацыянальнага парку «Белавежская пушча»** / Пераклад з нямецкай Жанны Некрашэвіч-Кароткай. — Мінск: Галіяфы, 2021. — 404 с.

Белавежская пушча, якая раскінулася на польска-беларускім памежжы, з XVIII стагоддзя лічыцца апошнім прытулкам зуброў. У 20-х гадах XX стагоддзя ледзь не дайшло да вымірання «валадароў нерушу», аднак дзякуючы мэтанакіраванай рэінтрадукцыі, якая ажыццяўлялася ў сярэдзіне XX стагоддзя, папуляцыя зуброў ізноў пачала павялічвацца. Апошні ў Еўропе нізінны неруш набыў міжнароднае значэнне спачатку як зона палявання польскіх каралёў і рускіх цароў, пазней як польска-беларускі нацыянальны парк і нарэшце як аб’ект сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. У кнізе прадстаўлены нарыс гісторыі Белавежскага нацыянальнага парку пачынаючы з ранняга Новага часу да нашых дзён.

Асноўныя тэмы гэтай кнігі — стаўленне да прыроды як да вытворчага рэсурсу і як да запаведнай зоны, а таксама штодзённае жыццё жыхароў пушчанскага рэгіёна пры розных палітычных уладах і дзяржаўных сістэмах XX стагоддзя.

Кнігу можна набыць у мінскіх кнігарнях **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72) і **«Галіяфы»** (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе), інтэрнэт-кнігарнях **kniganosha.by** і **lohvinau.by**.



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

## Як жыў адзін з найбагацейшых людзей у БССР

# Андрэй Макаёнак

**Спектаклі па п'есах Андрэя Макаёнка ставіліся па ўсім Савецкім Саюзе. А тэатральныя пастаноўкі давалі гіганцкія ганарары. Але народны пісьменнік раскошу называў мяшчанствам. Кнігі ды застолле з таварышам цаніў больш за брыльянты. Піша Наталля Лубнеўская.**

### Юначыя кіданні

Да вялікіх грошай Макаёнак быў не прывыкшы. Бацька яго быў старшынёй калгаса на Рагачоўшчыне, маці працавала там жа. Дзецям — іх у сям'і было пяцёра — спуску не давалі. Андрэйка, як і ўсе вясковыя дзеці, пасвіў свіней і авечак.

З выбарам прафесіі ў будучага драматурга доўга не складвалася. Пасля заканчэння школы ў 1938 годзе Макаёнак паступіў у Рагачоўскі педтэхнікум. Думаў, будзе настаўнікам, але адукацыі перашкодзілі клапы: убачыўшы, у якіх умовах кватаруе сын, маці тут жа забрала яго дадому. Тады Макаёнак вырашыў паспрабаваць армейскага хлеба. У тым жа годзе ён быў залічаны ў вайсковае вучылішча. Праўда, хутка хлопец сам адтуль папрасіўся, зразумеў: не ягонае гэта.

У 1939 годзе паехаў «заваёўваць» Маскву — паступаць у прэстыжны Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі, вядомы ВГІК. Не прайшоў па конкурсе. Экзаменатары заўважылі ў хлопца акцёрскія здольнасці і параілі прыехаць паступаць у наступным годзе. Але лёс распарадзіўся інакш: вярнуўшыся дадому, Макаёнак трапіў пад восеньскі прызыў у армію і паехаў служыць на Каўказ.

### «Не дамся!»

Дэмабілізацыі Макаёнак не дачакаўся: грымнула вайна. У той час калі Чырвоная армія імкліва адступала з тэрыторыі Беларусі, дывізія, у якой служыў Макаёнак, гэтак жа імкліва наступала на Іран. Будучы драматург стаў удзельнікам аперацыі Савецкага Саюза і Вялікабрытаніі па акупацыі нейтральнага на той час Ірана: саюзнікі пабаяліся, што іранская нафта можа дастацца немцам, а таму самі занялі гэту краіну.

Акупацыя безабароннага Ірана нагадвала падарожжа ў экзатычную краіну, а вось наступная аперацыя, у якой узяў удзел малады салдат, была падобная да мясарубкі. Самагубчы Керчанска-Феадасійскі дэсант у 1942 годзе скончыўся для Чырвонай арміі знішчальнай паразай. Сам Макаёнак быў моцна паранены: міна разарвалася зусім побач, пакінуўшы ў нагах мноства аскепкаў.

Стомленыя дактары ў палявым шпіталі, пабачыўшы месіва на месцы ног хлопца, адразу хацелі ампутаваць канечнасці, каб не развілася гангрэна. Франтавыя медыкі асабліва не заганяліся — без доўгіх роздумаў выбіралі найбольш просты варыянт лячэння. Але Макаёнак, калі пачуў пра ампутацыю, выхапіў трафейны пісталет і стрэліў уверх: «Не дамся!» Дзякуючы такой настойлівасці ногі ўдалося выратаваць. Параненага Макаёнка вывезлі ў тыл, дзе ў бальнічных умовах правялі складаную аперацыю. Юнак зноў змог хадзіць, але 13 аскепкаў так і засталіся да канца жыцця ў пашкоджаных нагах.

### Па партыйнай лініі

Пасля шпіталя Макаёнка дэмабілізавалі, і нейкі час ён быў школьным ваенруком у адной з вёсак Грузіі. А на радзіму змог вярнуцца ў 1943 годзе, калі была вызвалена Гомельшчына. Уладкавацца на працу дапамагла партыйнасць — спачатку будучы драматург працаваў сакратаром Журавіцкага райкама камсамола, а пасля вызвалення ўсёй Беларусі быў прызначаны на такую ж пасаду ў Гродна. У каралеўскім горадзе, аднак, папрацаваў нядоўга, папрасіўся назад на ўсход — бліжэй да сям'і. А сям'я да таго часу перажыла страшныя трагедыі. Бацьку Макаёнка ў акупацыю расстралялі за сувязь з партызанамі, а маці адна даглядала ўнука Толіка. Маці малога, сястра Андрэя, застрэлілася ў пасляродавай гарачцы, а яе муж памёр яшчэ раней ад сухотаў.

Партыя пайшла насустрач, і Макаёнка спачатку перакінулі на партыйную працу ў Магілёў, бліжэй да дому, а затым ужо ўладкавалі непасрэдна на радзіму, у Журавічы, у гаркам. Адначасова з працай будучы драматург вучыўся ў Мінску ў партшколе. Там стыпендыя была ў чатыры ►

### Таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім

У дзяцінстве Макаёнак пачаў цікавіцца выяўленчым мастацтвам. Шукаў у школьнай бібліятэцы кнігі пра архітэктуру, скульптуру і жывапіс. Спрабаваў і сам штосьці ляпіць з гліны ці выразаць з дрэва — набор для творчасці ў сялянскай сям'і быў небагаты.

Гэтая цяга да мастацтва засталася ў Макаёнка і ў дарослым жыцці. У вольны час ён маляваў. Сам рабіў замалёўкі дэкарацый для п'есы «Лявоніха на арбіце». Працягваў выразаць па дрэве. Нават зрабіў свой бюст, дастаткова падобны. Як узгадвае дачка Макаёнка Ала Андрэеўна, бацька хваліўся, што атрымалася нядрэнна, не горш, чым у Заіра Азгура.

Была ў Макаёнка і іншая разьбяная фігурка — фіга. Называлася скульптура «Маім крытыкам».

▸ разы вышэйшая за звычайную, што зрабіла юнака галоўным кармільцам у сям'і.

Макаёнак мог бы далей працягнуць партыйную кар'еру, але творчая натура не прымала такога шляху. Пасля заканчэння партшколы ў 1949 годзе Макаёнак, нядоўга думаючы, пайшоў у пісьменнікі.

## «Пішыце яшчэ»

Пісаць п'есы Макаёнак пачаў падчас працы ў гаркаме, каб было з чым выйсці да гледача ў клубах. Адну з іх паслаў на конкурс у Мінск і нечакана атрымаў другую прэмію. «Пішыце яшчэ», — параілі яму. Пакуль вучыўся ў сталіцы ў партыйнай школе, Макаёнак не вылазіў з тэатраў, музеяў і бібліятэк — настолькі ненасытнай была ягоная прага да культуры. Тады ж будучы класік перачытаў усіх магчымых драматургаў — ад старажытнагрэчаскага Еўрыпіда да савецкага Мікалая Пагодзіна.

У 1949 годзе Макаёнка прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Некаторы час ён працаваў рэдактарам аддзела прозы ў сатырычным часопісе «Вожык». У 1951 годзе прынёс у Купалаўскі тэатр сваю п'есу «На досвітку» — і закруцілася.



З СЯМЕЙНАГА АРХІВА МАКАЁНКАЎ

**З Якубам Коласам і першай жонкай.**

## Блізкія сябры

Са сваім найлепшым сябрам Іванам Шамякіным (гл. пра яго артыкул Андрэя Скурко ў № 3/2018 «Нашай гісторыі») драматург пазнаёміўся ў 1947 годзе, калі яны везлі ў Мінск выбарчыя дакументы. Тады праходзілі выбары ў Вярхоўны Савет БССР. Шамякін Макаёнка адразу прыкмеціў: яго зачапіў гэты напорысты характар, жывыя цыганскія вочы.

«Яны былі розныя. Тата больш выбуховы, эмацыйны, а Іван Пятровіч — разважлівы. Сябравалі яны доўга і моцна. Лецішчы ў нас недалёка знаходзіліся. Для мяне Марыя Філатаўна і Іван Пятровіч — вельмі дарагія людзі. Наша дачка Даша ў дзяцінстве была ўпэўнена, што ў яе тры дзядулі: Андрэй, Слава (бацька майго мужа) і Іван Пятровіч Шамякін», — з усмешкай успамінае дачка драматурга Ала Андрэеўна.

Макаёнак і Шамякін любілі ладзіць гонкі на машынах. Уявіце, на «Пабедах», з дзецьмі і жонкамі ў салонах будучыя народныя пісьменнікі спаборнічалі, хто спрытнейшы за рулём!

Блізка сябраваў Макаёнак таксама з пісьменнікам Аляксеем Кулакоўскім і кінарэжысёрам Пятром Васілеўскім, з якім некалі разам вучыліся ў Журавіцкай школе.

«Васілеўскі пасля здымаў фільм "Рагаты бастыён" па п'есе "Лявоніха на арбіце". Але фільм атрымаўся не вельмі цікавым. Мне здаецца, сяброўству гэта крыху нашкодзіла», — заўважае дачка класіка.



## Подзвіг палітрука

У час вайсковай службы на Каўказе Макаёнак уступіў у партыю, вывучыўся на палітрука і пачатак вайны сустрэў у званні лейтэнанта.

За той бой у Крыме, падчас якога Макаёнак атрымаў раненне, ён быў двойчы прадстаўлены да ўзнагароды. У 1942 годзе да медаля «За адвагу» — па збегу абставін, узнагарода не была ўручаная. Другі раз камандаванне вырашыла ўзнагародзіць Макаёнка ордэнам Чырвонай зоркі ў сакавіку 1944 года. Узнагародны ліст так апісвае подзвіг Макаёнка: «9 красавіка 1942 года палітрук Макаёнак атрымаў загад захапіць перакрыжаванне дарог каля Феадосіі. Уначы разам з ротай салдат лейтэнант зрабіў праход у мінным полі і раніцай 10 красавіка выйшаў на рубеж атакі. У ходзе наступлення лейтэнант быў паранены ў нагу ў першы раз. Наступ пачаў захлынацца, і Макаёнак, нягледзячы на раненне, падняўся і павёў байцоў у атаку. Важнае перакрыжаванне было занятае, але Макаёнак быў паранены ў нозі другі раз».

## Два шлюбы

Прыгожы, абаяльны, дзёрзкі Макаёнак падабаўся жанчынам. Яго першая жонка Алена таксама была прыгажуняй. Працавала педагогам, пазней журналісткай на радыё. У гэтым шлюбе нарадзілася двое дзяцей — Ала і Сяргей. Сям'я жыла ў трохпакаёўцы ў Мінску на Захарава, 27, за два кварталы ад плошчы Перамогі.

Ала Андрэеўна так успамінае атмасферу, у якой яны раслі: «Тата быў добрым і справядлівым чалавекам. Мяне, напрыклад, ні разу не караў. Выхоўваў на прыкладзе іншых. Калі я нешта не тое магла сказаць, ён так глядзеў іранічна — адразу станавілася зразумела: не маю рацыі. Кніг дома было шмат. Шэкспір, Лопэ


З дачкой у рэдакцыі часопіса «Нёман».

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА МАКАЁНКАЎ

дэ Вега, Горкі, Чэхаў... Для дзяцей у нас выпісвалі творы Майн Рыда, Жуля Верна, Джэка Лондана, О. Генры».

У доме часта бывалі госці. Прыязджалі літаратары з Японіі, Балгарыі. Часам дапамагаць накрываць стол прыходзілі з Саюза пісьменнікаў. Алена добра гатавала, але Макаёнак быў непераборлівы.

«Тата любіў усё і еў заўсёды з апетытам, — расказвае дачка. — Нашы беларускія стравы — з вялікім задавальненнем. Капусту любіў ва ўсіх выглядах. А калі прастудзіўся, я яму гатавала бульбяны суп».

Але жаніцца так, каб адзін раз і на ўсё жыццё, не ўдалося. Развяліся: кажуць, адной з прычын была рэўнасць Макаёнка.

## Раскоша па-савецку

З другой жонкай — доктарам лечкамісіі Любоўю — Макаёнак пазнаёміўся, калі захварэў на бранхіт. Тая нават не ведала, што прыйшла лячыць вядомага драматурга, але пасля хутка ўлілася ў тэатральную тэму. Шамякін лічыў, што Люба сябру не падыходзіць. Макаёнак не любіў паказнога багацця, а новая жонка прасіла брыльянты і футра. Ён не быў аматарам санаторыяў, але ездзіў туды пад уплывам Любові, бо санаторыі — гэта прэстыжна. Праўда, ад'язджаў заўсёды раней, чым заканчвалася пуцёўка.

З Любай яны пасяліліся ў новым наменклатурным доме па Вайсковым завулку, 10 — у тым жа квартале, дзе і першае жытло. Іх вокны былі бачныя з кухні старой кватэры, дзе засталася Алена з дзецьмі. Святло гарыць — значыць, Андрэй Ягоравіч дома. Сын з дачкой ужо не маглі зайсці да яго ў госці ў любы час, сяброўства з другой жонкай не склалася.

Пазней Макаёнак пераехаў у чатырохпакаёвую кватэру на Захарава, 56. Але жыць у гэтых апартаментах літаратару заставалася нядоўга.

## Грошай было шмат

Акрамя заробку на рэдактарскай пасадзе, Макаёнак атрымліваў ганарары за пастаноўкі ўласных п'ес, сцэнары да фільмаў і экранізацыі сваіх твораў. Прыходзілі грошы за пераклады — Макаёнак актыўна перакладаў на беларускую мову творы калег з Савецкага Саюза.

Яшчэ адной крыніцай прыбытку былі грашовыя дадаткі да прэмій і ўзнагарод, якіх за доўгі творчы шлях Макаёнак атрымаў нямала.

Многія знаёмыя прасілі ў пісьменніка ў доўг. Генадзь Бураўкін успамінаў, як пазычыў у драматурга грошы на лецішча: «Макаёнак мне даў грошы без усякіх распісак, проста пад чэснае слова. 15 тысяч — прыкладна як дзве легкавыя машыны».

## Пісаў па начах

Пісаць Макаёнак любіў у цішыні. Часта сядаў за п'есы па начах, бо ўдзень тузаніна: званкі, сустрэчы.

«А мы з братам неяк абулі маміны туфлі на абцасах і па калідоры — туды-сюды. Як ногі не паламалі, не ведаю, — успамінае Ала Андрэеўна дзіцячыя свавольствы. — Пасля, калі купілі лецішча, тата працаваў там. У яго на другім паверсе быў кабінет, вокны выходзілі на агарод і сасновы лес. Вавёрачкі прыходзілі да яго — ён іх прынаджваў. Сінічак падкормліваў: у вусны пакладзе кавалачак сала — яны прылятаюць і хапаюць».

У тым кабінеце стаяла арыгінальнае крэсла, выробленае з пня. На жаль, яно не ўцалела — згарэла разам з лецішчам.

Сам драматург зайздросціў падыходу сябра Івана Шамякіна, які для творчасці выкарыстоўваў кожную вольную хвіліну і ўмудраўся пісаць у перапынках паміж пасяджэннямі. Макаёнак жа сядаў за стол толькі тады, калі дыялогі і сцэны былі адточаныя ў яго галаве. Затое пісаў вельмі хутка. Так было з п'есамі. А вось траціць час на напісанне артыкулаў і прадмоў да кніг не любіў. Калі быў галоўным ▸

рэдактарам «Нёмана» і вычытваў слабыя рукапісы, згадваў «добрым слоўцам» Шамякіна, які ўгаварыў яго заняць гэтую пасаду.

## Памятай пра рабую свінню

Статус Макаёнка даваў яму пэўныя прывілеі. Раз на тыдзень яму дастаўлялі прадуктовыя заказы.

«Пасля яго смерці ў Саюзе пісьменнікаў нас з братам таксама паставілі на такое забеспячэнне, — кажа дачка драматурга. — Гэта былі каўбаса, цукеркі, мандарыны да Новага года. Нічога такога — ікру там не выдавалі. Але тата спецыяльна прывозіў чорную ікру для ўнучкі Дашы.

Мы елі ўдосталь, халадзільнік ніколі не пуставаў. У нас на кухні стаяла скрыначка, адкуль можна было ўзяць кішэнныя грошы. Сяброўкі ў мяне таксама былі з дастаткова забяспечаных сем'яў, бо гэта былі дзяўчаты з нашага дома.

Тата не ўхваляў раскошу, ён называў гэта мяшчанствам: пагоню за шмоткамі, рэстараны. Ён многім дапамагаў. Перыядычна татавы сваякі ў нас жылі, пакуль вучыліся на падрыхтоўчым аддзяленні, каб у ВНУ паступіць».

Ала Андрэеўна ніколі не выхвалялася вядомым бацькам. Дый сам ён не зазнаваўся: памятаў адну павучальную гісторыю з дзяцінства. А было так: дзядзька пасадзіў маленькага Андрэйку на каня, і хлопчык ажно захмялеў ад такой вышыні. Як раптам з канапель выскачыла рабая свіння. Конь — на дыбы, Андрэйка — чмякнуўся на зямлю. З таго часу запомніў: як бы ёмка ні адчуваў сябе на кані, памятай, што ў любую хвіліну рабая свіння можа перабегчы табе дарогу.

## Спрэчкі з Машэравым

Як і ўсе савецкія пісьменнікі, Макаёнак не пазбег цэнзуры.

«Ён хадзіў на прыёмы да Машэрава, бо п'есы ўразаліся, псаваліся. Ён перажываў праз гэта: злаваў і крыўдаваў», — дзеліцца дачка драматурга.

Макаёнак спрачаўся з 1-м сакратаром ЦК КПБ Пятром Машэравым, спрабуючы адстаяць кожную сцэну. Ён наогул быў прынцыповым чалавекам. Так, адмовіўся падпісаць ліст з асуджэннем Аляксандра Салжаніцына. Драматург папрасіў твор, каб прачытаць і ведаць, за што караюць пісьменніка. Але ніхто нічога яму не даў.

Тэатральныя пастаноўкі па Макаёнку праходзілі пад яго пільным вокам: Андрэй Ягоравіч часта прысутнічаў на рэпетыцыях. Акцёры яму былі радыя. Казалі,

## П'есы састарэлі

Пры жыцці Макаёнка ягоныя п'есы актыўна ставіліся не толькі ў Беларусі, але і ў тэатрах усяго СССР. Але ў рэпертуарах сучасных тэатраў іх амаль няма.

Чаму так адбылося? Запытаны пра гэта ў 2008 годзе рэжысёр Купалаўскага тэатра Мікалай Пінігін адказаў шчыра: «Большасць п'ес Андрэя Макаёнка састарэла».

Сапраўды, папулярнасць п'ес Макаёнка не ў апошнюю чаргу тлумачылася іх злабадзённасцю, адпаведнасцю задачам сацыялістычнага будаўніцтва. Большасць іх прысвечана будням калгаснай вёскі. Напрыклад, у аснове сюжэту п'есы 1953 года «Выбачайце, калі ласка» — махінацыі раённага і калгаснага начальства з планавымі хлебаздачамі дзяржаве дзеля таго, каб выбіцца ў перадавікі. У п'есе 1957 года «Каб людзі не журыліся» строгі, але сумленны і справядлівы старшыня калгаса разграбае завалы, пакінутыя яму нягеглымі папярэднікамі. У камедыі 1960 года «Лявоніха на арбіце» высмейваюцца галоўным чынам «прыватнаўласніцкія інстынкты», жаданне селяніна ўкладаць сілы і энергію перадусім у развіццё асабістай гаспадаркі, а не ў росквіт калгаса. Камедыя-рэпартаж 1972 года «Таблетку пад язык» — пра дэмаграфічныя праблемы, імкненне моладзі выязджаць (фактычна ўцякаць) з калгасаў у гарады.

Крытычны складнік у гэтых п'есах — цалкам адпаведны тагачасным ідэалагічным патрабаванням. Увогуле, памяркоўная крытыка рэчаіснасці ў савецкі час дазвалялася, але не самой сістэмы, а толькі «асобных недахопаў» у ёй, звычайна суб'ектыўнага характару. Негатыўныя з'явы не адмаўляліся, але падаваліся як вынік нядобрасумленнасці ці нядбайнасці асобных кіраўнікоў ніжэйшага звяна, якія паспяхова выкрываюцца і выпраўляюцца іншымі кіраўнікамі, як правіла больш высокапастаўленымі, абавязкова пры дапамозе і нават па ініцыятыве «прагрэсіўнай грамадскасці». Сам жа кірунак развіцця, накрэслены камуністычнай партыяй, безумоўна правільны, трэба толькі не дапускаць адхіленняў ад генеральнай лініі.

Але з пачаткам гарбачоўскай перабудовы, якая фактычна стартавала ўжо праз два з паловай гады пасля смерці Макаёнка, вельмі хутка стала відавочным: карані праблем усё ж у самой сістэме. Таму і макаёнкаўскія п'есы, нягледзячы на несумненныя мастацкія вартасці, перасталі чапляць, сталі анахранізмам.

У нашыя часы розныя беларускія тэатры спрабуюць яшчэ часам ставіць спектаклі толькі па дзвюх трагікамедыях Макаёнка: «Трыбунал», прысвечаны падзеям Другой сусветнай вайны, і «Зацюканы апостал», у якім раскрываецца праблема канфлікту бацькоў і дзяцей, узнімаюцца філасофскія пытанні. Астатняе — здабытак толькі гісторыі беларускай літаратуры.


Злева Іван Шамякін, Андрэй Макаёнак і расійскі паэт з беларускімі каранямі Яўген Еўтушэнка.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА МАКАЁНКАЎ

калі Макаёнак увечары прыйшоў у тэатр, усе галодныя артысты будуць сытыя і ў табацы нос будзе.

На прэм'ерах ён назіраў за сцэнай з дырэктарскай ложы. І ў залу паглядаў: ці ацаніла публіка? Нават дома ў драматурга вісеў вялікі здымак глядзельнай залы.

Не без дапамогі Макаёнка загарэлася зорка акцёра Генадзя Аўсяннікава. А Барыс Луцэнка і Валерый Раеўскі сталі галоўнымі рэжысёрамі: адзін у Рускім тэатры, другі — у Купалаўскім. Драматург закінуў за іх слоўца перад Машэравым.

### Гумарыст па жыцці

Выдатны камедыёграф, Макаёнак і ў жыцці цаніў гумар.

«Гумар у яго быў добры, не з'едлівы. Тата быў вельмі далікатным чалавекам», — адзначае Ала Андрэеўна.

Сяброў Макаёнак любіў разыгрываць. Пазвоніць па тэлефоне або заявіцца да калег у масцы грузіна. Даўся ў знакі досвед працы ў грузінскай вясковай школе пасля ранення — з той пары Макаёнак вельмі ўмела капіраваў грузінскі акцэнт.

Калі шыкоўнае драўлянае лецішча пісьменніка згарэла, ён пажартаваў у размове з Шамякіным: паспеў прыехаць рукі пагрэць. Хоць вельмі шкада яму было таго дома, але на прыяцеля, які забыўся адключыць электраабагравальнік і тым самым учыніў пажар, ён зла не трымаў.

Макаёнак памёр у 62 гады: тромб у лёгачнай артэрыі. Шамякін шкадаваў, што не настаяў, каб сябар лёг у бальніцу, як таму раілі дактары. Успамінаў ён таксама, як драматург скардзіўся на боль у назе: падчас пераезду на новую кватэру насіў кнігі і ўдарыў тое месца, дзе быў аскепак.

### Шляхі дзяцей

Макаёнак вельмі хацеў, каб дачка пайшла па яго слядах.

«У лістах пісаў: дачушка, давай паспрабуй. Падкідваў мне тэмы. Я пісала маленькія апавяданні, але сама гляджу: не тое. У першую чаргу адбіваўся недахоп досведу, бо я хатняе дзіця і не мела ведаў жыцця», — згадвае Ала Андрэеўна.

Яна скончыла Лінгвістычны ўніверсітэт. Выкладала французскую ў педагагічным інстытуце, а пасля вярнулася працаваць у альма-матэр. Цяпер кандыдат філалагічных навук.

Сын драматурга Сяргей цяпер на пенсіі. Ён адвучыўся на біяфізіка ў БДУ. Доўгі час працаваў у Дзяржстандарце, потым перайшоў у выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя», дзе загадваў аддзелам камп'ютарнай падрыхтоўкі рукапісаў.
По маладосці ён пісаў вершы і нават выпусціў зборнік пад назвай «Дань». ◆


Электронны рэсурс «Андрэй Макаёнак — чалавек, драматург, майстра» — краязнаўчы праект, створаны Гомельскай абласной бібліятэкай на аснове дакументаў з архіва Макаёнка, перададзеных у 2017 годзе ўдавой драматурга Любоўю Іванаўнай Макаёнак.

# Зуавы смерці

## Узорныя салдаты паўстання 1863–1864 гадоў

**Яны ішлі пад кулі ворага з усмешкай на твары, у поўны рост, апранутыя ў чорную вопратку, расшытую белым крыжам. Дзеля перамогі яны былі гатовыя ахвяраваць уласным жыццём. Пра зуаваў смерці часоў паўстання 1863–1864 гадоў піша Васіль Герасімчык.**




**Зуавы смерці.** 1863 год.

Паўстанне 1863–1864 гадоў у Польшчы, Беларусі і Літве ўвайшло ў гісторыю перш за ўсё як партызанская вайна, падчас якой рэгулярнай царскай арміі супрацьстаялі атрады дрэнна ўзброеных добраахвотнікаў. Яны ў большасці сваёй не мелі вайсковага досведу і нават абмундзіравання. Рэдкае выключэнне з гэтых правілаў – зуавы смерці.

### Хто такія зуавы?

Назва «зуавы» паходзіць ад саманазвы групы арабскіх плямёнаў зуазуа, якія жылі ў Джурджурскіх гарах Алжыра.




**Выгляд зуаваў у французскім войску.**

Падчас каланіяльнай вайны ў Алжыры ў 1830 годзе французы называлі так агулам усіх арабаў, што прыйшлі да іх добраахвотнікамі і атрымалі месца ў лёгкай пяхоце.

Відаць, арабы вызначаліся смеласцю і спрытам, раз у сакавіку 1831 года ўказам караля было створана новае вайсковае фарміраванне пад назвай «зуавы». Але хутка слова страціла пачатковы сэнс і стала проста назвай класу войскаў. Туды пачалі накіроўваць і добраахвотнікаў з бяднейшых раёнаў Францыі, а таксама іншаземцаў. Урэшце ў 1842 годзе арабы, якія служылі ў французскім войску, былі вылучаныя ў асобныя палкі, а ў шэрагах зуаваў засталіся толькі французы.

У 1850-я гады зуавы зрабіліся найбольш прафесійнай часткай французскага войска. Многія з іх былі ветэранамі, якія служылі па 15–20 гадоў. Зуаваў лёгка было пазнаць па чырвонай фесцы, шараварах і барадзе, даўжыня якой сведчыла пра тэрмін службы.

### Гэта слава

Сусветная вядомасць да зуаваў прыйшла падчас Крымскай вайны 1853–1856 гадоў, калі яны ў складзе французскай

арміі ўдзельнічалі ў некалькіх паспяховых бітвах і аблозе Севастопаля. Брытанец Роджэр Фентан, першы ў гісторыі афіцыйны ваенны журналіст, уразіўся іх падрыхтоўкай і каларытным выглядам і зрабіў серыю выдатных фотаздымкаў. Менавіта гэтыя фота зрабілі вобраз зуава папулярным на ўвесь свет.

Настолькі папулярным, што аддзяленні і карпусы зуаваў узніклі нават на іншым кантыненце: падчас Грамадзянскай вайны ў ЗША. Прычым зуавы з'явіліся і ў войску Федэрацыі (Поўнач), і ў фарміраваннях Канфедэрацыі (Поўдзень). І тыя, і другія часта не мелі поўнага абмундзіравання: федэраты, напрыклад, закуплялі форму ў Францыі, але атрымалі яе толькі тры найлепшыя палкі. Абодва бакі рабілі ўпор




**Вайсковы журналіст Роджэр Фентан** у форме зуава падчас Крымскай вайны.

на характар (лёгкая пяхота) і шкаленне.

Зуавамі таксама назвалі корпус каталікоў-добраахвотнікаў, што прыйшлі на дапамогу Папскай вобласці ў барацьбе супраць італьянскага Рысарджымента (руху за аб'яднанне Італіі ў адну дзяржаву). Сярод іх было шмат французаў — яшчэ з тых першых зуаваў, расфарміраваных пасля заканчэння Алжырскай вайны. Форма наследавала французскай, і ўсе загады аддаваліся таксама па-французску.

У склад французскай арміі зуавы вярнуліся пасля 1870 года. Гэта ўжо былі пераважна прызыўнікі з французскіх пасяленцаў у Алжыры, а таксама з поўдня Францыі. Праз прызыўны характар набору наўзамен добраахвотнага зуавы згубілі статус элітнага корпуса. Але сярод іх яшчэ было досыць шмат добраахвотнікаў з тых, даўніх зуаваў, і гэта падымала маральны дух і давала навабранцам падставы для пыхі. Відаць, ужо такога зуава пісаў у 1888 годзе ў французскім горадзе Арлі славуты Вінсэнт Ван Гог: маладога чалавека з каменным тварам і агрэсіяй у вачах.

## Жанчыны ў арміі

Былі сярод зуаваў і жанчыны: француженкі, алжырскія габрэйкі, нават берберкі і арабкі. Яны служылі ў французскім войску абсалютна легальна і нават, як і мужчыны, мелі права насіць форму, да якой дадавалася кароткая спадніца паверх нагавіцаў.

Яшчэ ў часы напалеонаўскіх войнаў маркітанткі (гандляркі) падстрахоўвалі армію ад недахопу прадуктаў. Пазней прафесія разгалінавалася на канціньерак (гандлярак-пастаўшчыц) і вівандзьерак (памочніц на фронце).

Жанчыны-зуавы былі надзейнымі паплечніцамі: фармальна яны мусілі выконваць функцыі кухарак ды прачак, але часта прысутнічалі на полі бою, раздавалі гарачую ежу і алкаголь, дапамагалі параненым і ў крытычны момант нават браліся за зброю. Ці так ужо важна пасля ўсяго сказанага, што яны маглі быць каханкамі ці жонкамі?




## Францыска дэ Рашбрун

Ідэя стварэння атрада зуаваў у час паўстання 1863–1864 гадоў на тэрыторыі былой ▶

Рэчы Паспалітай належала французу Франсуа Максімільяну дэ Рашбруну.

Ён нарадзіўся 1 студзеня 1830 года ў горадзе В'ен непадалёк ад Ліёна ў беднай сям'і. З 14 гадоў вучыўся друкарскай справе і дасягнуў даволі добрых вынікаў, але ў 21 год патрапіў у французскае войска, у адзін з палкоў зуаваў. Загартаваўся ў Крымскай вайне, пасля заканчэння якой уладкаваўся гувернёрам у польскую сям'ю ў Кракаве. У 1857 годзе зноў вярнуўся ў Францыю, адкуль у складзе ваеннай экспедыцыі накіраваўся ў Кітай і ўзяў удзел у Другой опіумнай вайне 1856–1860 гадоў.

У 1861 годзе Рашбрун зноў вяртаецца ў Кракаў, дзе засноўвае школу фехтавання, якая ў хуткім часе ператварылася ў сапраўдную вайсковую навучальную ўстанову на французскі ўзор. Вельмі запатрабаванай яна была між прадстаўнікоў разнастайных таемных таварыстваў.

Калі ж у студзені 1863 года пачалося паўстанне, Франсуа дэ Рашбрун, як і многія іншыя жыхары Кракава, пакінуў горад і накіраваўся ў размешчаную за 25 км ад яго вёску Ойцаў. Сам Кракаў у той час уваходзіў у склад Аўстрыйскай імперыі, а Ойцаў быў ужо ў Расіі. Побач з гэтай вёскай быў закладзены паўстанцкі лагер, які арганізаваў 45-гадовы Апалінарый Куроўскі, вядомы ўдзельнік таемных таварыстваў яшчэ з часоў Вясны народаў 1848 года.

Куроўскі быў прызначаны начальнікам паўстанцкага Кракаўскага ваяводства і ў самым пачатку паўстання праявіў сябе ўдалымі дзеяннямі на аўстрыйска-расійскім памежжы. Ён авалодаў шэрагам мястэчак, правёў некалькі паспяховых нападаў на царскія войскі і захапіў 80 тысяч рублёў. Менавіта Куроўскі даў магчымасць 33-гадоваму Франсуа дэ Рашбруну стварыць атрад, які ўвайшоў у гісторыю як «зуавы смерці».



**Франсуа дэ Рашбрун.** Фотаздымак Валерыя Жавускага. 1863 год.





**Малады чалавек з каменным тварам і агрэсіяй у вачах.** Гэта карціна Вінсэнта Ван Гога «Зуаў сядзіць».

## Набор добраахвотнікаў

Наконт паходжання імя атрада паўстанец Станіслаў Гжыгажэўскі зазначыў: «Нас назвалі зуавамі, каб у самой назве і характарыстыках даць




**Апалінарый Куроўскі.**

прыкметы першаўзораў. А каб яшчэ больш узняць маральныя сілы і паўстанцкі дух, заахвоціць да барацьбы, не шкадуючы ні сябе, ні ворага, канчатковай назвай стала “Зуавы смерці”».

Ад Куроўскага Франсуа дэ Рашбрун атрымаў правы першачарговага адбору сярод добраахвотнікаў. У выніку пад яго кіраўніцтвам знаходзіліся 122 байцы, сярод якіх было 8 падафіцэраў. Гэтая вайсковая адзінка атрымала назву «Першы полк зуаваў смерці». Паўстанец Юліюш Касалюбскі ўспамінаў: «Пры сваім кіраванні Рашбрун быў добрым выхавацелем і таму, нягледзячы на кароткатэрміновае існаванне зуаваў смерці, аказаў вялікі ўплыў на ўсю моладзь, якая дзейнічала паводле яго загаду. Усе яны ганарыліся сваёй службай у зуавах, а полк зуаваў смерці паставіў пазнейшым паўстанцкім атрадам шмат выдатных афіцэраў».

## Марш зуаваў

Вялікай папулярнасцю карыстаўся напісаны Уладзімірам Вольскім «Марш зуаваў». Аўтар музыкі да яго невядомы: магчыма, яе напісаў Станіслаў Манюшка. У 1879 годзе Вацлаў Свянціцкі на аснове гэтай песні напісаў вядомую «Варшавянку».

*Марш, марш, зуавы,*
*На бой, на крывавы,*
*Святы і правы,*
*Марш, зуавы, марш!*



## Хрышчэнне агнём

Упершыню зуавы смерці ўступілі ў бой у сярэдзіне лютага 1863 года ў бітве пад Мехавам. У гэтым горадзе размяшчаўся расійскі гарнізон, і яго было вырашана атакаваць. Колькасна той гарнізон быў параўнальны з паўстанцкімі сіламі, таму шмат залежала ад нечаканасці нападу. Але знянацку напасці не здолелі: паўстанцаў заўважыў казацкі патруль.

Паўстанцаў сустрэлі агнём з загадзя падрыхтаваных схованак. Зуавы на чале з Рашбрунам ішлі ў першых шэрагах і ваявалі храбра ды ўпарта. Але бітва ўсё адно была прайграная, у тым ліку і праз тое, што паўстанцкі камандзір Апалінарый Куроўскі нарабіў шмат тактычных памылак. Адступленне ператварылася ва ўцёкі, расійскія салдаты дабівалі шматлікіх параненых, што засталіся на вуліцах горада. ►




**Зуавы смерці.** Малюнак Браніслава Гембажэўскага, стваральніка Музея польскага войска ў Варшаве.

## «Як ільвы рушылі пад град куляў непрыяцеля»

Зуавы смерці насілі чорнае адзенне з нашытым на ім белым крыжам, і ўжо гэта вылучала іх. Іх адрознівала таксама нехарактэрная для іншых паўстанцкіх атрадаў дысцыпліна, за парушэнне якой прадугледжваўся вайсковы суд.

Фелікс Баркоўскі, які быў адным з нешматлікіх зуаваў смерці, якія засталіся жывымі, успамінаў: «Перад кожнай бітвай зуавы станавіліся перад разгорнутым штандарам, каб пацвердзіць прысягу... Калі ж даходзіла да бітвы, то мы, не шкадуючы сябе, як ільвы рушылі пад град куляў непрыяцеля, з усмешкаю на вуснах і адкрытым жыватом беглі ў бой за вольнасць Айчыны. І наколькі ад рук ворага падалі ахвяры з нашага боку, настолькі ў нас распальвалася помста да ворага за палеглых геаічнай смерцю, за загінулых суайчыннікаў, помсцячы за нявінную кроў.

Да гэтага дадаваліся крыкі “Ура!” нашага кіраўніка Рашбруна, які заўсёды пасля бітвы сціскаў і цалаваў найбліжэйшых жаўнераў з паўстання, са слязамі і ў роспачы пра лёс бедны, падзеленай Айчыны. Сам ад’ютант яго выказаўся такімі словамі: “Калі б такіх кіраўнікоў было больш, паўстанне дакладна скончылася б перамогай. Але, на жаль, не ўсе кіраўнікі былі таго ж характару і самаадданасці, як Рашбрун”».

Страты сярод зуаваў былі жахлівыя. Увогуле ў выніку бітвы за Мехаў паўстанцы згубілі каля 250 забітых і параненых, прытым, згодна з успамінамі паўстанца Эдварда Веберсфельда, «з атрада зуаваў, які налічваў 160 добраахвотнікаў, загінуў у Мехаве 81, яшчэ 40 мы мелі параненымі, засталося ж пасля бітвы ўсяго 45».

Калі пасля адступлення Рашбрун убачыў, што зуаваў засталося ўсяго некалькі дзясяткаў, ён проста заплакаў.





**Бітва пад Мехавам** 17 лютага 1863 года. Паштоўка.

## У зеніце славы

Пасля катастрофы пад Мехавам зуавы смерці пакінулі Куроўскага і далучыліся да атрада Антонія Езяранскага, які накіроўваўся на злучэнне з сіламі дыктатара паўстання Марыяна Лангевіча. Нягледзячы на паразу і страты, слава пра «чорны» аддзел паўстанцаў і яго гераізм панеслася па ўсім краі. Таму, нарэшце дабраўшыся да лагера, Рашбрун сутыкнуўся з раней невядомай яму праблемай: добраахвотнікаў было больш, чым ён мог сабе ўявіць. Пасля новага набору зуавы смерці налічвалі 400 чалавек (дзве роты).




**Марыян Лангевіч**, дыктатар паўстання ў сакавіку 1863 года.

Паўстанец Станіслаў Гжэгажэўскі так апісваў настрой, які панаваў у шэрагах зуаваў смерці: «Франсуа дэ Рашбрун, малады яшчэ чалавек, сярэдняга ўзросту, даволі шчуплы, смуглага колеру скуры, брунет, меў твар выразна французскі паўднёвых правінцый, з кароткімі вусамі і іспанскай прычоскай, з чорнымі вачыма. Рашучасць, смеласць, нават дзёрзкасць адчуваліся ў яго рухах, мове, голасе, а гэта першае ўражанне стварала давер да яго жаўнерскіх здольнасцяў. Мы былі ў захапленні ад нашага палкоўніка, а апавяданні пра яго шалёную адвагу пры нападзе на Мехаў, якія мы чулі ад удзельнікаў паходу, будзілі ва ўсіх тым большую павагу...»

Імя Франсуа дэ Рашбруна стала вядомым настолькі, што з ім стаў лічыцца і Марыян Лангевіч. Нават дасведчаных у вайсковай справе людзей, у тым ліку кіраўніка штаба Лангевіча Уладзіслава Бянткоўскага, здзіўляла арганізацыя зуаваў смерці. Асабліва на фоне бязладдзя ў іншых аддзелах. «Усё там дыхала рашучасцю і вайсковым досведам; скрозь у іншых месцах прасочваліся бяздарнасць, няведанне элементарных правілаў майстэрства і неаддзельная ад таго мітуслівасць».

## Пірава перамога

17 сакавіка 3 тысячы паўстанцаў на чале з Лангевічам рухаліся да Кельцаў і былі атакаваныя каля вёскі Хробж расійскім Смаленскім пяхотным палком пад камандаваннем генерала Ксаверыя Чэнгеры. Полк зуаваў прыкрываў адступленне асноўных сілаў паўстанцаў. Яны размясціліся побач з ракою Ніда, мост цераз якую вырашылі спаліць. Падпусціўшы расійскіх драгунаў як мага бліжэй, зуавы адкрылі страляніну і прымусілі праціўніка адступіць. А затым

пераправіліся самі і спалілі мост.

Паўстанцы адступілі ў лясы пад вёску Грахавіскі.

На наступны дзень адбылася адна з найбуйнейшых бітваў паўстання 1863–1864 гадоў. Пад Грахавіскі былі накіраваныя расійскія гарнізоны з гарадоў Кельцы, Олькуш і Мехаў — усяго тры з паловай тысячы салдат. Паўстанцы трапілі ў пастку, адзіны вольны шлях з якой вёў па вузкай грэблі цераз балота.

Але і гэты апошні праход трапіў пад агонь расійскай артылерыі. У войску Лангевіча пачалася паніка. Паўстанцы, сярод якіх было шмат сялян-касінераў, пакідалі зброю і сталі маліцца. Пра сур'ёзны супраціў праціўніку можна было забыцца.

Нямногія паўстанцкія часткі захавалі парадак, і, канечне, баяздольнымі былі зуавы смерці на чале з Рашбрунам. Яны занялі невялікі ўзгорак і бараніліся з-за дрэваў. Выбіць адсюль зуаваў не ўдалося, паміж расійскімі войскамі і паўстанцамі завязалася перастрэлка — і неўзабаве ў паўстанцаў скончыліся зарады.

У апошнюю адчайную атаку зуаваў смерці і касінераў павёў Франсуа дэ Рашбрун. Расійскія войскі адступілі, паўстанцам нават засталіся некалькі гармат, адно толькі забраць артылерыю Рашбрун не змог: паўстанцкая кавалерыя на чале з Юзафам Гутэн-Чапскім даўно ўжо адступіла ў кірунку Кракава.

Усяго ў той дзень, 18 сакавіка, кожны з варожых бакоў страціў пад Грахавіскамі амаль па 300 забітых і яшчэ прыкладна столькі ж параненых. Поле бітвы засталося за паўстанцамі, фармальна яны атрымалі перамогу.

Але перамога гэтая была пірава. Бо такія страты для паўстанцаў былі куды больш істотныя, чым для расійскай арміі. Яны цалкам выкарысталі запас куляў і пораху, а таксама не мелі магчымасці адпачыць — вораг мог зноў узяць іх у кола.

Дыктатар паўстання Марыян Лангевіч з цяжкім сэрцам загадаў падзяліць паўстанцкае войска на драбнейшыя атрады і назаўтра ж уцёк у Аўстрыю.

## Загінулі ўсе

Гэтая падзея стала моцным ударам для паўстанцаў.

Франсуа дэ Рашбрун пасля бітвы пад Грахавіскамі атрымаў званне генерала, але цалкам расчараваўся ў кіраўніках паўстання і вярнуўся ў Кракаў, а пасля з'ехаў у Францыю. Ён яшчэ спрабаваў дамагчыся падтрымкі паўстання з боку вялікіх дзяржаў, але беспаспяхова.

Некалькі дзясяткаў зуаваў, ацалелых пад Грахавіскамі, працягнулі змаганне ў складзе іншых атрадаў. У самім атрадзе зуаваў смерці заставаўся толькі 21 чалавек. Усе яны загінулі 5 мая ў бітве пад вёскай Кшыкаўка.

Іх былы камандзір таксама памёр не сваёй смерцю. Ён загінуў 19 лістапада 1870 года ў час пруска-французскай вайны.

Мундзір галоўнага польскага зуава смерці Франсуа дэ Рашбруна захоўваецца ў Музеі польскага войска ў Варшаве. ◆





**Схема бітвы пад Грахавіскамі** 18 сакавіка 1863 года.

# Карта Вінланда

## Падробка, якую раскусілі толькі праз 60 гадоў

**Мэта была амбіцыйная: даказаць, што нарвежцы раней за іспанцаў адкрылі Новы Свет, піша Ілля Андрэеў.**

З улікам цэнаў на такія экспанаты, гэтыя падзеі горача абмяркоўваюць і антыкварныя клубы, і буйныя таблоіды. Калі пару гадоў таму выкрылі падробленую карту свету Марціна Вальдзэемюлера коштам адзін мільён долараў, справа была найперш у грашах. Але ў гісторыі з нарвежцамі ўсё значна сур'ёзней.

### Заходні край свету

Так званая карта Вінланда (*Vinland Map*) у 1957 годзе трапіла да супрацоўнікаў Ельскага ўніверсітэта ў ЗША. Карта не мела правенансу* і адрознівалася ад іншых дакументаў таго перыяду, асабліва дзіўным быў колер чарніла на старым пергаменце. І ўсё ж яе набылі ў калекцыю ўніверсітэта.

Незвычайнасць карты была ў адной дэталі: на паўднёвы захад ад Грэнландыі яна паказвала востраў *Vinlanda Insula*. І здавалася б, што ж тут дзіўнага: усяго за 1000 кіламетраў на паўднёвы захад — Паўночная Амерыка. Вось толькі яе яшчэ на той час не адкрылі.

Некаторыя навукоўцы адразу сцвярджалі, што карта — падробка, нават называлі меркаванага

DEPOSITPHOTOS.COM, BY BYELIKOVA

* **Правенанс** — пацверджаная дакументальна гісторыя пераходу каштоўнай рэчы ад аднаго ўласніка да іншага.

**Ельскі ўніверсітэт**
прыватны ўніверсітэт ЗША, вядзе сваю гісторыю ад 1701 года і ўваходзіць у дзясятак найлепшых універсітэтаў свету. Універсітэт размешчаны ў горадзе Нью-Хайвен у штаце Канектыкут, гэта за 130 км на паўночны ўсход уздоўж пабярэжжа ад Нью-Ёрка.

Бібліятэка ўніверсітэта заслугоўвае асобнай увагі: яна аб'ядноўвае больш за 40 спецыялізаваных бібліятэк і з'яўляецца трэцяй у свеце сярод універсітэцкіх бібліятэк па колькасці адзінак захавання. Унікальная калекцыя рэдкіх кніг і манускрыптаў захоўваецца ў адным з філіялаў — у Бібліятэцы рэдкіх кніг і рукапісаў Бэйнэке (*Beinecke Rare Book and Manuscript Library*). Амерыканскі фінансіст Фрэдэрык Бэйнэке, вядома, мог пабудаваць яшчэ адзін спальны квартал, напрыклад, у Бостане, але чамусьці вырашыў пабудаваць бібліятэку. У падзяку бібліятэка носіць яго імя.

У калекцыі, акрамя іншага, захоўваецца Рукапіс Войніча (ілюстраваны кодэкс, напісаны невядомым аўтарам на невядомай мове з выкарыстаннем невядомага алфавіта), Біблія Гутэнберга, а таксама рукапісная карта свету Генрыха Мартэла 1491 года, якую не так даўно змаглі поўнасцю прачытаць дзякуючы новым мультыспектральным тэхналогіям.



**Карта Вінланда** — майстэрская падробка.

аўтара. Але хімічны аналіз атраманту* не даваў канчатковага адказу. Іншыя настойвалі на тым, што карта можа быць сапраўднай, і знаходзілі ўскосныя сведчанні ў ісландскіх сагах.

Якраз у 1960 годзе стала вядома аб адкрыцці паселішча вікінгаў на беразе Ньюфаўндленда (востраў ля паўночна-ўсходніх берагоў Паўночнай Амерыкі), і галасы экспертаў, што сумняваліся ў аўтэнтычнасці карты, сціхлі да высвятлення абставін.

Такім чынам, карта Вінланда займела статус карты «невядомага паходжання» з найбольш ранняй выявай Амерыкі — у выглядзе вялікага вострава Вінланд на захад ад Грэнландыі.

### Сенсацыя для народу

На фоне росту цікавасці грамадства да версій аб больш ранім адкрыцці Амерыкі карту выцягнулі з музейных сховішчаў і прэзентавалі на шырокі агляд. Разам з археалагічнымі адкрыццямі ў Ньюфаўндлендзе з'яўленне такой карты зрабіла сенсацыю. Бібліятэка Кангрэсу ЗША, вядомая сваёй прагай да знакавых экспанатаў, выкупіла карту. У 1996 годзе страхавы кошт карты Вінланда складаў ажно 25 млн долараў.

Яшчэ ў 2009 годзе Рэнэ Ларсэн, вядучы дацкі спецыяліст па кансервацыі, у інтэрв'ю агенцтву *Reuters* з упэўненасцю паведамляў, што за пяць гадоў вывучэння карты не ўдалося выявіць ніякіх прыкмет падробкі. Каманда даследчыкаў пад яго кіраўніцтвам даследавала чарніла, пергамент і нават супадзенне чарвяточын канвалюта — сшытага ў адно зборніка кніг, да якога была далучана карта. Псавала карціну толькі прысутнасць у атраманце дыяксіду тытану, але яе патлумачылі слядамі пяску, якія нібыта маглі выкарыстоўваць падчас «сушкі вільготнай фарбы».

Гіпотэза з сушэннем фарбы не выглядае простай. Папраўдзе, пяском фарбу на такіх адбітках, відаць, усё ж не сушылі: цяпер ▶




**Тое, што пасяленні вікінгаў былі на канадскіх астравах**, — цяпер навуковы факт.

* **Атрамант** — па-беларуску сінонім слова «чарніла».

даследчыкі лічаць, што пяском прысыпалі толькі чарнільны подпіс, і тое для таго, каб яго немагчыма было перанесці на іншы дакумент, пракатаўшы гарачым яйкам.

### Нашы землі на карце

Змест карты відавочна адсылае да ісландскіх сагаў (930–1030 гады), у якіх, паміж іншым, расказваецца пра падарожжа некуды да Вінланды вікінга Лейфа Эрыксана Шчаслівага. Відаць, ідэя была ў тым, што такая пераемнасць будзе ўмацоўваць думку пра аўтэнтычнасць карты. Той, хто ствараў карту, мусіў добра ведаць скандынаўскі эпас.

Карту сшылі ў канвалют разам з *Speculum Historiale* (з лаціны «Люстэрка гісторыі») — сярэднявечным зборнікам энцыклапедычных тэкстаў. Аўтару падробкі ўдалося знайсці аркуш пергаменту адпаведнага часу, а для большай пераканаўчасці ён крыху паправіў пазнакі пераплётчыка ў кнізе і дадаў адпаведны надпіс на адварот самой карты: маўляў, гэта «другая частка трэцяга раздзелу *Speculum Historiale*» — а значыць, створана адначасова з ім, каля 1440 года.

Толькі вось вікінгі, якіх на нашых землях звалі варагамі, і сярэдзіна XV стагоддзя — гэта розныя эпохі.

Заўважыць неадпаведнасці маглі, напрыклад, беларускія навукоўцы — каб ім давялося ўзяць удзел у даследаванні карты: усходнееўрапейская прастора паказана на карце вельмі арыгінальна. Дняпро выяўлены як шлях з Чорнага мора, па якім можна прыйсці да *Rusii* на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. Разгалінаванне ракі ў сярэднім яе цячэнні выглядае як нязграбная памылка. Адсутнічае Дон, або яго лакалізацыя зблытана з Дняпром




**Вікінгі, хоць і мелі зносіны з арабамі і Візантыяй, не пакінулі нам сведчанняў, што яны карысталіся картамі.** Тым не менш наш рэгіён яны б намалявалі больш дакладна.

або Волгай (але на карце прысутнічае яго назва *Tanais*).

Для картаграфічнай крыніцы з першай паловы XV стагоддзя гэта выглядае дзіўна, бо на той час ужо склалася кананічная схема адлюстравання гэтай часткі зямлі. Напрыклад, на вядомай карце свету венецыянскага манаха Фра Маўра (датуецца 1450-мі гадамі) дэталёва паказаныя тры маршруты да русаў. Дарэчы, менавіта з гэтымі трыма маршрутамі да русаў па Белай, Чорнай і Чырвонай рэках Фра Маўра звязваў каляровы падзел Русі. У параўнанні з картай Фра Маўра карта Вінланда выглядае больш архаічнай.

Аднак і ведам часоў вікінгаў карта не адпавядае. Можна з упэўненасцю сказаць, што ў XI стагоддзі дасведчаны вікінг-мараплавец змог бы без памылак адлюстраваць схему глабальных гандлёвых маршрутаў са Скандынавіі ў Арабскі халіфат і Візантыю.

### Акт мастацтва ці махлярства?

І вось сёлета даследчыкі з Ельскага ўніверсітэта вынеслі вердыкт: карта з'яўляецца майстэрскай падробкай 1920-х гадоў. Гэтым разам для аналізу было выкарыстана найноўшае даследчыцкае «ўзбраенне».

Радыевугляродны аналіз пацвердзіў, што пергамент датуецца першай паловай XV стагоддзя, аднак малюнак быў зроблены чарнілам, якое ўтрымлівае злучэнне тытану. Атрамант з такім складам упершыню быў выраблены толькі ў 1920-х гадах. Макрарэнтгенаўская флуарэсцэнтная спектраметрыя пацвердзіла, што такое чарніла прысутнічае ва ўсіх лініях і надпісах карты, хоць папярэднія




**З Чорнага мора можна даплыць да *Rusii* ці па Дняпры, ці па Доне**, а ад іх рукой падаць да Готланда і Нарвегіі.

**Дыяксід тытану** — надзвычай белае неарганічнае злучэнне, якое выкарыстоўваюць у вытворчасці фарбаў, пластмас, паперы, касметыкі. Рэчыва было афіцыйна атрымана і названа ў канцы 1800-х гадоў, а шырока выкарыстоўвацца стала з 1920-х, калі набыла моц забарона на выкарыстанне шкодных свінцовых бялілаў.

Нягледзячы на шматлікія даследаванні апошняга часу, дыяксід тытану ўсё яшчэ лічыцца бясшкодным для чалавека і нават выкарыстоўваецца для прадуктаў як фарбавальнік E171: у цукерках, жуйках, соусах.

Хімікі дапускаюць, што вытворцы чарніла з карты Вінланда атрымалі гэтае рэчыва выпадкова, аднак немагчыма патлумачыць выпадковасцю выпраўленні, зробленыя тытанавым атрамантам у тэксце кнігі, да якой карта далучана.

даследаванні выяўлялі сляды дыяксіду тытану фрагментарна.

**Гэта прынцып — не праслаўляць махляроў**

Карта, магчыма, засталася б творам мастацтва, каб не хітрыкі з канвалютам. Дыяксід тытану выявілі таксама ў тых фрагментах, якія аўтар падробкі выправіў у пераплётчыцкіх пазнаках у арыгінальнай кнізе XV стагоддзя. А значыць, падман быў наўмысным. Імя аўтара падробкі, калі нават і вядомае спецыялістам, публічна не называецца: відаць, гэта прынцып — не праслаўляць махляроў.



**Чарніла з дыяксідам тытану** бачнае на макрарэнтгенаўскім здымку.

## Селядцовы сакрэт

Карта Вінланда аспрэчвала першынство Хрыстафора Калумба як адкрывальніка Новага Свету. Звесткі з ісландскіх саг, а таксама адкрыццё еўрапейскіх пасяленняў у Ньюфаўндлендзе спрыялі падману. Калі б карта аказалася аўтэнтычнай, самае абуральнае было б у тым, што прынамсі за 50 гадоў да адважнага падарожжа Калумба па неспакойных хвалях Атлантыкі Новы Свет мог быць вядомы якому-небудзь нарвежскаму рыбаку, які лічыў за лепшае не балбатаць лішняга пра багатыя на селядцоў воды.

І ўсё ж выкрыццё падробкі не з'яўляецца аргументам супраць адкрыцця Амерыкі да Калумба. Сёння гісторыкі згодныя ў меркаванні, што Паўночную Амерыку сапраўды ў канцы X стагоддзя наведалі вікінгі, заснаваўшы там як найменш два пасяленні. Ні замацавацца, ні тым больш каланізаваць новыя землі яны не здолелі. Але вывезлі з тых зямель прынамсі адну амерыканоідную жанчыну, ген якой і сёння сустракаецца ў Ісландыі.

Цікава, ці была ўключана ў пералік страхавых выпадкаў імавернасць таго, што карта можа быць падробкай? Зрэшты, магчыма, што сённяшняя пазнавальнасць карты, а таксама звязаная з ёй гісторыя толькі павялічылі яе рынкавы кошт. ◆



DEPOSITPHOTOS.COM, BY DEREPENTE

**Гены карэнных амерыканцаў** і сёння сустракаюцца ў Ісландыі.

**Нельга выключаць, што скандынавы ўсё ж ведалі пра землі на паўднёвым захадзе, але паведамляць пра іх свету не надта хацелі.** Напрыклад, на марской карце Олаўса Магнуса 1539 года паказаная вялікая колькасць лютых монстраў на захад ад Скандынавіі. Такім чынам шведскі навуковец і картограф улічваў «эканамічныя» інтарэсы сваёй краіны і паказваў, якія жахлівыя выпрабаванні чакаюць рыбакоў з кантынентальнай Еўропы.



16 лютага 1930 года.
**Адкрыццё Нёманскай вузкакалейкі.**

З АРХІВА ЛЮДВІКА ВАРАНОВІЧА

# Абарваны шлях Людвіка Варановіча

**Калі чатыры гады таму ў Музей гісторыі Беларускай чыгункі малады чалавек прынёс рэчы свайго прадзеда Людвіка Варановіча, ён не ведаў пра свайго продка амаль нічога. Захаваліся толькі некалькі фотаздымкаў 1930-х гадоў і пасведчанне работніка вузкакалейкі, выпісанае ў 1935-м. Зачапіўшыся за гэта, нам удалося аднавіць біяграфію, піша старшая захавальніца фондаў музея Беларускай чыгункі Наталля Гермацкая.**

Хоць спачатку нам здавалася: іголка ў сене. У архівах самога музея ні пра Варановіча, ні пра вузкакалейку Замосце нічога не знайшлося. Тым больш што і Замосцяў гэтых у Беларусі шмат — паспрабуй адгадай, пра якое ідзе гаворка.

Вузкакалейныя чыгункі хутка з'яўляліся і таксама хутка знікалі спачатку з зямлі, а пасля і з памяці людзей. Інфраструктура гэтых «танных ліній» была недаўгавечнай, і іх разбіралі, як толькі патрэба ў іх адпадала.

### Лесавозныя чыгункі

Беларусь некалі была вельмі «вузкакалейнай» краінай. Вузкакалейкі пракладалі найперш да нарыхтоўчых

**Вузкакалейная чыгунка**
чыгунка з шырынёй каляі, меншай за стандартную. Усе вузкакалейкі Беларусі маюць шырыню каля 750 мм. Стандартная ж шырыня ў Беларусі, як і на ўсёй постсавецкай прасторы, 1520 мм, еўрапейская — 1435 мм.

прадпрыемстваў, а нарыхтоўвалі ў Беларусі найбольш драўніну. Таму і вузкакалейныя лініі часта падпарадкоўваліся арганізацыям, што адказвалі за лес: спачатку ўся лясная гаспадарка краіны належала Дзяржаўнаму аб'яднанню лясной і дрэваапрацоўчай прамысловасці «Лесбел», а пасля 1932 года — Народнаму камісарыяту лясной прамысловасці СССР.

**Першую вузкакалейку ў Расійскай імперыі** праклаў наш зямляк, інжынер Баляслаў Ялавецкі, выхадзец са Свянцянскага павета Віленскай губерні. У 1892 годзе ён стаў распарадчыкам таварыства для будаўніцтва і эксплуатацыі прыватных вузкакалейных чыгунак. І пачаў сваю дзейнасць з будаўніцтва лініі ад Свянцян да Беразвечча (цяпер гэта былое мястэчка ў межах горада Глыбокае Віцебскай вобласці).

## Вузкакалейныя чыгункі хутка з'яўляліся і таксама хутка знікалі

На адным з перададзеных у музей фотаздымкаў Людвіка Варановіча бачны подпіс *«Открытие узкоколейной ж. д. 807 км МББ ж.д. Замостье. 16.02.1930 г.»*. МББ — гэта Маскоўска-Беларуска-Балтыйская чыгунка, якая з'явілася на картах у 1922 годзе і складалася з дзвюх ліній — Маскоўска-Балтыйскай і Аляксандраўскай (былой Маскоўска-Брэсцкай чыгункі). 807-ы кіламетр чыгункі знаходзіўся недзе ля сучаснага прыпынку Мязінаўка на лініі Мінск – Стоўбцы.

І вось — эўрыка! На картах 1930-х гадоў прыблізна каля сучаснай Мязінаўкі бачна адгалінаванне ад асноўнай каляіны ў паўднёвым напрамку. Чыгунка пачынаецца ад «ляснога склада Камыла» (пагрузачны пункт са складам, куды дастаўлялі лес па Нёманскай вузкакалейцы), праходзіць праз вёску Скароднае і заканчваецца на паўночным баку вёскі Замосце. На гэтым баку ракі Нёман на карце таксама пазначаны тартак*.

Інфармацыі пра будаўніцтва і адкрыццё гэтай вузкакалейкі не знойдзеш у прэсе пачатку 1930-х. Мабыць, прычына была ў тым, што недалёка праходзіла савецка-польская мяжа, а таму ўсё, што маглі, засакрэчвалі. Аднак цяпер мы ведаем, што вузкакалейная лесавозная чыгунка з фотаздымкаў Людвіка Варановіча ўваходзіла тады ў склад Нёманскага ляспрамгаса Уздзенскага раёна.

### Эмоцыі савецкіх справаздач

У Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці выпадкова знайшліся дакументы 1931–1934 гадоў па вузкакалейцы, якая належала Нёманскаму ляспрамгасу. У большасці гэта пратаколы партсходаў мясцовай ячэйкі КП(б)Б.

Здавалася б, чаго чакаць ад гэтых справаводчых дакументаў, сухіх і афіцыйных? Аднак міжрадкоўе канторскіх звестак поўніцца пачуццямі, палемікай ды сваркамі. Падзеі ў краіне таго часу непасрэдным чынам адбіваліся на лёсах людзей. Яскравае таму сведчанне — гісторыя жыцця Людвіка Варановіча, героя музейных фотаздымкаў.

Варановіч прысутны на фотаздымках з адкрыцця Нёманскай вузкакалейкі 16 лютага 1930 года — значыць, ён меў дачыненне да яе будаўніцтва. Пратаколы ж мясцовых партсходаў пачынаюцца з 1931 года, і Варановіч у іх згадваецца як начальнік дэпо Нёманскай вузкакалейкі. Але сам членам партыі ён не быў.

Як жыла вузкакалейка ў гэты час? За пачатак 1931 года ёсць сведчанні аб тым, што побыт рабочых чыгункі яшчэ не быў уладкаваны: яны недастаткова забяспечаныя кватэрамі, прадуктамі, пасцеллю, а персанал сталовай пры вузкакалейцы ўвогуле не мае кватэр і жыве ў памяшканні кухні. Да таго ж у канцы 1931 года ў дэпо вузкакалейкі адбыўся пажар і ягоны драўляны будынак згарэў. Ставілася пытанне аб пабудове драўлянага барака для ўтрымання паравозаў, майстэрняў для рамонту паравозаў і «рухомага саставу». Умовы, карацей, былі спартанскія.

У архіве захаваўся і дакумент, напісаны рукой Людвіка ►

З АРХІВА АЛЯКСАНДРА КАЦЯЛЕНЦА




**Пасведчанне Людвіка Варановіча.**

* **Тартак** — лесапільня.

▶ Врановіча: «Таблица размера вагонных полускатов узкой колеи 750 мм». Дакумент напісаны пісьменна і грунтоўна, і гэта сведчыць, што загадчык дэпо быў чалавекам кампетэнтным ды адукаваным. І гэтым яўна вылучаўся, бо іншая справаводчая дакументацыя Нёманскага ляспрамгаса гэтага часу была напісаная пераважна малапісьменнымі людзьмі і найчасцей тычылася асабістых і побытавых спраў.

Але не ўсё тады вырашаў прафесіяналізм. Восенню 1934 года сход прэзідыума Уздзенскай раённай кантрольнай камісіі — рабоча-сялянскай інспекцыі пастанавіў: «перавесці Варановіча па лініі Трэста-Лесбел у іншае месца работ з Уздзенскага раёна». Разам з ім з працы былі знятыя таксама намеснік дырэктара Нёманскай чыгуначнай веткі Вашыхіс ды машыніст Іван Вярыга. А ўсё гэта — праз публікацыю ў газеце «Рабочы» 1934 года, якая кампраметавала супрацоўнікаў дэпо, у тым ліку Варановіча. І гэта нягледзячы на тое, што ў пратаколе сходу дакладна засведчана: факты шкодніцтва, пералічаныя ў той публікацыі, не пацвердзіліся.

Зрэшты, спецыялісты краіне яшчэ былі патрэбныя, таму, хоць Варановіч і быў вымушаны перавесціся ў іншае месца, далей ад дзяржаўнай мяжы, пасада ў яго стала нават вышэйшай. У пачатку 1935 года ён ужо значыцца на службе ў Дулебскім лесакамбінаце ў Бярэзінскім раёне начальнікам ужо не дэпо, а цэлай Дулебскай чыгуначнай веткі. Пра гэта сведчыць службовае пасведчанне ад 19 студзеня 1935 года, што захавалі сваякі.



З АРХІВА АЛЯКСАНДРА КАЦЯЛЕНЦА



У архіве Варановіча ёсць партрэты дваіх мужчын, няўлоўна падобных да нашага героя. **Кім даводзяцца Людвіку гэтыя франты?** Магчыма, загадка ў паходжанні героя?

### Пільныя дулебскія камуністы

Новае месца службы Варановіча — Дулебскую вузкакалейную чыгунку — можна знайсці на карце Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі 1941 года. Яна пачынаецца ад чыгуначнага раз'езда Мілае (цяпер станцыя Мілае ў Клічаўскім раёне Магілёўскай вобласці), цягнецца на поўнач у бок вёскі Ягадка і заканчваецца паміж вёскамі Дулебы і Рубеж. Сёння гэта тэрыторыя заказніка «Астравы Дулебы».

І зноў усе дакументы, што мы маем, — гэта пратаколы партыйных сходаў Ягадскага, а пазней — Дулебскага механізаваных лесапунктаў за 1936–1937 гады з Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці. У іх згадваюцца паравоз ад Мілага на Ягадку і прозвішчы супрацоўнікаў.

Што вядома пра Людвіка Варановіча на новым месцы працы? Хоць ён па-ранейшаму не быў членам партыі, ягонае прозвішча ў злавесным 1937 годзе адзін раз згадваецца ў дакументах партячэйкі Дулебскага механізаванага лесапункта.

З дакументаў вынікае, што Людвік Варановіч прыняў да сябе на працу машыністам звольненага разам з ім з Нёманскай вузкакалейкі Івана Вярыгу. І тым самым вельмі рызыкаваў, бо той меў «небяспечнае» сацыяльнае паходжанне. Бацька Вярыгі быў прызнаны кулаком, бо меў паравы млын у Уздзенскім раёне. Яго раскулачылі і выслалі, і пільныя члены партячэйкі не маглі прапусціць такі факт, бо асабліва адсочвалі дзейнасць

«чыгуначнай веткі і дэпо, на якіх маюцца прыезджыя ад пагранпаласы». Гэты запіс быў адзіны і апошні, болей ні Людвіка Варановіча, ні Івана Вярыгу пратаколы не згадваюць.

## Людвік Варановіч **свядома** прыняў на працу чалавека з «небяспечным» сацыяльным паходжаннем

Затое згадваецца ўраджэнец мястэчка Дзісна на Віленшчыне (цяпер горад у Мёрскім раёне Віцебскай вобласці) Людвіг Віктаравіч Варановіч 1893 года нараджэння ў спісах рэпрэсаваных базы звестак «Беларускі “Мемарыял”». 16 сакавіка 1938 года яго абвінавацілі ў антысавецкай агітацыі (артыкул 72а Крымінальнага кодэкса БССР) і прысудзілі да 8 гадоў папраўча-працоўнага лагера. Вядома, што да прысуду ён яшчэ нейкі час працаваў майстрам утыльцэха на вагонарамонтным заводзе ў Мінску.

Супадзенняў так шмат, што можна не сумнявацца: кваліфікаваны чыгуначнік Людвік Варановіч з музейных фотаздымкаў і Людвіг Віктаравіч Варановіч з базы «Мемарыяла» — адна і тая ж асоба. Так для нашчадкаў, якія доўга перахоўвалі ягоныя фотакарткі і дакумент, раней амаль міфічная постаць продка напоўнілася рэальным зместам. ◆

Аўтарка дзякуе за парады, падказкі і падтрымку пры падрыхтоўцы тэксту пісьменніку, журналісту і выдаўцу Віктару Уладзіміравічу Хурсіку, а таксама сяброўцы, выкладчыцы-філолагу Валянціне Зразікавай.




**Карта Нёманскай вузкакалейкі**: ад нёманскіх лясоў да пункта пагрузкі.



**Справа, у пойме Нёмана, заканчвалася Нёманская вузкакалейка.** Цяпер ад яе няма і знаку.

ФОТА НАТАЛЛІ ГЕРМАЦКАЙ

# ПІНСКІЯ КАПЛІЧКІ

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**На каталіцкіх могілках у Пінску захаваліся дзве незвычайныя надмагільныя капліччкі, якія не маюць аналагаў. Піша гісторык-некрапаліст Сяргей Грунтоў.**

Гэтыя капліцы нібы ўраслі ў зямлю: за невысокімі аркамі — нізкія скляпенні над намагільнымі плітамі, што ляжаць проста на зямлі. Капліччка фактычна накрывае сабою пахаванне, хавае яго ад вачэй. І ўсё ж пліты не схаваны цалкам: калі сесці на кукішкі ці ўкленчыць перад помнікам, можна нават прачытаць эпітафію.

Аднак капліцы не такія старыя, і гэтыя аркі нізкімі былі ад пачатку. Абедзве нагадваюць дамок. Пад скляпеннямі першага — дзве каменныя пліты над пахаваннямі Ежы і Ізабэлы Асмалоўскіх, памерлых у 1879 і 1894 гадах. Пад дзівоснай формы дахам другога — чыгунная пліта доктара Яна Хамінскага, памерлага ў 1875 годзе.

У такіх грунтоўных, прафесійна спраектаваных канструкцый відавочна была нейкая ідэя, мэта. Аднак якая? Крыніцы маўчаць,



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Пліты Асмалоўскіх.**

застаецца шукаць падабенствы.

У XIX стагоддзі над пахаваннямі папулярна было ўзводзіць альтанкі з дахамі, якія хавалі надмагіллі ад дажджу і птушак. Але гэта былі немалыя па памерах канструкцыі, куды маглі зайсці ў поўны рост некалькі чалавек. Або цалкам замураваныя будыначкі: ні ўвайсці, ні нават зазірнуць у іх было нельга.

Кампактныя памеры мелі габрэйскія *огелі* — збудаванні вакол магілы, якія служылі ёй дадатковай аховай. Часам гэта былі зусім малыя драўляныя «дамкі», хоць для самых багатых і шанаваных членаў грамады *огелі* маглі быць вельмі вялікімі: як сапраўдны павільён. Але нам невядомыя прыклады *огеляў* з такімі арачнымі канструкцыямі.

У хрысціян была ўласная вельмі

даўняя традыцыя накрываць магілу «нарубам» — невялікім зрубам у форме хаткі. У тарцавой яе частцы найчасцей пpаразалася акенца, часта ў форме крыжа. Дах у старых варыянтах быў крыты дробнай гонтаю, а пазней — дошкамі. Такія нарубы абараняялі магілу ад дзікіх звяроў, паводак, рассыпання з часам і зарастання пустазеллем. Многія огелі на Палессі вельмі блізка паўтаралі іх форму. Сёння нарубы захаваліся толькі ў некалькіх месцах на Гомельшчыне і Падняпроўі.

Найбліжэйшае падабенства да пінскіх каплічак яшчэ нядаўна можна было пабачыць у Ляхавічах. Тут стаяла вялікая арачная надмагільная капліца з купалам. Усярэдзіне на пастаменце было адлітае чыгуннае надмагілле Даменіка Рэйтана, пляменніка славутага Тадэвуша Рэйтана. Каб яго агледзець, трэба было не прысядаць, а, наадварот, падымаць галаву ўверх: канструкцыя на свой лад дзівосная і незвычайная. Капліца



Вось так **капліца Даменіка Рэйтана** выглядала ў 2013 годзе.




**Огель** у Стоўбцах

тая была дужа крохкая, яе спрабавалі ратаваць, зрабіўшы навес, але ўрэшце яна цалкам развалілася.

Што да пінскіх каплічак, то насуперак нязручнасці для тых, хто хоча ўбачыць надмагільныя пліты, яны валодаюць чыста функцыянальнай перавагай. Па-першае, трывала абараняюць ад ападкаў і ветру, так што пліты не псуюцца. Па-другое, гэта і надзейная абарона ад вандалаў: пад арку з рыдлёўкай проста не падлезці. Ці не таму абралі менавіта такую канструкцыю, мы не ведаем.

Арачныя каплічкі берагуць пахаванні пінчукоў XIX стагоддзя гэтак жа надзейна, як і свае таямніцы. ◆




**Надмагільныя дамкі.** Палессе, вёска Вялута, Лунінецкі раён.




**Трошкі бліжэй да Сонца, трошкі далей ад Месяца: беларуская народная філасофія** / уклад. і агул. рэд.: І. М. Дубянецкая, С. І. Санько; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т філасофіі. — Мінск : Беларуская навука, 2021. — 481 с.

Дзесяць аўтараў зрабілі спробу сістэматызаваць ключавыя тэмы, ідэі і канцэпты традыцыйнага светапогляду беларусаў. Тут ахоплены народныя ўяўленні пра тое, як утварыўся свет, пра справядлівы грамадскі лад і фундаментальныя каштоўнасці, пра чалавека і яго месца.

Больш за 160 артыкулаў, якія разам складаюцца ў даследаванне беларускай карціны свету. Рэдактар, доктар філасофіі і сакральнай тэалогіі Ірына Дубянецкая дала кожнаму артыкулу назву з беларускай літаратуры і эпіграф, з якіх відаць, як наша культура ўзаемадзейнічае з народнай традыцыяй, рэагуе на яе, развівае, адпрэчвае, перайначвае.

Набыць выданне можна ў **«Акадэмкнізе»**.

# «Чые целы непахаваныя ляжаць каля касцёла»

**У касцёле Святога Ісідора Аратага ў Нясвіжы нейкі час захоўвалася цела Караля Радзівіла Пане Каханку, а яшчэ раней вакол яго хавалі памерлых ад чумы. У савецкі час касцёл бясследна знік. Пра колішнюю езуіцкую святыню піша даследчык Уладзімір Караленак.**

На дзясятках старых фотаздымкаў, малюнкаў і карцін можна пабачыць Слуцкую браму — апошнія вароты старажытнага Нясвіжа, якія дайшлі да нашага часу. Як і сотні гадоў таму, іх нельга абмінуць, калі рушыш з цэнтра горада ў бок прадмесця Новае места. Да сярэдзіны XX стагоддзя на шляху па дамбе праз ставы ракі Ушы добрым арыенцірам у любую непагадзь быў касцёл Святога Ісідора, які нібы выглядаў са старадаўняй аркі Слуцкай брамы. Што гэта за касцёл і які лёс яго спасціг?



**Слуцкая брама** і сілуэт касцёла Святога Ісідора ў яе арцы.

## Сціплае дзіця пышнага барока

Касцёл Святога Ісідора з'явіўся на нясвіжскім прадмесці Новае места дзякуючы намаганням Андрэя Баболі. У 1622–1624 гадах езуіт Баболя быў рэктарам нясвіжскага касцёла Божага Цела. Рукапалажэнне ў святары ён атрымаў у адзін дзень з кананізацыяй заснавальніка ордэна езуітаў Ігнасія Лаёлы і Ісідора Мадрыдскага. Верагодна, што спрычыніўся Андрэй Баболя і да стварэння брацтва Святога Ісідора ў Нясвіжы.

Распараджэнне пра будаўніцтва касцёла паспеў яшчэ даць другі нясвіжскі ардынат князь Ян Юры Радзівіл (1588–1625). Але скончана яно было ўжо пасля яго смерці, у 1626 годзе. Праўда, доля гэтага храма не была надта шчаслівай. Касцёл Святога Ісідора ніколі не мог спаборнічаць у пышнасці з барочным касцёлам Божага Цела, а ў сярэдзіне XVII стагоддзя ён да таго ж быў пашкоджаны ваеннымі дзеяннямі, бо непадалёк размяшчалася артылерыя маскоўскіх войскаў.

Ускосна сведчыць пра занапад храма тое, што прыпісанае да яго брацтва Святога Ісідора ў той час знікае і аднаўляецца толькі ў 1664 годзе, ужо пры касцёле Божага Цела. Згадаем, што дагэтуль частка крыпты гэтага касцёла (да кратаў, за якімі знаходзяцца саркафагі Радзівілаў) таксама



## Патрон земляробаў

Культ святога Ісідора быў масава распаўсюджаны на тэрыторыі Рэчы Паспалітай дзякуючы езуітам. Яны засноўвалі брацтвы Святога Ісідора ў мястэчках і невялікіх гарадах з думкай аб набліжэнні жыцця іх жыхароў да ідылічнага хрысціянскага ладу. Існавала такое брацтва і ў Нясвіжы.

Святы Ісідор — гэта іспанскі святы, які жыў у XI–XII стагоддзях. Каб адрозніць ад іншага іспанскага святога, Ісідора Севільскага (сённяшні святы заступнік інтэрнэту), яго называлі Ісідорам Мадрыдскім. Таксама ён меў мянушкі Парабка, Селяніна і Аратага. Святы Ісідор да гэтага часу лічыцца святым патронам горада Мадрыда і ўсіх земляробаў, бо і сам пры жыцці займаўся сялянскай працай. Нягледзячы на тое, што яго культ існаваў яшчэ ў часы Сярэднявечча, беатыфікаваны ён быў толькі ў 1619 годзе, а кананізаваны ў 1622-м.





**Касцёл Святога Ісідора** да (канец XIX стагоддзя) і пасля апошняй рэстаўрацыі (пачатак XX стагоддзя).

асвечана ў гонар святога Ісідора Аратага. Відавочна, такім чынам хацелі кампенсаваць па нейкай прычыне да таго часу страчаную або нядзейную святыню.

### Вымерла траціна горада

Вось толькі не адна вайна, відаць, спрычынілася да таго, што касцёл заняпаў. У Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве захаваўся фундуш XVII стагоддзя ад шляхцічаў Грахоўскіх, якія прафундавалі адзін з алтароў у езуіцкім касцёле Божага Цела. Паводле фундуша, кожную нядзелю і пятніцу езуіты мусілі праводзіць імшу ў касцёле Святога Ісідора, дзе маліліся б за гэты храм, за смяротна хворых, за грэшнікаў, за зварот у веру хрысціянскую няверных і інш. У пятніцу маліцца трэба было за душы памерлых, асабліва тых, чые целы непахаваныя ляжаць каля касцёла Святога Ісідора.

Справа ў тым, што вакол касцёла знаходзіліся адны з самых старых могілак Нясвіжа. І гэтыя могілкі мелі адметнасць: тут пахаваныя сотні памерлых ад чумы 1627 года. Жахлівая эпідэмія, па падліках навукоўцаў, забіла тады да траціны жыхароў горада.

Цёмная рэпутацыя могілак распаўсюдзілася і на невялікі касцёл на іх тэрыторыі. Можна меркаваць, што гараджане яшчэ доўга баяліся гэтага месца.

### Могілкі саступаюць рынку

Праз паўтара стагоддзя памяць пра памерлых ад чумы пачынае сціраецца, а тэрыторыю могілак адваёўвае рынак, дзе навакольныя сяляне гандлявалі сваімі таварамі.

Ля рынка працягваў стаяць невялікі касцельчык Святога Ісідора, што ніколі не разбудоўваўся да памераў вялікіх нясвіжскіх святынь і значны час свайго існавання ўвогуле лічыўся капліцай. Разам з тым менавіта ў ім на працягу трыццаці гадоў захоўвалася труна з целам Караля Станіслава Радзівіла Пане Каханку перад яго канчатковым супакаеннем у сямейнай радзівілаўскай крыпце касцёла Божага Цела.

А далейшы лёс касцёла на кароткі час прадвызначыў страшэнны пажар 1836 года, які знішчыў цэнтр Нясвіжа. У полымі загінула Праабражэнская царква каля Ратушы, і касцёл Святога Ісідора амаль на дзесяць гадоў стаў прытулкам для праваслаўнага прыхода. Праўда, аддаленасць ад цэнтра горада і маленькія памеры храма не задаволілі праваслаўных іерархаў, а таму, як толькі гэта стала тэхнічна магчыма, яны перасяліліся ў адрамантаваны пасля пажару будынак Ратушы, прыстасаваны пад праваслаўную царкву. ▶

▶ Будынак касцёла Святога Ісідора пасля таго застаўся без гаспадароў і паціху нішчыўся, пакуль на яго не звярнула ўвагу Марыя Дарота Радзівіл, жонка нясвіжскага ардыната Антонія Вільгельма Радзівіла, якая ў канцы XIX стагоддзя адрэстаўравала будынак. Але ненадоўга. Менш чым праз паўстагоддзя сюды прыйшла савецкая ўлада з яе суровай атэістычнай палітыкай.



**Капліца Святога Вінцэнта** на фотаздымку першай паловы XX стагоддзя. Капліца з’явілася ў самым канцы XVIII стагоддзя насупраць касцёла Святога Ісідора.

## Дзеля радзільні

1954 год пакінуў нам дэталёвыя абмеры касцёла Святога Ісідора. Гэта быў невялікі будынак памерам 670 на 890 см са сценамі таўшчынёй большай за паўметра. Магчыма, касцёл тады рыхтаваліся ўнесці ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны, але пачаўся новы віток барацьбы з рэлігіяй, і храм стаў яе ахвярай, бясследна прапаўшы.

Зрэшты, не так і бясследна. У 1921–1922 гадах каля касцёла адкрылі бальніцу, якую ў савецкі пасляваенны час павялічылі ў памерах і перапрафілявалі ў радзільны дом. Капліцу Святога Вінцэнта, якая месцілася непадалёк, у час той рэканструкцыі раёна знеслі, а на яе месцы высадзілі дрэвы і зрабілі сквер з дзіцячай пляцоўкай. Што ж тычыцца касцёла Святога Ісідора, ад якога на той момант засталіся адныя сцены без даху, то ён альбо быў разабраны, а цэгла выкарыстаная для будаўніцтва, альбо проста далучаны да аднаго з будынкаў і стаў непасрэднай часткай радзільні.

За больш як паўстагоддзя яе існавання тут нарадзіліся тысячы хлопчыкаў. Цікава, ці быў сярод іх хоць адзін Ісідор?.. ◆



**Рэвалюцыйны мітынг на Новым месце.** Удалечыні бачны касцёл Святога Ісідора, бліжэй — капліца Святога Вінцэнта.





**Абмеры касцёла Святога Ісідора**, 1954 год.

# «Гвардыі старшына Ульяновіч, беларус»

У № 9/2021 «Нашай гісторыі» ў тэксце Алеся Белага «Цвітуць на ўзлеску верасы» позірк мой спыніўся на вершаванай цытаце:

*А навокал вежы, як акінуць вокам,*
*Пушчы Белавежскае лясы.*
*Край ты мой любімы, родная старонка,*
*Подыхам мядовым пахнуць верасы.*

Гэта фрагмент песні «Белая Вежа» ансамбля «Верасы», словы якой напісаў Аляксандр Ульяновіч — ветэран вайны, колішні першы намеснік міністра культуры БССР. Так супала, што нам выпала пазнаёміцца сёлета ў чэрвені, калі я запісваў успаміны ветэрана аб яго баявым шляху. Але цяпер, калі я ўзяўся чытаць часопіс, Аляксандра Іосіфавіча ўжо не стала — ён памёр 30 кастрычніка на 101-м годзе жыцця.

Аляксандр Ульяновіч нарадзіўся ў Капылі 3 кастрычніка 1921 года. У 1940-м быў прызваны ў войска і накіраваны ў Омск, у 66-ю школу малодшых авіяспецыялістаў, дзе ў чэрвені 1941-га атрымаў спецыяльнасць стралка-радыста. З пачаткам вайны малады сяржант трапіў у горад Іванава, дзе працягнуў навучанне ў Другой вышэйшай школе штурманаў, паралельна беручы ўдзел у баявых вылетах на дальніх бамбардзіроўшчыках ДБ-3Ф (пазней гэтыя самалёты сталі называць Іл-4). Самалёты былі вучэбныя, нават без брані: яе не паспелі навесіць да пачатку вайны. Часам самалёт Ульяновіча быў адзіным, які вяртаўся з задання.

Увосень 1942 года чарговы вылет ледзь не скончыўся трагічна: снарад нямецкай зеніткі трапіў у рухавік, і самалёт загарэўся, камандзір экіпажу даў каманду пакінуць машыну. Але да таго дня Аляксандр Ульяновіч... не ўмеў карыстацца парашутам: курсантаў проста не паспелі гэтаму навучыць, не кажучы пра адпаведныя трэніроўкі. Выскачыўшы з самалёта, ён інстынктыўна пацягнуў за кальцо раней, чым трэба: па правілах неабходна было пэўны час правесці ў свабодным падзенні. Парашут



раскрыўся, але адразу ж быў пашкоджаны вінтом самалёта. Гэтая памылка, як ні дзіўна, акурат уратавала байцу жыццё: тых, хто пры дэсантаванні адкрыў парашуты належным чынам, ветрам знесла на варожыя пазіцыі, і яны трапілі ў палон. Сам жа ён цудам усё ж прызямліўся на сваёй тэрыторыі, і нават атрыманыя пры гэтым пашкоджанні былі не вельмі значныя. Хоць лячыцца пасля таго давялося.

Пасля выздараўлення Аляксандр Ульяновіч па стане здароўя быў пераведзены ў наземныя войскі на пасаду начальніка батальённай радыёстанцыі РБМ — гэтую трынаццацікілаграмовую махіну даводзілася цягаць на сабе. Удзельнічаў у вызваленні Харкава, Варшавы, штурме Зээлаўскіх вышыняў — апошні эпізод ён называе самым небяспечным і кровапралітным. Да цэнтра Берліна іх батальён з вулічнымі баямі падыходзіў з боку раёна Ціргартэн. Апоўдні 2 мая 1945 года ён спыніўся за трыста метраў ад лініі супрацьстаяння, калі стала вядома пра капітуляцыю берлінскага гарнізона і заканчэнне баявых дзеянняў. Дайшоўшы да Рэйхстага, Аляксандр Іосіфавіч з гонарам распісаўся на яго сценах: «Гвардыі старшына Ульяновіч, беларус».

Пасля вайны ветэран працаваў на розных пасадах: быў сакратаром Гродзенскага абкама Камуністычнай партыі Беларусі, першым намеснікам міністра культуры БССР, а з 1981 па 1994 гады ўзначальваў Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. На пасадзе намесніка міністра культуры Аляксандру Ульяновічу часам даводзілася сутыкацца з няпростым выбарам. Так, калі падчас пабудовы Аўтазаводскай лініі мінскага метро ў другой палове 1980-х тунэль прайшоў пад Святадухаўскім кафедральным саборам, яго фундамент даў расколіну, што пагражала разбурэннем помніка. Службы ў храме спыніліся, яго былі вымушаныя зачыніць, што выклікала незадавальненне вернікаў. Пасля візіту мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта Аляксандр Ульяновіч даручыў, каб фундамент храма быў умацаваны. У выніку падняўся скандал, нядобразычлівцы пачалі нагаворваць: маўляў, замест таго, каб рамантаваць клубы, сродкі накіроўваюцца на аднаўленне храма. Часы былі яшчэ афіцыйна атэістычныя. Ульяновіч атрымаў строгую вымову, але з пасады яго не знялі — а неўзабаве і саюзнае кіраўніцтва прызнала гісторыка-культурную каштоўнасць храма.

У 2016 годзе, святкуючы сваё 95-годдзе, Аляксандр Іосіфавіч выдаў паэтычны зборнік пад назвай «Памятное», куды ўвайшлі найлепшыя з вершаў, якія ветэран пісаў на працягу ўсяго свайго жыцця — на рускай і беларускай мовах. Нягледзячы на гады, ён меў выдатную памяць на ўласныя вершы і ўпэўнена ды артыстычна дэкламаваў іх нават пры нашай сёлетняй сустрэчы. Беларуская спадчына і мова не былі для яго пустым гукам.

Этнограф і краязнаўца Сымон Барыс узгадваў: «У 1977 годзе заходжу я ў кабінет першага намесніка міністра культуры БССР Аляксандра Іосіфавіча Ульяновіча і гавару па-руску, а ён са мной — па-беларуску. Я хуценька зразумеў, што мне трэба гаварыць па-беларуску, і як вынік — мая праблема была вырашаная адразу».

**Антон Рудак**





































## Шукайце часопіс у кнігарнях і крамах!

**Мінск**

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз knihi.by, kniganosha.by, mmkut.by, halijafy.by, ragna.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.